ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА





КАВІК
№ 3
(17)

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

1932

ДА ЎСІХ КОРЭСПОНДЭНТАЎ

# „САВЕЦКАЙ КРАІНЫ“,

ДА ЎСІХ КРАЯЗНАЎЦАЎ.

ПЯТЫ НУМАР ЧАСОПІСУ „САВЕЦКАЯ КРАІНА“ ЗА МАЙ 1932 ГОДУ ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА ПЫТАНЬНЯМ

## ВЫВУЧЭНЬНЯ ПРЫРОДНЫХ БАГАЦЬЦЯЎ БССР

У НУМАРЫ МЯРКУЕЦЦА ЗЬМЯСЬЦІЦЬ ЦЭЛЫ РАД ПРОГРАМ, ІНСТРУКЦЫЙ І МАТАР'ЯЛАЎ ПА ГЭТАМУ ПЫТАНЬНЮ.

ТАМУ РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСУ **ЗВАРАЧАЕЦЦА З ПРОСЬБАЙ** ДА ЎСІХ КРАЯЗНАЎЧЫХ ОРГАНІЗАЦЫЙ, КОРЭСПОНДЭНТАЎ І ЧЫТАЧОЎ НАШАГА ЧАСОПІСУ

**ОРГАНІЗАВАЦЬ ПРЫСЫЛКУ МАТАР'ЯЛАЎ** (АРТЫКУЛАЎ, ЗАМЕТАК) АБ ЭНЭРГЕТЫЧНЫХ І СЫРАВІНЫХ РЭСУРСАХ СВАЙГО РАЁНУ І ПААСОБНЫХ ЯГО ЧАСТАК.

*РЭДАКЦЫЯ*

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

САКАВІК

№ 3 (17)

МЕНСК — 1932

**В. Серафімаў**

# Барацьба за пасьпяховае правядзеньне трэцяй бальшавіцкай вясны—барацьба за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў

У сваёй пастанове ў жніўні 1931 г. аб тэмпах колектывізацыі ЦК УсеКП(б) з усёй яскравасьцю паказаў, што далейшае разгортваньне колектывізацыі павінна ісьці на аснове організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у арцельнай форме.

У сваіх дырэктывах ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б неаднакраць падкрэсьлівалі значэньне організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у далейшым наступленьні социялізму.

XVII партконфэрэнцыя таксама з усёй яскравасьцю падкрэсьліла, што „задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і социялістычнага перавыхаваньня колгасных мас павінна стаяць у цэнтры ўвагі і ў другой пяцігодцы“ (з пастаноў XVII партконфэрэнцыі).

Разгорнутую бальшавіцкую програму організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў дае пастанова аб'яднанага сакавіковага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб правядзеньні вясновай с/гаспадарчай кампаніі 1932 г.

Пленум ЦК і ЦКК асноўным лёзунгам трэцяй бальшавіцкай вясны—рашаючай с/гаспадарчай кампаніі чацьвертага заключнага году пяцігодкі—высоўвае барацьбу за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, за аўладаньне агротэхнікай, за ўкараненьне севазвароту, за высокаякасную апрацоўку глебы, за ўзорную організацыю ўборкі, за барацьбу са стратамі.

Характарызуючы асаблівасьці, у якіх разгортваецца трэцяя бальшавіцкая вясна і якія поўнасьцю забясьпечваюць пасьпяховасьць яе правядзеньня, пленум адзначае тыя вялізарнейшыя дасягненьні, якія мы маем на сягоньня і якія забясьпечваюць далейшае социялістычнае будаўніцтва. Гэтыя асаблівасьці характарызуюцца рашаючымі перамогамі партыі ў галіне індустрыялізацыі, соц. рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, у выніку чаго колгасы і саўгасы займаюць пераважнае месца ў сельска-гаспадарчай вытворчасьці; вялізарнейшыя посьпехі ў разгортваньні МТС—у трэцюю бальшавіцкую вясну на колгасных палёх БССР будзе працаваць 57 МТС з трактарным паркам у 18.400 Н. Р. Пленум падкрэсьлівае далейшае абвастрэньне клясавай барацьбы, „якое выклікаецца разгорнутым социялістычным наступленьнем на ўсіх франтох будаўніцтва і супраціўленьнем гэтаму наступу аджываю-

чых і ліквідуемых капіталістычных элемэнтаў" (з пастановы пленуму ЦК і ЦКК).

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б таксама з усёй яскравасьцю падкрэсьліў, што барацьба за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў ёсьць барацьба за ўмацаваньне арцельнай формы колгасаў. Рашаючае значэньне ў барацьбе за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў мае організацыя працы на аснове брыгаднага мэтоду, як лепшай формы, якая забясьпечвае максымальную продукцыйнасьць працы, ліквідацыю ўраўнілаўкі і абязьлічкі. Таму ЦК катэгорычна прапанаваў безадкладна прыступіць да організацыі вытворчых брыгад з сталым складам колгасьнікаў, з прымацаваньнем да іх участкаў зямлі, інвэнтару, насеньня, выходзячы з пляну брыгады.

Правільная організацыя працы ў колгасе забясьпечвае максымальнае разгортваньне адыходніцтва колгасьнікаў. Пленум абавязвае партыйныя і савецкія організацыі забясьпечыць організацыю адыходніцтва, вядучы барацьбу з самацёкам у гэтай справе.

Барацьба за поўнае выкананьне плянаў—галоўнейшая задача трэцяй бальшавіцкай вясны. Размовы аб нерэальнасьці плянаў пленум расцэньвае як барацьбу супроць плянаў і нежаданьне мобілізаваць масы на іх выкананьне. „Павінна быць разгорнута самая бязьлітасная барацьба з імкненьнем скараціць пляны, асабліва за кошт тэхнічных культур і асваеньня новых зямель, з самацёкам у мобілізацыі другарадных культур" (з пастановы пленуму).

Барацьба за ўздым ураджайнасьці—у цэнтры ўвагі ўсёй работы сяўбы. Ачыстка і пратручваньне насеньня, вапнаваньне і тарфаваньне глебы, своечасовая вывазка гною, своечасовая дастаўка мінэральнага ўгнаеньня, збор попелу, раньняе ворыва—зьяўляецца абавязковым практычным мерапрыемствам па ўздыму ўраджайнасьці. Пленум падкрэсьлівае, што на аснове правядзеньня гэтых мерапрыемстваў мы павінны дабіцца „ўраджайнасьці з га ня менш 2,6 цэнтнераў па ільнавалакну, 4 цэнт. па канаплі-валакну, 112 па гародным культурам, па канюшынам і севу 35 цэнт., па вікаваму сену 33 цэнт., па зярновым культурам 9 цэнт" (з пастановы пленуму).

Пленум ЦК і ЦКК з усёй катэгорычнасьцю абвязвае ўсе партыйныя, савецкія і колгасныя організацыі забясьпечыць няўхільнае выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 26 сакавіка г.г. аб прымусовым абагуленьні жывёлы. „У радзе раёнаў назіраецца практыка абагуленьня кароў і дробнай жывёлы ў паасобных колгасьнікаў, фактычна прымусовымі спосабамі, што самым грубым чынам парушае неаднаразовыя ўказаньні цэнтральнага камітэту партыі і статут сельска-гаспадарчай арцелі. Цэнтральны камітэт УсеКП(б) з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што толькі ворагі колгасаў могуць дапускаць прымусовае абагуленьне кароў і дробнай жывёлы ў паасобных колгасьнікаў. Цэнтральны камітэт растлумачвае, што практыка прымусовага адбіраньня ў колгасьнікаў кароў і дробнай жывёлы ня мае нічога агульнага з політыкай партыі. Задача партыі састаіць у тым, каб у кожнага колгасьніка была свая карова, дробная жывёла, птушка. Далейшае пашырэньне і разьвіцьцё колгасных фэрмаў павінна ісьці толькі шляхам вырашчваньня фэрмамі маладняка або куплі імі жывёлы" (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 26/III). ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове прапануе ўсім партыйным, савецкім і колгасным організацыям спыніць усякія спробы прымусовага абагульненьня кароў і дробнай жывёлы ў колгасьнікаў, а вінаватых у парушэньні гэтай дырэктывы ЦК—выключыць з партыі; організаваць дапамогу колгасьнікам, якія ня маюць

каровы ці дробнай жывёлы, у куплі і вырашчваньні маладняку для сваіх патрэб.

Асаблівую ролю пленум ЦК і ЦКК у вясновай сяўбе надае пытаньню барацьбы за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і організацыю колгаснай вытворчасьці МТС. „Работу МТС партыя будзе ацэньваць па вынікам ураджайнасьці і па падвышэньню таварнасьці абслугоўваемых імі колгасаў, па выкананьню гэтымі колгасамі ўсіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай“ (з пастановы пленуму). Падкрэсьліваючы неабходнасьць выключнай увагі ў паляпшэньні кіраўніцтва савгасамі з боку трэстаў і раённых організацый, пленум зварочвае ўвагу на вялізарнейшую ролю савгасаў у веснавой сяўбе, якія „павінны стаць авангардам у барацьбе за высокі ўраджай, за новую соцыялістычную культуру земляробства“ (з пастаноў пленуму). Неадкладным мерапрыемствам зьяўляецца сканчэньне заключэньня дагавароў паміж савгасамі і колгасамі на неабходную рабочую сілу для савгасаў і шырокая практыка ўзаемадапамогі ў часе палявых работ.

Падрыхтоўка кадраў зьяўляецца непадзельнай часткай пасьпяховага правядзеньня трэцяй бальшавіцкай вясны. Пленум падкрэсьлівае, што ад падрыхтоўкі кадраў, асабліва брыгадзіраў і трактарыстаў, у значнай ступені будзе залежаць выкананьне пастаўленых задач трэцяй бальшавіцкай вясны.

Разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва сярод рабочых МТС, савгасаў, сярод колгасьнікаў, кіраўнічая роля комуністаў і комсамольцаў, якія павінны быць пагалоўна самі ўдарнікамі і організатарамі ўдарніцтва і соцыялістычнага спаборніцтва—баявы загад пленуму ЦК і ЦКК.

Падрыхтоўка і разгортваньне вясновае сяўбы сустракае шалёнае супраціўленьне клясавага ворага і яго агентуры ў радох партыі. „Кулацтва ўсю энэргію накіроўвае на тое, каб падарваць справу організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, стварэньня брыгад, як асноўнага зьвяна колгаснай вытворчасьці, нацкоўвае адсталых колгасьнікаў на перадавых ударнікаў-актывістаў, супроць укараненьня новай тэхнікі, агротэхнікі ў колгасе, у радзе выпадкаў клясавы вораг не сустракае рашучага адпору, нават з боку партыйных організацый. Пленум падкрэсьлівае, што задачы трэцяй бальшавіцкай вясны могуць быць выкананы толькі ў рашучай барацьбе з клясавым ворагам, у прыватнасьці пры рашучай ачыстцы колгасаў ад кулацкага роду элемэнтаў, у барацьбе з агентурай клясавага ворага, правымі і „левымі“ опортуністамі і з прымірэнцтвам да ўхілаў ад лініі партыі“ (з пастановы пленуму).

Пастановы сакавіковага пленуму ЦК і ЦКК зьяўляюцца баявой праграмай масавай навукова-дасьледчай работы і краяведных організацый. Пленум дае конкрэтную праграму барацьбы і актыўнага ўдзелу краяведных організацый у навукова-дасьледчай рабоце, у організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.

Падкрэсьліваючы выключную ролю барацьбы за аўладаньне агротэхнікай і зоотэхнікай, пленум ЦК і ЦКК падкрэсьліў актыўнейшую ролю ў гэтай справе навукова-дасьледчай работы. „Паставіць цэнтральнай задачай перад усімі сельска-гаспадарчымі навукова-дасьледчымі ўстановамі ўкараненьне ў шырокія масы агротэхнікі і абавязаць дзяржвыдавецтва пашырыць выданьне популярнай навукова-агротэхнічнай літаратуры, плякатаў і лістовак“ (з пастаноў пленуму).

Гэтая простая дырэктыва ЦК яшчэ раз з усёй катэгорычнасьцю ставіць перад навукова-дасьледчай работай задачу безагаворачнага

ўключэньня ў барацьбу за ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі, за ўдарныя тэмпы навукова-дасьледчай работы на актуальнейшых пытаньнях за аўладаньне тэхнікай у сельскай гаспадарцы. Зусім зразумела, што дырэктыва ЦК патрабуе шырачэйшай арганізацыі рабочых савгасаў, МТС і колгасных мас на барацьбу за аўладаньне агратэхнікай. Краязнаўства—як арганізацыя мас на навукова-дасьледчую работу, набывае актуальнейшае значэньне і патрабуе асаблівай гібкасьці і опэрацыйнасьці ў сваёй дасьледчай рабоце. Краязнаўчыя арганізацыі ў вясновую сяўбу павінны арганізаваць вывучэньне колгасаў, МТС, савгасу на аснове дырэктыў партыі, і арганізаваць шырокае высьвятленьне вопыту ў друку. Сыстэматычнае вывучэньне арганізацыі працы ў колгасах з мэтай шырачэйшага абмену вопытам сярод колгасаў, савгасаў. „Савецкая Краіна“ на сваіх старонках будзе шырока высьвятляць пытаньні арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, пытаньне арганізацыі працы ў колгасах, ход вясновае сяўбы.

Пленум адзначыў нездавальняючую падрыхтоўку вясновай сяўбы. Вынікам нездавальняючай падрыхтоўкі да сяўбы зьяўляецца адсутнасьць разгорнутай масавай работы, адсутнасьць конкрэтнага і опэрацыйнага кіраўніцтва ходам падрыхтоўкі і асабліва арганізацыі працы на аснове 6 указаньняў тав. Сталіна. Гэтая ацэнка падрыхтоўкі да пасяўной кампаніі пленуму поўнасьцю адносіцца і да краязнаўчых арганізацый, якія сваёй работы не перабудавалі па-новаму, плятуцца ў хвасьце, а часта зусім ігноруюць разгортваньне краязнаўчай работы і мобілізацыю краязнаўчых арганізацый на барацьбу за выкананьне дырэктыў партыі.

Дырэктывы пленуму аб пасяўной кампаніі зьяўляюцца баявым заданьнем для кожнага раённага бюро, для кожнай краязнаўчай ячэйкі. Ацэнку работы краязнаўчых арганізацый трэба рабіць з таго, як краязнаўчая работа дапамагла ў конкрэтнай барацьбе за ажыцьцяўленьне плянаў вясновай сяўбы. Праз дасканалае вывучэньне ўсіх рэсурсаў у выкананьні пляну краязнаўцы павінны змагацца ня толькі за выкананьне, а перавыкананьне пляну сяўбы. Не балбатня аб „нерэальнасьці“, а яскравы аналіз усіх магчымасьцяў, зразумелы, популярны паказ гэтых магчымасьцяў перад колгаснымі масамі і пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі арганізацыя колгасу, савгасу, МТС на барацьбу за сустрэчны плян. Барацьба за плян, за поўнае яго выкананьне і перавыкананьне — асноўная задача краязнаўцаў у трэцюю бальшавіцкую вясну.

**В. Самцэвіч**

# Задачы краязнаўчых організацый у барацьбе за аўладаньне тэхнікай

„Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё"

*(Сталін).*

На аснове вялізарнейшага росту рэволюцыйнай актыўнасьці шырокіх мас рабочае клясы і працоўнага сялянства, разгортваньня соцыялістычных мэтодаў работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, пасьлядоўнага правядзеньня політыкі індустрыялізацыі, разьвіцьця цяжкой індустрыі і рашучага, разгорнутага па ўсяму фронту наступленьня на капіталістычныя элемэнты, партыя і ўся рабочая кляса СССР дасягнулі вялізарнейшых посьпехаў у пераможным будаўніцтве соцыялізму. „Наша цяжкая прамысловасьць пастаўлена цьвёрда на ногі і тым самым *створана ўласная база для завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі"* (з рэзолюцыі XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б). Разгорнута будаўніцтва новых прадпрыемстваў, якія ў некаторых галінах прамысловасьці перавышаюць ровень эўропейскай тэхнікі, дасягнуты вялікія посьпехі ў разьвіцьці лёгкай прамысловасьці, а разьвіцьцё харчовай прамысловасьці значна перавысіла заданьні пяцігадовага пляну.

У сельскай гаспадарцы пераважнае месца занялі соцыялістычныя формы гаспадаркі—колгасы і савгасы. „Савецкі саюз *з краіны дробнага і драбнейшага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове колектывізацыі, разгортваньня савгасаў і шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі.* Гэта перамога соцыялізму, якая рашае самую важную, самую цяжкую задачу пролетарскай рэволюцыі, мае сусьветна-гістарычнае значэньне" (з рэзолюцыі XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б).

Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, дасягнутыя ў першай пяцігодцы, падрыхтавалі базу для далейшага, яшчэ больш магутнага росту соцыялізму ў другой пяцігодцы. У СССР ёсьць усе магчымасьці, патрэбныя для заканчэньня пабудовы соцыялізму ў другой пяцігодцы. XVII конфэрэнцыя ЎсеКП(б) адзначыла, што вялізарныя „прыродныя багацьці краіны, бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, узрастаючая актыўнасьць шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў і правільная лінія партыі поўнасьцю забясьпечваюць такое разгортваньне вытворчых сіл соцыялістычнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы, на аснове якога будуць канчаткова ліквідаваны капіталістычныя элемэнты ў СССР". Ажыцьцяўленьне-ж вялізарнейшых політычна-гаспадарчых

задач, пастаўленых партыяй на 1932 г. і другую пяцігодку, магчыма толькі „на базе разгорнутай *тэхнічнай рэконструкцыі* ўсяе народнае гаспадаркі—прамысловасьці, транспорту, сельскае гаспадаркі". Для забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў тэхнічнага пераўзбраеньня народнае гаспадаркі нам патрэбен вялізарны прырост кваліфікаваных кадраў па ўсіх галінах соцыялістычнай гаспадаркі і шырокае разьвіцьцё вытворча-тэхнічнай пропаганды, і таму XVII конфэрэнцыя ЎсеКП(б) зьвярнула асаблівую ўвагу на „неабходнасьць разьвіцьця шырокай навукова-тэхнічнай грамадзкасьці, ад рабочага актыву на прадпрыемствах (ударнікі, вынаходцы, рацыяналізатары) да навукова-тэхнічных таварыстваў" (рэзолюцыя па дакладу тав. Орджанікідзе).

Задачы бальшавіцкага аўладаньня навукай і тэхнікай рабочай клясай, колгасьнікамі і працоўнымі масамі СССР на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца аднэй з галоўнейшых і рашаючых задач, пастаўленых партыяй перад усімі партыйнымі, профсаюзнымі, савецкімі, гаспадарчымі і навукова-дасьледчымі організацыямі і ўстановамі. „Самае важнае з пункту погляду будаўніцтва мы ўжо зрабілі. Нам засталося нямнога: вывучыць тэхніку, аўладаць навукай. І калі мы зробім гэта, у нас пойдуць такія тэмпы, аб якіх зараз мы не асьмельваемся і марыць" (Сталін).

Пастановы ЦК УсеКП(б) ад 25 мая і 5 жніўня 1931 г. і Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб разгортваньні вытворча-тэхнічнай пропаганды вызначаюць конкрэтныя задачы, зьмест і шляхі разгортваньня вытворча-тэхнічнай пропаганды. „Галоўнейшай задачай вытворча-тэхнічнай пропаганды ў сучасны пэрыод павінна стаць барацьба за рэалізацыю рашэньняў партыі аб тэхнічнай рэконструкцыі нашай гаспадаркі, ліквідацыю тэхнічнай няпісьменнасьці і ўцягненьне шырокіх мас у справу аўладаньня тэхнікай, выяўленьне іх творчай актыўнасьці і ініцыятывы, аўладаньня марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй у стварэньні (праз асваеньне перадавой капіталістычнай тэхнікі) соцыялістычнай тэхнікі і організацыі соцыялістычных мэтодаў работы, барацьба за поўную рэалізацыю шасьці ўмоў тав. Сталіна" (з пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б „Аб разгортваньні вытворча-тэхнічнай пропаганды").

Вытворча-тэхнічная пропаганда ў даны пэрыод павінна быць накіравана на барацьбу за выкананьне прамфінпляну чацьвертага заключнага году першай пяцігодкі і ў далейшым плянаў другой пяцігодкі, за павялічэньне продукцыйнасьці работы ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі на аснове асваеньня новай тэхнікі, за мобілізацыю ўсіх унутраных рэсурсаў у прамысловасьці, транспорце, у сельскай гаспадарцы, за пашырэньне рацыяналізацыі вытворчасьці, эканоміі ў расходваньні матар'ялаў, поўнае асваеньне новых тэхнолёгічных процэсаў вытворчасьці, выкарыстаньне рабочага вынаходніцтва і г. д. Усе гэтыя задачы патрабуюць далейшага разгортваньня процэсу аўладаньня тэхнікай на аснове цеснага супрацоўніцтва навукова-дасьледчых устаноў і організацый з прамысловымі і сельска-гаспадарчымі прадпрыемствамі (колгасамі, саўгасамі, МТС) і шырокага ўцягненьня шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў у масавую навукова-дасьледчую работу.

XVII конфэрэнцыя ЎсеКП(б) адзначыла, што „асноўнай і рашаючай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца завяршэньне рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнае гаспадаркі", а гэта задача ва ўсю велічыню ста-

віць пытаньне аб падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў, аб організацыі сыстэмы шырокай масавай вытворча-тэхнічнай пропаганды і вучобы, прычым асноўнай задачай тэхпропаганды і тэхвучобы зьяўляецца „ліквідацыя элемэнтарнай тэхнічнай няпісьменнасьці шырокімі масамі рабочае клясы і ў першую чаргу новымі рабочымі, павышэньне вытворча-тэхнічнай кваліфікацыі ўжо навучаных (кваліфікаваных рабочых) і ўзбраеньне іх навейшымі дасягненьнямі тэхнікі, а таксама павышэньне вытворча-тэхнічнай кваліфікацыі сярэдняга тэхнічнага, адміністрацыйна-інжынэрнага складу прадпрыемстваў“. (З пастаноў Сакратарыяту ЦК КП(б)Б). Тэхнічная пропаганда і тэхнічная вучоба павінны быць шырока разгорнуты на ўсіх вучастках социялістычнага будаўніцтва: „цэнтрам барацьбы за тэхнічную пропаганду павінны стаць завод, фабрыка, савгас, колгас, будаўнічыя пляцоўкі, ляборатoрыі і дасьледчыя станцыі“ (з пастаноў Сакратарыяту ЦК КП(б).

Краязнаўчыя організацыі, як масавыя навукова-дасьледчыя організацыі, павіны ўключыцца ў барацьбу за аўладаньне тэхнікай, за пашырэньне навуковых і тэхнічных ведаў сярод шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў. „Вялізарныя задачы ўзьняцьця роўню тэхнічнай культуры і тэхнічных ведаў шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў патрабуюць мобілізацыі ўсіх актыўных і грамадзкіх сіл, якія могуць дапамагчы вырашэньню гэтай задачы“. (З пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б). Краязнаўчыя ячэйкі на фабрыках і заводах, у колгасах і савгасах, пры ФЗС і колгасных школах павінны стаць сапраўднымі організатарамі масавай работы па тэхпропагандзе і тэхвучобе, пры цеснай і непасрэднай увязцы гэтай работы з масавай навукова-дасьледчай работай.

Дасьледчая работа краязнаўчых ячэек толькі тады можа стаяць на належнай вышыні і даць карысныя вынікі для социялістычнага будаўніцтва, калі члены краязнаўчых ячэек у належнай меры аўладаюць дасягненьнямі сучаснай навукі і тэхнікі ў галіне сваёй работы, будуць знаёмы з асноўнымі тэхнолёгічнымі працэсамі вытворчасьці і ўзброены марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй. Перад усімі краязнаўчымі ячэйкамі, такім чынам, ставяцца задачы: а) аўладаньне навейшымі дасягненьнямі сучаснай навукі і тэхнікі, падвышэньне кваліфікацыі кожнага члена ячэйкі; б) організацыя сыстэматычнай пропаганды дасягненьняў навукі і тэхнікі сярод шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў.

Для вырашэньня першай задачы кожная ячэйка павінна належным чынам організаваць унутрыячэйковую работу па вывучэньню тэхнікі ў пэўных галінах вытворчасьці, па падвышэньню навуковай кваліфікацыі сваіх членаў, аўладаньню імі марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй, навуковымі мэтодамі работы і навуковым інструмэнтарыем. У кожнай ячэйцы трэба організаваць спэцыяльныя групы, брыгады, сэмінары для вывучэньня навейшых дасягненьняў навукі і тэхнікі.

Для пасьпяховага разгортваньня вытворча-тэхнічнай пропаганды сярод шырокіх рабочых і колгасных мас краязнаўчыя ячэйкі, разам з фабрычна-завадзкімі і палітычна-грамадзкімі організацыямі ў савгасах і колгасах, пад кіраўніцтвам партыйных організацый, павінны распрацаваць і шырока абгаварыць „конкрэтныя мерапрыемствы па разгортваньню тэхпропаганды ва ўмовах кожнага асобнага раёну, прадпрыемства, савгасу і колгасу, забясьпечваючы актыўны ўдзел і ўцягненьне ў тэхвучобу і пропаганду партыйцаў і організацыю сыстэматычнага кіраўніцтва гэтай работай“. (З пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б).

У мэтах разгортваньня вытворча-тэхнічнай пропаганды краязнаўчыя організацыі павінны шырока выкарыстаць наступныя сродкі і мэтоды пропаганды тэхнікі:

1) Організацыя дакладаў і сэрыі дакладаў і лекцый, гутарак, консультацыі па азнаямленьню з дасягненьнямі сучаснай навукі і тэхнікі ў розных галінах народнай гаспадаркі.

2) Вечары абмену тэхнічнай практыкай, сэмінары для рабочых і колгасьнікаў.

3) Складаньне сьпісу навукова-популярнай і тэхнічнай літаратуры для гурткоў; організацыя спэцыяльных аддзелаў тэхнічнай літаратуры пры завадзкіх, колгасных і ўсіх краязнаўчых бібліотэках.

4) Популярызацыя дасягненьняў навукі і тэхнікі, рабочага вынаходзтва, посьпехаў перадавых заводаў, колгасаў і саўгасаў у мясцовым раённым друку, завадзкіх шматтыражках і насьценгазэт.

5) „Організацыя выставак пры прадпрыемствах, саўгасах і колгасах, як часовых—з мэтаю барацьбы на даным прадпрыемстве з прарывамі, з бракамі і г. д., так і сталых“ (з пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б).

6) Організацыя спэцыяльных тэхнічных куткоў і музэяў, а таксама політэхнічных аддзелаў пры існуючых краязнаўчых музэях.

7) Правядзеньне спэцыяльных краязнаўчых экскурсій для азнаямленьня рабочых і колгасьнікаў з новымі заводамі, лепшымі саўгасамі і колгасамі, дасьледчымі станцыямі, інстытутамі, ляборыторыямі.

Краязнаўчыя організацыі павінны наладзіць самую цесную сувязь з гурткамі па аўладаньню тэхнікай, бюро вынаходцаў і рацыяналізатараў, аказваючы дапамогу рабочым вынаходцам, популярызуючы іх вынаходзтвы і практычныя вынікі прыстасаваньня рацыяналізатарскіх прапаноў у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы. У рабоце краязнаўчых організацый максымальная ўвага павінна быць зьвернута на вывучэньне і апісаньне новых будаваньняў, новай машыннай тэхнікі ў прамысловасьці, транспорце, сельскай гаспадарцы, на апісаньне найбольш выдатных узораў масавага вынаходніцтва і саміх вынаходцаў.

Другая пяцігодка будзе пяцігодкай поўнага завяршэньня соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі СССР, пяцігодкай канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў у СССР і завяршэньня пабудовы соцыялізму. Ажыцьцяўленьне гэтых вялізарнейшых гістарычных задач, як адзначана ў пастанове XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б), „магчыма толькі на базе разгорнутай тэхнічнай рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі“, што „неразрыўна зьвязана з справай аўладаньня тэхнікай нашымі гаспадарчымі кадрамі, стварэньнем шырокіх новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян і з рашучым падняцьцем роўню ўсёй масы працоўных... Вырашэньне проблемы тэхнічных кадраў ёсьць важнейшы элемэнт бальшавіцкага ажыцьцяўленьня задачы культурнае рэволюцыі і пасьпяховага будаўніцтва соцыялізму. Усямернае паскораньне ажыцьцяўленьня ўсеагульнай пісьменнасьці насельніцтва, хутчэйшае падняцьце ўсёй справы тэхнічнай адукацыі і ўзмоцненае матар‘яльнае падтрыманьне дзяржавай разьвіцьця навукі ў СССР—вось бліжэйшыя задачы, якія складаюць сустаўную частку агульнай задачы пабудовы соцыялізму ў нашай краіне“. Гэта пастанова партыі з усёй сілай абавязвае ўсе партыйныя, профсаюзныя, савецкія, гаспадарчыя і навукова-дасьледчыя ўстановы і організацыі ў сваёй рабоце зьвярнуць выключную ўвагу на

справу ўладаньня тэхнікай усімі працоўнымі масамі СССР, на максымальнае разгортваньне вытворча-тэхнічнай пропаганды.

Барацьба за бальшавіцкае ўладаньне тэхнікай, за падвышэньне кваліфікацыі, ўладаньне марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй кожным краяведам, за перабудову ўсёй масавай дасьледчай работы на аснове шасьці ўмоў тав. Сталіна, за якасьць і бальшавіцкія тэмпы ў навуковадасьледчай рабоце, за пропаганду навукі і тэхнікі сярод шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў—адна з найгалоўнейшых задач усіх краязнаўчых арганізацый.

М. Ганчарык

# Аб культуры соі ў БССР

Далейшае організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, рашучае павышэньне ўраджайнасьці і продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі—вось тыя цэнтральныя задачы, якія пастаўлены XVII конфэрэнцыяй УсеКП(б) у галіне далейшага разьвіцьця социялістычнай гаспадаркі на бліжэйшы пэрыод і II пяцігодку.

Гэта азначае, што, вядучы бязьлітаснае змаганьне з кулаком і яго агентамі—правымі і т. зв. „левымі“ і рознымі да іх прымірэнцамі, ажыцьцяўляючы генэральную ленінскую лінію, рабочая кляса Савецкага саюзу, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе правадыра т. Сталіна, узброеная соцыялістычнай індустрыяй, павінна дамагчыся завяршэньня соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі ў 2-ю пяцігодку, завяршэньня суцэльнай колектывізацыі ў 1932-33 годзе, усямерна садзейнічаючы гаспадарчаму і організацыйнаму ўздыму колектыўнай гаспадаркі.

Для БССР, як раёну жывёлаводзтва і тэхнічных культур, з гэтага вынікае адна з важнейшых чарговых задач, як узьняцьце колькаснага і якаснага росту статку малочнай жывёлы і сьвінагадоўлі, рашучае падвышэньне іх продукцыйнасьці, барацьба за маладняк, за ўдоі, за павышэньне таварнай продукцыі сьвінагадоўлі, барацьба за ўзьняцьце ўраджайнасьці палявых культур і асабліва пашырэньне плошчаў засеву тэхнічных культур лёну, канапель, якаснага і колькаснага павышэньня іх продукцыі.

У пытаньні павышэньня ўдояў малочнага статку нашых саўгасных і колгасных фэрм і кароў бядняцка-серадняцкіх аднаасобных гаспадарак, павышэньне атрыманьня таварнай продукцыі ад аднэй сьвінаматкі побач з зьніжэньнем яе сабекошту—адно з важнейшых месц займае кармовае пытаньне і пытаньне аб забясьпечаньні продукцыйнай жывёлы бялковістым кормам.

Вырашэньне проблемы бялковага харчаваньня, як часткі агульнага пытаньня аб стварэньні належнай кармовай базы для нашай соцыялістычнай жывёлагадоўлі, зьяўляецца баявой задачай сёнешняга дня, якая ня можа быць адкладзена надалей і на выкананьне якой павінна быць мобілізавана ўвага ўсёй нашай савецкай грамадзкасьці.

У гэтым напрамку Народным камісарыятам земляробства БССР намечаны да ажыцьцяўленьня рад практычных мерапрыемстваў, якія ў значнай меры дапамогуць у вырашэньні гэтага пытаньня, як замена аўсяных пасеваў вікааўсянымі (на зерня), ператварэньне лубіну з сыдэрацыйнай культуры ў кармовую і інш.

Вялікую дапамогу ў гэтым павінна адыграць шырокае пашырэньне ў БССР пасеваў соі.

З гэтага боку соя прадстаўляе асаблівую цікавасьць, паколькі яна можа значна дапамагчы ў вырашэньні кармовага пытаньня і забясьпечаньня кармоў бялкамі і гэтым павялічыць агульную продукцыйнасьць жывёлагадоўлі.

Як зялёны корм, яна дае высокую па спажыўнай якасьці масу, багатую бялком. Яна добра адрастае і зьяўляецца вельмі добрым выпасам для сьвіней.

Досьледы, праведзеныя ў Амэрыцы, паказалі, што пры адкорме сьвіней кукурузай выгадней частку кукурузы замяняць соевым выпасам. У такім разе атрымліваецца, праўда, больш мяккае сала, затое кошт яго абыходзіцца таней, чым пры адкорме аднэй кукурузай, альбо заменай часткі яе іншымі другімі кармамі ці выпасамі. Для таго-ж, каб сала ня губляла сваёй якасьці, у Амэрыцы за 30—40 дзён да ўбою сьвіней спыняюць пускаць іх на соевы выпас.

Таксама вельмі выгодна гадаваць на соевым выпасе сьвіны маладняк—парасят, бо пры гэтым яны даюць прырост больш, чым пры іншых выпасах.

Па дасьледчым даным, атрыманым у Амэрыцы, на соевым выпасе парасяты даюць прырост у 500 г штодня, у той час як на другіх выпасах штодзенны прырост не перавышае 360 грам.

Дзякуючы наяўнасьці вялікай колькасьці бялку, соевы выпас вельмі карысны і для малочных кароў. Ён павышае ўдойнасьць кароў і зусім не адбіваецца на якасьці малака і масла.

У некаторых краінах Усходу зялёная трава соі дадаецца да корму коням і робіць вельмі добры ўплыў на іх стан.

Другое ўжываньне соі на корм, асабліва прыгоднае ў БССР, гэта скарыстаньне яе на сілос. Трэба толькі адзначыць, што ўжываць сою для сілосу адну ня раіцца, бо ў такім разе сілос атрымліваецца ад вялікай колькасьці бялку і малой колькасьці вугляводаў няпрыемнага паху, паядаецца жывёлай вельмі неахвотна і зьніжае якасьць малака і масла. Затое соя дае вельмі добры сілос у сумесі з іншымі сілоснымі расьлінамі, асабліва кукурузай.

Для гэтага робіцца сілосаваньне соі з дадаткам трох чвэртак кукурузы. У такім разе найлепш скарыстоўваюцца спажыўныя матэрыі соі (бялок), а сам сілос атрымліваецца зусім нормальным, ахвотна паядаецца жывёлай, не паніжаючы якасьці малака і масла. Такі сілос па спажыўным якасьцям куды больш каштоўны, чым сілос адной кукурузы. Таксама соевы сілос зьяўляецца добрым кормам і для сьвіней.

100 га соева-кукурузнага сілосу даюць корму па спажыўнасьці столькі, колькі дае 120 га аднаго кукурузнага сілосу.

Пры меркаваньнях давесьці пасевы сілосных культур у БССР да 35.000 га пры замене адной чвэрткі гэтай плошчы сояй на сілос мы атрымаем прыбаўку спажыўных матэрый, раўную 7.000 га кукурузнага сілосу. Гэта адно паказвае нам, якія вялізарныя магчымасьці для стварэньня кармовай базы для нашай соцыялістычнай жывёлагадоўлі дасьць нам шырокае ўжываньне пасеву соі.

Вельмі выгодна разводзіць сою на сена. Соевае сена па спажыўнай вартасьці стаіць вышэй, чым сена канюшыны, цімафейкі і нават перавышае якасьць сена з люцэрны. Потым, пры скормліваньні соевага сена малочнымі каровамі яны значна падвышаюць удоі. Асабліва высокай якасьці соевае сена з неперастаяўшай соі, скошанай у маладым узросьце (у часе поўнага красаваньня). Такое сена больш далікатнае, з вялікай масай лісьця і з мяккімі незьдзервянелымі сьцяблямі. У такім маладым сене з соі ўтрыманьне бялку вышэйшае, чым у ско-

шаным пазьней, хаця колькасьць тлушчаў крыху меншая. Ніжэй падаецца табліца, якая паказвае ўтрыманьне спажыўных матэрый у соевым сене ў параўнаньні з сенам іншых траў.

| Від сена | Бялкі | Вугляводы | Тлушчы |
|---|---|---|---|
| Соя . . . . | 11,7 | 39,2 | 1,2 |
| Люцэрна . . . | 10,6 | 32,2 | 0,9 |
| Канюшына. . . | 7,6 | 39,3 | 1,8 |
| Цімафейка. . . | 3,0 | 42,4 | 1,2 |

Ураджаі зялёнай масы ці сена соі бываюць даволі высокія.

Па досьледам, якія праводзіліся ў СССР, найбольш высокія ўраджаі зялёнай масы соя дае ў раёнах больш вільготных.

БССР, як вядома, зьяўляецца раёнам вільготным з вялікай колькасьцю ападкаў, таму ў нас соя на сена ці сілос павінна даваць высокія ўраджаі. Па аднагадовым досьледам, праведзеным Біолёгічным інстытутам Беларускай Акадэміі Навук, ураджай зялёнай масы соі на вучастку Цэнтральнага батанічнага саду ў Менску ў 1931 г. дасягаў наступных вялічынь:

| Назва гатунку | Ураджай зялёнай масы ў ц з га |
|---|---|
| Харбінская 111 . . | 360 |
| Харбінская 199-б . . | 402 |
| Стара-украінская . . | 404 |
| Харбінская 199 . . | 436 |

Продукцыйнасьць нашай малочнай жывёлагадоўлі ў вялікай меры залежыць ад таго, што кармовыя дачы кароў недастаткова забясьпечваюцца спажыўнымі матэрыямі на продукцыйнасьць (малако), а таксама ў вялікай меры гэта продукцыйнасьць залежыць ад колькасьці бялковых матэрый у кармох кароў.

Соевае-ж сена пераважна бялковы корм. Яно, як гэта відаць з вышэйпрыведзенай табліцы, мае бялку больш, чым сена цімафейкі, канюшыны. Калі зрабіць разьлік корму на карову вагой у 400 кг, дык для атрыманьня ад яе 12 кг малака патрэбна даваць штодня 9,3 кармовых адзінак, у якіх павінна быць ня менш 930 г бялку.

Калі прыняць ураджай сена канюшыны і соі з 1 га ў 400 пудоў, дык у сене канюшыны мы атрымаем 486 кг бялку, а ў соевым сене 704 кг, а гэта азначае, што ў той час як 1 га канюшыны забясьпечвае 1 малочную карову з высокай продукцыйнасьцю бялковістым кормам на працягу 523 дзён—1 га соі забясьпечыць тую-ж карову на працягу 757 дзён, ці амаль у паўтары разы больш. Іначай кажучы, 1 га соевага сена забясьпечвае бялком малочную продукцыйнасьць у 12 кг 2 з лішнім кароў пры стойлівым утрыманьні іх на працягу ўсяго году. Калі-ж прыняць пад увагу летні час выпасу, які ў значнай меры забясьпечвае карову бялкамі, а таксама і тое, што ў кармовай

дачы карова атрымлівае пэўную колькасьць бялку з другімі кармамі (грубыя, сакавітыя, концэнтраваныя кармы), дык мы можам лічыць, што соевае сена з 1 га можа забясьпечыць нормальнае ўтрыманьне на працягу стойлівага пэрыоду ня менш 4-5 малочных кароў, на 1-2 каровы больш чым канюшыннае сена з 1 га.

Гэта, вядома, не азначае, што патрэбна замяняць пасевы канюшыны сояй. Канюшына таксама вельмі добры высокаякасны корм. Але гэта кажа, што патрэбна змагацца за пасевы соі на корм, адводзіць пад яе новыя плошчы.



Мал. 1. Галінка соі з суквецьцем (1) і краскі соі (2 і 3).

Вельмі каштоўным кормам для жывёлы зьяўляецца соевая салома і ўмецьце (з мякінай) пасьля абмалоту высьпеўшай соі. Соевая салома па сваёй спажыўнай якасьці ў два разы перавышае спажыўнасьць найлепшай аўсянай саломы. А соевае ўмецьце з мякінай, куды пры абмалоце пападаюць разьбітае лісьце, галінкі і стручкі, па спажыўнасьці толькі ў два разы ніжэй зерня аўсу. Соевае ўмецьце з мякінай вельмі ахвотна паядаецца жывёлай.

Важным кормам для дамашняй жывёлы зьяўляецца соевая макуха. Соевая макуха ўтрымлівае даволі многа бялкоў і тлушчаў, колькасьць якіх большая, чым у сланэчнай і ільнянай макусе. Звычайна соевую макуху скармліваюць у сумесі з іншымі кармамі, багатымі вугляводамі, як вотрубі, мука, альбо з грубымі кармамі—сенам, саломай, зялёным кормам.

У малочнай жывёлы соевая макуха павялічвае жывую вагу кароў і падвышае ўдоі, ня ўплываючы дрэнна на якасьць малака і не выклікаючы ніякага расстройства ў здароўі жывёлы.

Соевая макуха ідзе і на адкорм сьвіней, асабліва ў сумесі з другімі кармамі. Дабаўленая на адну трэць да кукурузнай мукі, соевая макуха дае лепшы вынік пры адкорме сьвіней, чым на аднэй кукурузавай муцэ. Нават дадатак на адну пятую соевай макухі да куку-

рузнай мукі павышала прырост вагі сьвіней на 13—37 проц. у параўнаньні з прыростам ад аднэй кукурузнай мукі. Вельмі добрым кормам зьяўляецца соевая макуха для птушак—курэй, гусей і інш., павышаючы іх носкасьць і прырост вагі.

Таксама і соевыя бабы зьяўляюцца добрым кормам для жывёлы. Ужываюць іх у раздробленым выглядзе і ў сумесі з іншымі аб'ёмістымі ці грубымі кармамі. Але перад дачай іх жывёле раіцца выпарваць альбо вымочваць у салонай халоднай вадзе для таго, каб зрабіць іх больш страўнымі для жывёлы.

Калі ўлічыць гэтыя ўсе каштоўныя якасьці соі як кармовай расьліны для жывёлагадоўлі, дык стане зусім зразумелым, што патрэбна прыняць усе меры для скарэйшага пашырэньня яе пасеваў у БССР.

Але апрача вялікай каштоўнасьці соі як кармовай культуры, соя зьяўляецца ня менш каштоўнай і як спажывецкая культура, даючы каштоўную продукцыю для харчаваньня чалавека і сыравіну для тэхнічнай пераапрацоўкі.

Для спажываньня чалавека асабліва важнымі матэрыямі зьяўляюцца бялкі і тлушчы, якіх бывае менш усяго ў харчох. Так, у бульбе мы маем амаль выключна вугляводы. Хлеб зьяўляецца пераважна вугляводзістым харчам, хаця ўжо мае невялікую колькасьць бялкоў і тлушчаў. Значна больш бялкоў і тлушчаў мае мяса, яйца, чаму гэтыя продукты і лічацца больш спажыўнымі.

З гэтага боку асабліва каштоўнымі зьяўляюцца соевыя бабы, як продукт спажываньня чалавека. У соевых бабох бялкоў і тлушчаў значна больш, чым у хлебе (жытнім ці пшанічным), чым у гаросе, фасолі і іншых расьлінных продуктах. Мала таго, у соевых бабох тлушчаў і асабліва бялкоў больш, чым у добрым кароўім мясе, значна больш, чым у яйцах.

Калі раўняць спажыўную якасьць 1 кг соевых бабоў з іншымі продуктамі, дык яна будзе адпавядаць 2 з лішнім кг мяса, шасьці дзесяткам курыных яец, спажыўная якасьць якіх будзе ўсё-ж ніжэйшай, паколькі ў яйцах няма вугляводаў, якія ў дадатак да бялкоў і тлушчаў маюцца ў соі.

Гэта асаблівасьць соевых бабоў зьяўляецца галоўнай каштоўнай адзнакай соі, як продукту спажываньня. Утрымліваючы шмат бялкоў, побач з значным утрыманьнем тлушчу, соя можа замяняць мяса і рад другіх продуктаў, зусім не пагаршаючы харчаваньня чалавека.

Гэту спажыўную каштоўнасьць соі добра ўразумелі многія краіны, як Амэрыка, Германія ды інш.

Германія ў часе імпэрыялістычнай вайны, пры недахопе харчаваньня вялікую ўвагу зьвярнула на сою, снабжаючы сваю армію ў цяжкіх пераходах, пры ўмовах дрэннай падвозкі іншых продуктаў- соевымі галетамі (сухія апраснакі), якія замянялі мясны і іншы харч для салдат.

У сучасны момант Германія таксама ўвозіць да сябе, пераважна з Кітаю, вялікую колькасьць соі, павялічваючы ўвоз яе вельмі значна з кожным годам. У 1923 годзе ў Германію было ўвезена 88.688 ц соі, а ўжо ў 1927 г.—574.608 ц, за 4 гады павялічыўшы ўвоз яе больш, чым у 6 разоў.

Таксама і Паўн.-Амэрыканскія Злучаныя Штаты. Апрача таго, што самі сеюць досыць многа соі, яны яшчэ штогодна ўвозяць яе з Кітаю. У 1923 г. у ПАЗШ было ўвезена 1.656 ц, а ў 1927 г. 1.902 ц.

Тое-ж можна сказаць і пра шмат якія іншыя краіны як Данія, Ангельшчына, Голяндыя і інш. Як і Амэрыка, Японія, ня гледзячы на тое, што сама высявае шмат соі, увозіць яе яшчэ вельмі многа з Кітаю.

Апрача высокай спажыўнай каштоўнасьці соевых бабоў для чалавека, яны маюць і другую вельмі каштоўную асаблівасьць. З соевых бабоў можна гатаваць вялікую колькасьць самых рознастайных па смаку і па якасьці страў, якія могуць замяніць вядомыя стравы з мяса, малака, яец і інш.



Мал. 2. Соевыя струкі.

З соевых бабоў можна дабываць соевае малако, якое пры добрым яго прыгатаваньні амаль нічым не адрозьніваецца ад кароўяга малака.

Да апошніх часоў адным з недахопаў соевага малака быў яго своеасаблівы соевы прысмак, хаця, ня гледзячы на яго, соевае малако вельмі шырока пашырана ў Кітаі, зьяўляючыся асноўным продуктам харчаваньня.

Але ўжо ў мінулым годзе Інстытут соі дабіўся атрыманьня з соі малака ня толькі спажыўнай якасьці ня ніжэй за кароўе малако, але і ня горшае смакам.

Соевае малако можа замяніць кароўе малако для спажываньня пры недахопе апошняга і асабліва яно можа замяняць жывёльнае малако ў кондытэрскай вытворчасьці, а таксама ў жывёлагадоўлі пры адкорме маладняку, пакідаючы для спажываньня чалавека кароўе малако.

У гэтых выпадках непатрэбны фабрычны больш дасканалы спосаб яго атрыманьня, і соевае малако для выпайкі цялят і парасят зможа гатовіць у сябе на месцы кожны колгас ці саўгас.

Каштоўнасьцю соевага малака зьяўляецца яшчэ і тое, што яно, як і кароўе малако, можа скісаць і даваць твораг, з якога можна рабіць сыры.

Соевы сыр утрымлівае ў сябе шмат бялкоў (7,5 проц.) і тлушчу (5 проц.), асабліва высушаны, перавышаючы па колькасьці гэтых матэрый мяса і ўсе іншыя спажыўныя продукты (высушаны соевы сыр мае да 45 проц. бялку і да 26 проц. тлушчу).

З соевых бабоў можна гатаваць розныя рыбныя стравы, „яечні“, „мясныя“ стравы і г. д. Прычым добра прыгатаваныя такія стравы амаль немажліва адрозьніць ад сапраўдных рыбных, мясных і інш. страў.

Соевыя бабы, як ужо гаварылася, маюць даволі многа тлушчаў, таму соя можа ісьці на выраб алею, які па сваёй спажыўнай якасьці раўняецца алеям з лепшых расьлін, як напрыклад, правансскаму, і можа ісьці як у харч чалавеку непасрэдна, так і для консэрваў, маргарыну і ў тэхніцы для вырабу мыла, фарбаў ды інш.

Апрача таго, з соевых бабоў і соевай мукі можна гатаваць розныя пячэньні, каву, какао, шакалады і г. д.

У апошнія часы з соевых бабоў пачалі дабываць т. зв. казэін, які мае вялікае ўжываньне ў прамысловасьці.

Соя новая, амаль зусім невядомая культура ў БССР.

А для таго, каб асвоіць якую-небудзь новую с.-г. культуру, трэба ня толькі асвоіць усе новыя прыёмы вырашчваньня і апрацоўкі, але часамі патрэбна даць для яе і спэцыяльныя прылады, машыны, патрэбна поўная дапамога з боку дзяржавы па правядзеньні многіх іншых мерапрыемстваў па яе ўвядзеньні, патрэбна і шырокае азнаямленьне з гэтай новай культурай.

Многае з гэтага вельмі цяжка можа быць выканана альбо зусім немажліва для выкананьня пры ўмовах існаваньня дробных аднаасобных гаспадарак. І зусім другія магчымасьці адкрываюцца ў гэтым перад буйной колектыўнай і савгаснай гаспадаркай ва ўмовах савецкага ладу пры соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі.

Гэтым тлумачыцца тое, што, прыкладам, БССР толькі за апошні пэрыод існаваньня савецкай улады значна папоўніла склад сельскагаспадарчых культур. Такія расьліны, як пасеўныя травы, віка, канюшына, цімафейка, як сэрадэля, лубін пачалі прыжывацца дзякуючы мерапрыемствам савецкай улады і асабліва шырокае пашырэньне набылі толькі з пераходам на соцыялістычныя формы гаспадараньня, пры пераходзе да колгаснай гаспадаркі. Такія культуры, як сілосныя, кукуруза сланэчнік альбо караньплоды, як кармовыя буракі, турнэпс і шмат іншых, зьявіліся ўпяршыню ў сялян на колгасных палетках, раней-жа яны высяваліся толькі ў савецкіх гаспадарках.

Зараз ужо кожны колгасьнік БССР ведае, якую вялікую карысьць даюць гэтыя новыя кармовыя культуры, ствараючыя моцную базу для далейшага разьвіцьця жывёлагадоўлі. І зараз ужо цяжка ўявіць сабе колгасную гаспадарку без пасеваў траў, караньплодаў, сілосных культур і інш. А між тым зусім нядаўна паасобныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, сёнешнія колгасьнікі, біліся над тым, як пратрымаць да вясны сваю кароўку, калі яна была, у большасьці выпадкаў кормячы яе амаль аднэй саламай ды ўмецьцем, даводзячы яе гэтым самым к вясьне да поўнага заняпаду, так што яна аказвалася ня ў сілах стаяць на нагах.

Гэтыя новыя кармовыя культуры стварылі ва ўмовах разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва зусім новыя магчымасьці для разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі—разам з гэтым зьяўляючыся вельмі важнымі для ўзьняцьця ўраджаю колгасных палёў, падвышэньня ўраджаю і ўсіх іншых культур як тэхнічных—лён, каноплі, бульба, так і збожжавыя—жыта, пшаніца, ячмень ды інш.

У сучасны момант пашырэньне культуры соі ў БССР дасьць магчымасьць да гэтых ужо маючыхся асноўных кармоў дадаць такі высокаякасны бялковісты корм, якім зьяўляецца соя.

Соя з прадвеку культывавалася ў Кітаі і Манчжурыі, даўно вядома і на Далёкім Усходзе СССР, які знаходзіцца на мяжы з Манчжурыяй, дзе соя ўжо зьяўляецца досыць звычайнай культурай. Яшчэ да руска-японскай вайны былі спробы некаторых дасьледчыкаў перанесьці яе культуру ў іншыя мясьціны Эўропейскай часткі Расіі, але гэтыя спробы ніякага посьпеху ня мелі. Толькі пасьля руска-японскай вайны некаторыя сяляне Украіны і Каўказу, будучы ў арміі на Далёкім Усходзе, пазнаёміліся з сояй і прывезьлі яе да сябе на баць-

каўшчыну, дзе і пачалі яе разводзіць. Але вялікага пашырэньня яна ўсё-ж не набыла. Яе культура захавалася толькі ў некаторых раёнах Закаўказьзя ды невялікіх мясьцінах Украіны, дзе яна разводзілася пераважна для вырабу кофе.

І толькі пры савецкай уладзе пасевы соі пачалі шпарка пашырацца і ня толькі ў тых раёнах, дзе былі спробы яе культуры, але і ў шмат якіх новых раёнах, і плошча пад пасевамі соі ў апошнія гады пачала павялічвацца шпаркімі тэмпамі.

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі СССР, пераход на буйную колектыўную гаспадарку стварылі зусім іншыя магчымасьці для пашырэньня пасеваў соі, і таму савецкая ўлада шырака разгарнула пропаганду па азнаямленьню з гэтай культурай шырокія колгасныя і савгасныя масы СССР, як і ўсёй савецкай грамадзкасьці, распачала таксама і вялікую навуковую работу па вывучэньні магчымасьці культуры соі ў розных раёнах і вывучэньня найлепшага скарыстаньня яе продукцыі.

Работа па вывучэньню магчымасьці культуры соі ў БССР распачата таксама і ў нас.

У 1930 годзе былі распачаты першыя досьледы ў Горках [1]), а ў 1931 г. уся работа была сконцэнтравана ў Біолёгічным інстутуце БАН і гэтыя досьледы пастаўлены ў значна больш шырокіх памерах як у Горках, так і ў Менску.

Праведзеныя досьледы паказалі, што соя ў БССР расьці можа і пры культуры на сена, зялёны корм або сілос можа даваць вялікія ўраджаі высокаякаснага корму.

Але для нас выгодна пашырэньне соі як кармовай расьліны толькі тады, калі атрыманьне насеньня яе будзе забясьпечана на месцы, каб ня ўвозіць яго з далёкіх раёнаў, прыкладам, з Далёкага Усходу, Паўночнага Каўказу ці Украіны, з другога боку, як мы ўжо бачылі, каштоўнай зьяўляецца ня толькі зялёная маса соевай расьліны, але і соевыя бабы, чаму нам асабліва патрэбна дабіцца магчымасьці шырокай культуры яе ў нас і на зерня.



Мал. 3. Дарослая расьліна соі з завязаўшыміся струкамі.

Праведзеныя ў Менску досьледы паказалі, што соя ў БССР высьпяваць можа, толькі трэба выбраць гатункі, адпавядаючыя ўмовам БССР.

Досьледы-ж па сортавыпрабаваньню, праведзеныя ў 1931 годзе ў Горках з 672 гатункамі, паказалі, што з гэтых гатункаў аказалася каля 60 такіх, якія зусім добра высьпелі ў нас ва ўмовах Горак.

У сувязі з гэтым у 1932 годзе Біолёгічны інстытут БАН організуе шырокую пастаноўку досьледаў па далейшаму вывучэньню высьпеўшых у мінулым годзе гатункаў і ўжо ня толькі ў Горках, але і ў розных іншых пунктах БССР.

[1]) Тт. Стражам Р. Р. і Мяцельскім Т.

З другога боку, каб канчаткова пераканацца ў поўнай магчымасьці пасеву соі ў БССР на корм, Біолегічны інстытут БАН прымае ўдзел у організацыі шырокіх гаспадарчых пасеваў соі на сена, сілос, якія ў гэтым 1932 г. будуць праводзіцца праз нашы гаспадарчыя організацыі (Сьвінатрэст, Прамыслова-жывёлаводтрэст і інш.) па саўгасам і колгасам БССР.

Гэтыя пасевы павінны зьявіцца адначасова як навуковымі, што павінны даць матар'ял для вырашэньня таго, у якіх раёнах і пры якіх умовах патрэбна сеяць сою як кармовую расьліну, так і гаспадарчымі, каб даць для нашых жывёлаводчых гаспадарак высокаякаснае багатае бялком сена і сілос. Гэтыя пасевы будуць праведзены ў многіх раёнах БССР. І патрэбна, каб у кожным раёне, па магчымасьці, над кожным пасевам былі праведзены патрэбныя назіраньні.

Правядзеньне гэтых назіраньняў, як саміх пасеваў, патрабуе значнай дапамогі з боку ўсяго краязнаўчага актыву, аграномічнага пэрсоналу для шырокай популярызацыі ведаў аб соі, азнаямленьня з ёю і яе якасьцямі, з прыёмамі агротэхнікі шырокія масы рабочых савгасаў, МТС, колгасьнікаў. Трэба, каб кожны савгас і колгас, які будзе сеяць у гэтым годзе сою на корм, добра ведаў пра ўсе прыёмы яе культуры і скарыстаньня ўраджаю, пра ўсе тыя каштоўныя бакі, якія мае соя як кармовая культура і як культура на спажываньне чалавеку і тэхнічную пераапрацоўку.

У сувязі з гэтым патрэбна зараз-жа распачаць гэтую работу праз краязнаўчыя, с.-г. гурткі, праз лекцыі, даклады, гутаркі, праз школы і г. д. з тым, каб да часу пасеву соі аб ёй ведаў-бы кожны рабочы савгасу, колгасьнік, брыгадзір-жывёлавод і палявод і г. д.

З другога боку, правёўшы пасевы, патрэбна організаваць над імі рад нагляданьняў для далейшага вывучэньня яе культуры ў розных раёнах БССР.

Гэтую работу, вядома, адзін Біолёгічны інстытут БАН ні іншая якая-небудзь дасьледчая ўстанова правесьці ня зможа без актыўнага ўдзелу ў гэтым шырокіх мас рабочых савгасаў, МТС і колгасьнікаў, без актыўнага ўдзелу ў правядзеньні гэтай работы ўсіх краязнаўчых організацый, агропэрсоналу, настаўніцтва.

Галоўнай мэтай усіх назіраньняў над гаспадарчымі пасевамі будзе наступнае:

1. Устанавіць для паасобных кліматычных раёнаў БССР найбольш спрыяльныя тэрміны пасеву соі на сена і сілос.

2. Устанавіць, якія ўгнаеньні пад сою больш падыходзячыя.

3. Устанавіць лепшых папярэднікаў соі або тых сельска-гаспадарчых культур, пасьля якіх соя дае лепшы ўраджай, для таго, каб вызначыць месца соі ў севазвароце.

4. Устанавіць прыёмы апрацоўкі і догляду за сояй ва ўмовах БССР.

5. Устанавіць тэрміны ўборкі соі на сена, сілос.

6. Устанавіць уплыў пасеваў соі на сена і сілос на ўраджай наступных за імі культур.

Для гэтай мэты ніжэй дадаецца кароткая анкета тых вестак, якія патрэбна даць, і назіраньняў, якія неабходна правесьці над пасевамі соі.

Увосень, пасьля ўборкі соі, запоўненую анкету патрэбна зараз-жа накіраваць Біолёгічнаму інстытуту Беларускай Акадэміі Навук, дзе ўсе анкеты будуць распрацаваны і на падставе іх матар'ялаў будуць высьветлены ўсе цікавячыя нас пытаньні для ўстанаўленьня больш распрацаваных агротэхнічных прыёмаў культуры соі ў БССР, прыстасаваных для паасобных раёнаў.

# АНКЕТА

## па назіраньням за пасевамі соі на сена, зялёны корм і сілос

Раён ............................................................ савгас (колгас) (назва гаспадаркі і яе спэцыялізацыя) ............................................................ с/с.

Занята пад пасеў соі плошча ў ............................ га. Глеба і рэльеф поля, занятага пад сою ............................................................

(пясок, супесь, суглінак і г. д., нізіна, узгорак, западзіна і г. д.).

| Запытаньні | Месяц і дата | Адказы |
|---|---|---|
| **I. Месца пасеву і апрацоўка глебы пад сою.** | | |
| 1. Якая была папярэдняя культура, яе ўраджай (добры, сярэдні, дрэнны, а калі можна, паказаць у лічбах з га). . . . . . . . | | |
| 2. Калі ўзворана поле пад сою: на зяб (паказаць тэрмін) альбо вясной (паказаць тэрмін) і характар ворыва (трактар, параконны ці аднаконны плуг і г. д. і глыбіня ворыва). | | |
| 3. Далейшая апрацоўка поля пад сою:<br>а) баранаваньне ральлі (паказаць тэрмін і якасьць баранаваньня, у колькі сьлядоў, якімі баронамі);<br>б) паўторнае ворыва (паказаць тэрмін, чым зроблена, глыбіню);<br>в) пружынаваньне ці апрацоўка культыватарам, лушчыльнікам, паўторнае баранаваньне і г. д. (паказаць тэрмін і якасьць гэтых работ . . | | |
| **II. Тэрмін і спосаб пасеву соі.** | | |
| 1. Пасеў зроблены (паказаць тэрмін). . . | | |
| 2. Чым утвораны пасеў (раскідная ці радковая сеялка) і гушчыня пасеву, шырыня міжрадзьдзяў і нормы высеву на 1 *га*. . . . . . | | |
| 3. Ці праводзілася заражэньне насеньня соевымі бактэрыямі (нітрагінам), калі праводзілася, дык якім спосабам (даць апісаньне, як рабілася заражэньне). | | |
| **III. Як угноена поле пад сою.** | | |
| 1. Якое ўгнаеньне, колькасьць яго і ў які тэрмін унесена непасрэдна пад сою. . . . . | | |
| 2. Якое ўгнаеньне, у якой колькасьці і ў які тэрмін было ўнесена пад папярэднюю культуру. | | |
| 3. Калі вапнавалася поле апошні раз і ў якой колькасьці была ўнесена вапна. . . . | | |
| **IV. Догляд за пасевамі і ўборка соі.** | | |
| 1. На які дзень пасьля пасеву (альбо паказаць дакладную дату) зроблена першае баранаваньне пасеваў і якімі баронамі, у колькі сьлядоў. . | | |

| Запытаньні | Месяц і дата | Адказы |
|---|---|---|
| 2. Тэрмін другога баранаваньня пасеваў, якімі баронамі, у колькі сьлядоў. Які пры гэтым быў узрост пасеваў соі (у см, колькасьць лісьцяў на 1-й расьліне). . . . . . . . | | |
| 3. Якія іншыя ўжыты прыёмы па догляду за пасевамі і чым яны выклікаліся (паказаць тэрмін ужываньня іх) . . . . . . . | | |
| 4. Ці пагражала пустазельле пасевам, у якой меры і што зроблена для яго зьнішчэньня . . | | |
| 5. Тэрмін уборкі соі (на сена, сілос), у якім стане ўбіралася соя (у пачатку ці пры поўным красаваньні, у пачатку завязваньня струкоў, пры поўным адцьвітаньні і г. д.). . . . . | | |
| 6. Чым праведзена ўборка (касілка, жняярка і г. д.). Як праводзілася сушка (у пакосах, у копах і г. д.) . . . . . . . . | | |
| 7. Як праводзілася сілосаваньне (сілосарэзкай, сячкарняй ці іншым спосабам), у якой сілоснай установцы (вежа, траншэя, яма і г. д.), у сумесі зчым (кукуруза, сланэчнік і г. д.) і ў якіх суадносінах . . . . . . . . . . | | |
| **V. Назіраньні за ростам і атрыманы ўраджай.** | | |
| 1. Калі зьявіліся ўзыходы. | | |
| 2. Тэрмін пачатку красаваньня . . . | | |
| Поўнага красаваньня . . . . . | | |
| Завязваньне першых струкоў . . . . | | |
| Адцьвітаньне, пачатак пасьпяваньня і . . | | |
| Поўнага высьпяваньня струкоў (калі быў пакінуты пробны ўчастак на высьпяваньне) . . | | |
| 3. Які атрыманы ўраджай з *га* . . . | | |
| Зялёнай масы. . . . . . . . | | |
| Сена . . . . . . . . . | | |
| Бабоў . . . . . . . . . | | |
| 4. Як адбіліся веснавыя і асеньнія замаразкі на соі (калі яны былі) . . . . . . | | |
| 5. Якія кліматычныя зьявы зрабілі пэўны ўплыў на рост соі (сухмень, ліўні, град і г. д.) . . | | |

Увага. Калі соя пасеяна на розных участках, патрэбна запоўніць анкету для кожнага ўчастку асобна, таксама патрэбна запоўніць асобную анкету і для пасеваў у розныя тэрміны хаця-б і па адным і тым-жа ўчастку, як і для пасеваў заражоных ці не заражоных нітрагінам.

Подпіс запоўніўшага анкету ..........

і яго адрас ..........

Калі дазваляюць умовы гаспадаркі, вельмі пажадана, апрача пасеваў соі, праведзеных у вызначаны агромінімумам тэрмін, які паведамляецца кожнай гаспадарцы, зрабіць другі пасеў, хоць і на невялікай плошчы, праз 10 дзён пасьля асноўнага пасеву, а калі магчыма, дык і трэці пасеў праз 20 дзён пасьля першага. Насеньне, што рассылаецца для пасеву, пераважна позьніх гатункаў, якія бадай ці змогуць высьпець ва ўмовах БССР. Але будзе вельмі пажадана пакінуць у кожнай гаспадарцы невялікую плошчу соі на дасьпяваньне з тым, каб праверыць магчымасьць яе высьпяваньня. Вядома, што правядзеньне ўсёй гэтай работы павінны ўзяць на сябе, у першую чаргу, члены краязнаўчых і сельска-гаспадарчых гурткоў савецкіх гаспадарак, колгасаў. Там, дзе ў савгасах ці колгасах няма краязнаўчых арганізацый і сельска-гаспадарчых гурткоў, правядзеньне ўсёй гэтай работы павінен узяць на сябе савгасны ці колгасны актыў, члены другіх краязнаўчых арганізацый. Асаблівую ўвагу на арганізацыю і правядзеньне гэтай работы павінны зьвярнуць аграномы, а таксама настаўнікі, якія апрача правядзеньня ўсіх патрэбныхназіраньняў над пасевамі соі ў колгасах і савгасах, могуць узяць у апошніх невялікую колькасьць насеньня і правесьці пасеў на школьным участку. У такім разе патрэбна даць усе падрабязныя весткі і пра гэтыя пасевы.

Апрача агульных анкетных вестак, просьба ўсе іншыя матар'ялы па культуры соі, якія будуць мецца па раёне, дасылаць і асобнымі лістамі (бяз марак) на імя Біолёгічнага інстытуту БАН.

Толькі пры ўдзеле шырокіх мас рабочых савгасаў, МТС, колгасьнікаў, краязнаўцаў БССР, аграномаў, настаўнікаў і інш. магчыма будзе ў кароткі тэрмін, за адзін год, атрымаць такія матар'ялы, над атрыманьнем якіх адна дасьледчая ўстанова павінна працаваць некалькі гадоў. У гэтым будзе ажыцьцяўляцца цесная сувязь навукова-дасьледчай работы з вытворчасьцю, у шмат разоў паскарацца тэмпы навуковай работы для далейшага ўзбраеньня соцыялістычнай сельскай гаспадаркі навейшымі навуковымі прыёмамі агротэхнікі, адкрыўшы для сельска-гаспадарчых дасьледчых устаноў нябачныя пэрспэктывы работы, калі кожная савецкая гаспадарка, кожны колгас, школа, будуць зьяўляцца дасьледчым полем, а тысячныя масы рабочых, колгасьнікаў, аграномаў, краязнаўцаў—дасьледчыкамі.

Толькі соцыялістычная сыстэма дае такія невядомыя дагэтуль пэрспэктывы ня толькі для паступовага шпаркага росту ўсёй народнай гаспадаркі, але і для разьвіцьця навукова-дасьледчай работы, навукі ў цеснай сувязі з практыкай у дыялектычным іх адзінстве.

Для паўнейшага азнаямленьня з сояй і яе культурай можна параіць наступную літаратуру:

1. Ганчарык М. М.—„За культуру соі ў БССР". Выд. БАН. 1932 г.
2. Страж Р.—„Соя ў БССР". Выд. ДВБ. 1932 г.
3. Король Я.—„Соя культура и использование". Селхозгиз. 1931 г.
4. Момот Я.—„Соя в СССР". Сельхозгиз. 1931 г.
5. Тупинова Г.—„Соя". Выд. Акад. С-Х. наук им. Ленина. 1930 г.
6. Савич И.—„Сорта сои". Сельхозгиз. 1931 г.
7. Покровский С.—„Универсальное растение". ОГИЗ. 1931 г.

Біолёгічны інстытут БАН.
16/III-32 г.

Р. Р. Страж

## Агроправілы для сої на сена, сілос і зялёны корм

*(узгоднены з Народным Камісарыятам Земляробства БССР)*

1. Глеба для культуры сої прыгодна ўсякая, мала засьмечаная і ня моцна пяшчаная. Не дапускаць пасеваў сої на глебах з блізкім стаяньнем грунтовых вод.

2. Поле абавязкова павінна быць узворана з восені (на зяб).

3. Раньняй вясной, як толькі можна выйсьці ў поле—поле барануецца. Праз 5 дзён пасьля баранаваньня поле культывуецца лушчыльнікамі без атвалаў (або лапчатымі культыватарамі). Праз 5 дзён пасьля культывацыі поле барануецца другі раз, пасьля чаго адразу робяць пасеў.

4. Насеньне сої павінна быць абавязкова заражана соевымі бактэрыямі. Для заражэньня бярэцца нітрагін (які можна атрымаць: Москва, Конюшковская 31. Институт Микробиологии—накладною платаю). Каробкі нітрагіну досыць для заражэньня 70—80 кг насеньня (для пасеву на 1 га). Нітрагін разводзіцца ў бочцы вады пры звычайнай тэмпэратуры да рэдкай кашы. У гэты рошчын апускаецца, альбо ім абліваецца насеньне, добра перамешваецца, пасля чаго ідзе на пасеў. Уся работа па заражэньню праводзіцца пад паветкаю ў цяні. Заражанае насеньне трымаць на сонцы ня можна. Сеяць трэба ў тойжа дзень, у які праведзена заражэньне і не пазьней як на наступны дзень.

5. На 1 га трэба высеяць суцэльным радковым высевам 70—80 кг насеньня.

6. Высеў сої на сена, сілос і зялёны корм праводзіцца звычайнымі радковымі сеялкамі з міжрадзьдзем у 16—18 см на глыбіню 3-4 см. Каб папярэдзіць драбленьне насеньня сеялкай, трэба ўстанавіць яе на верхнюю падачу насеньня.

7. Пры нормальнай вясьне пасеў у паўднёвай частцы БССР павінен быць не пазьней 25-га красавіка, а ў паўночнай—не пазьней 5—10 мая. У сярэдняй частцы—не пазьней 1-га мая.

8. Пры суцэльным радковым высеве першае баранаваньне робіцца зараз-жа пасьля зьяўленьня коркі, або як толькі ўзойдзе соя, калі нават коркі і няма. Баранаваньне робіцца бараной „зыг-заг" упоперак радкоў.

9. Другое баранаваньне пасьля высеву робіцца пры вышыні сої ў 8—10 см таксама бараной „зыг-заг" упоперак радкоў.

10. Ніякіх другіх апрацовак, акрамя пералічаных вышэй, у часе росту сої рабіць непатрэбна.

11. Уборка сої праводзіцца пасьля таго, як наліліся бабы (стручкі), лісьце сярэдняй часткі расьліны яшчэ трымаецца моцна (прыблізна 1—15 верасьня). Уборка на сена робіцца сенакасілкай і пакідаецца ў радох для правяльваньня. Праз два-тры дні соя зьбіраецца ў валікі, дзе яна канчаткова высушваецца. Сена сої лічыцца сухім тады, калі ліст і сьцябло пры пробе ламаюцца.

12. Сілосаваць сою трэба ў сумесі з кукурузай, сланэчнікам, бульбоўнікам, капусным лісьцем і г. д. На адну частку сої для сілосу трэба дадаць 3-4 часткі іншых расьлін. Ня можна праводзіць сілосаваньне сої ў сумесі з іншымі бабовымі (віка, канюшына, бабы і інш.).

К. Віткоўскі

# Эндокрынолёгія[1]) для соцыялістычнай жывёлагадоўлі

„Мы павінны ня толькі вывучаць і тлумачыць сьвет, але павінны і зьмяняць яго“. Гэты лёзунг Маркса цалкам адносіцца і да жывёлагадоўлі.

„Практычна гэта значыць“, піша проф. Б. М. Завадоўскі, „што мы павінны здолець зьмяніць прыроду жывёльнага організму, навучацца кіраваць жыцьцём сельска-гаспадарчай жывёлы так, як здолелі ламаць і зьмяняць соцыяльна-экономічную структуру чалавечай грамады“.

Дзякуючы апошнім дасягненьням „вучэньня аб нутраной сэкрэцыі“ перад зоотэхніяй адчыняюцца шырокія пэрспэктывы ўзьдзейнічаньня на жывёльны організм.

Раней чым азнаёміцца з нутрысэкраторнай дзейнасьцю, успомнім некаторыя асноўныя моманты, якія характарызуюць пабудову і дзейнасьць організму наогул.

Організм усякай жывёлы, а таксама і чалавека, складаецца з каморак. Паасобныя каморкі, прыстасоўваючыся да якой-небудзь пэўнай дзейнасьці, злучаюцца адпаведным чынам паміж сабой і ўтвараюць тканкі. Тканкі, у сваю чаргу, утвараюць паасобныя органы, групы органаў, выконваючы пэўную дзейнасьць па дасягненьню адной якой-небудзь мэты, складаюць паасобныя апараты ці сыстэмы органаў. Напрыклад: апарат траўленьня, у якім самы процэс траўленьня адбываецца пад уплывам дзейнасьці „фэрмэнтаў“ (сокаў), якія продукуюцца праз вывадныя пратокі радам залоз, далей ідзе дыхальны апарат, мачавы і іншыя.

Узгодненасьць дзейнасьці паасобных органаў і іх сыстэм, як частак аднаго цэлага організму, ажыцьцяўляецца крывяноснай і нэрвовай сыстэмамі.

Цяпер пяройдзем да нутраной сэкрэцыі. За апошнія 40 год высьветлена, што ў целе як жывёлы, так і чалавека, акрамя залоз з вывадными пратокамі, напрыклад, травільных залоз, ёсьць яшчэ залозы, якія ня маюць вывадных пратокаў, а продукуюць продукты сваёй дзейнасьці непасрэдна ў кроў. Продукты, якія выдзяляюцца адпаведнымі залозамі беспасрэдна ў кроў, вядомы пад назвай „гормонаў“ (узбуджальнікаў). Залозы, якія продукуюць гормоны, называюцца „залозамі нутраной сэкрэцыі“.

---

[1]) Эндокрынолёгія—вучэньне аб нутраной сэкрэцыі.

Перад чытачом паўстае пытаньне,—якое-ж прызначэньне мае гормон, якую ролю адыгрываюць гормоны ў жыцьцядзейнасьці організму чалавека—жывёлы.

Азнаёмімся з поглядамі па гэтаму пытаньню аўторытэтных спэцыялістаў-фізыолёгаў.

Проф. А. С. Саноцкі ролю гормонаў азначае наступным чынам: „Гормоны распаўсюджваюцца крывёю па ўсяму целу, і дзейнасьць іх адбіваецца нярэдка ў частках цела, якія знаходзяцца на значнай адлегласьці ад тых органаў, у якіх гормоны выпрацоўваюцца. Гормоны выконваюць у організьме ролю хэмічных паслоў, дзейнасьць якіх накіравана да ўзгадненьня работы паасобных органаў і да ўтварэньня хэмічнай узаемадзейнасьці паміж рознымі часткамі цела. Наогул, гормоны зьяўляюцца агентамі, якія ўзбуджаюць ці прыгнятаюць тыя ці іншыя функцыі і робяць уплыў на процэсы росту і формаўтварэньня".

Германскія профэсары—В. Эленбэргер і А. Шэйнэр пішуць: „Органы ўзьдзейнічаюць адзін на другога пры дапамозе „нутраное сэкрэцыі". Пад азначэньнем „нутраная сэкрэцыя" разумеецца аддача матэрыі тканкавымі элемэнтамі ў тканкавыя вадкасьці. Гэтыя матэрыі, пры дапамозе крыві і лімфы трапляюць у агульны круг звароту крыві і ўзбуджаюць іншыя тканкавыя элемэнты да пэўнае дзейнасьці, паміж іншым, да сэкрэцыі (выдзяленьне залозамі продукту) і росту.

У іншых выпадках гэтыя матэрыі спэцыфічным чынам тармозяць тканкавыя элемэнты некаторых органаў, затрымліваючы рост і іншыя функцыі".

Проф. М. Ф. Белавусаў адзначае: „У організьме жывёлы сустракаем яшчэ і іншыя мэханізмы... гэта хэмічныя мэханізмы рэгуляваньня і коордынацыі частак організму—так званыя інкрэторныя апараты[1]) і продукты іх дзейнасьці—гормоны.

Проф. А. В. Леантовіч ролю гормонаў азначае так: „Высьветлена, што паасобныя часткі цела жывёлы зьвязаны паміж сабой ня толькі нэрвамі і агульнай крывяноснаю сыстэмай, але і тым, што ў целе існуюць спэцыяльныя залозы, якія выпрацоўваюць матэрыі, неабходныя для падтрыманьня ў адлеглых частках організму іх жыцьцядзейнасьці".

Усе прыведзеныя вытрымкі яскрава азначаюць ролю гормонаў, як фактару, які зьвязвае і коордынуе паміж сабой дзейнасьць і разьвіцьцё паасобных органаў і іх сыстэм шляхам хэмічнага ўзьдзейнічаньня. Гормоны па сваёй сутнасьці зьяўляюцца хэмічнымі злучэньнямі, якія ўзьдзейнічаюць адпаведным чынам ці непасрэдна на органы, ці праз нэрвовую сыстэму.

Азнаёмімся-ж кораценька, у самых агульных рысах з залозамі нутраное сэкрэцыі.

*Шчытаватыя залозы* знаходзяцца ў вобласьці шыі. Калі дзейнасьць іх нарушана ў маладым організьме, дык атрымліваецца хвароба—крэтынізм (людзі застаюцца разумова няразьвітымі і карламі). Лячэньне хворых на крэтынізм адбываецца спосабам перасадкі пад скуру кавалку шчытаватай залозы ад быка ці іншай жывёлы.

*Каляшчытаватыя залозы*, месцазнаходжаньне вызначаецца самой назвай. Гэтыя залозы рэгулююць абмен кальцыю і абясшкоджваюць рад атрут, якія ўтвараюцца ў організьме ў процэсе жыцьцядзейнасьці.

*Вілаватая залоза* знаходзіцца ззаду грудное косткі, яна рэгулюе разьціцьцё касьцяку і адклады вапны.

---

[1]) Залозы нутраное сэкрэцыі.

*Надныркавая залоза* рэгулюе шырыню прасьвету крываносных судзінаў, нарушэньне дзейнасьці гэтай залозы выклікае бронзавую хваробу (бронзавы колер скуры ў людзей).

*Дадатак мозгу* (гіпофіз) рэгулюе рост. Калі дзейнасьць дадатку нарушана, атрымліваецца карлавы рост, але ёсьць яшчэ спадчынныя раздражэньні дадатку, у выніку якіх маем занадта вялікі рост.

Апрача пералічаных толькі з нутраной сэкрэцыяй залоз ёсьць яшчэ залозы звычайнай дзейнасьці, якія таксама выпрацоўваюць гормоны. Залозамі з такой падвойнай дзейнасьцю зьяўляюцца: *падстраўнічная залоза*, пры нарушэньні яе нутрысэкраторнай дзейнасьці ў мачы выдзяляецца многа цукру—у выніку зьяўляецца цукровая хвароба. *Печань*,—мяркуюць, што печань, апрача рэгуляваньня цукру ў крыві і барацьбы з атрутамі, выдзяляе яшчэ спэцыяльны гормон, які мае ўплыў на ўтварэньне крыві. На гэтым грунтуецца лячэньне вострага малакроўя печаньню, якая ў сыром відзе даецца ў страву хвораму.

*Родавыя залозы*—апрача продукаваньня родавых каморак (спэрматозоідаў і яек) продукуюць яшчэ родавыя гормоны. Пасьля кастрацыі (выдаленьня родавых залоз) пеўня ён робіцца ня толькі няздольным да вытварэньня патомства, але выдаленьне родавых залоз адбіваецца і на яго агульным выглядзе і паводзінах. Па выгляду ён займае сярэдняе месца паміж пеўнем і курыцаю (некалькі бліжэй да пеўня). У паводзінах робіцца больш спакойным і набывае большую здольнасьць тлусьцець. Калі гэтаму кастраванаму пеўню прыжыць родавыя залозы курыцы, дык ён праз некаторы час зробіцца вельмі падобны да курыцы, і наадварот,—калі кастраванай курыцы прыжыць родавыя залозы пеўня, дык яна як па выгляду, так і паводзінах робяцца вельмі падобнай да пеўня.

Гэты прыклад гаворыць за тое што родавыя гормоны маюць уплыў як на разьвіцьцё організму і яго дзейнасьць, так і на яго псыхіку.

Такім чынам мы бачым, што залозы нутраной сэкрэцыі адыгрываюць вельмі значную, грунтоўнаю ролю ў рэгуляваньні нормальнага разьвіцьця і дзейнасьці організму.

Паміж дзейнасьцю залоз нутраной сэкрэцыі існуе ўзаемная залежнасьць, якую проф. А. В. Леантовіч характарызуе ў схеме:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Родавая | залоза | перашкаджае рабоце | вілаватай |
| Гіпофіз | „ | „ „ | шчытаватай |
| Шчытаватая | „ | „ „ | гіпофізу |

Але:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Шчытаватая | стымулюе | работу | родавай |
| Родавая | „ | „ | штытаватай |
| Надныркавая | „ | „ | родавай |
| Родавая | „ | „ | надныркавай. |

Адзначаныя намі ў самых кароткіх і элемэнтарных рысах спэцыфічныя асаблівасьці ўплыву гормонаў на разьвіцьцё і дзейнасьць організму навялі рад вучоных-дасьледчыкаў на думку разгарнуць вывучэньне гормонаў па скарыстаньню іх для практычных гаспадарчых мэтаў, амаладжэньне, падвышэньне працаздольнасьці, продукцыйнасьці і інш. Яшчэ Броўн-Сэкар у 1889 годзе давёў, што выцяжка з родавых залоз вельмі добра ўплывае на састарэлыя організмы. Дзейнасьць выцяжкі з родавых залоз (родавы гормон) Броўн-Сэкар, якому было 72 гады, дасьледваў на самім сабе і констатаваў, што пасьля лячэньня

выцяжкай ён адчуваў сябе памаладзеўшым, больш працаздольным (праўда на кароткі час) і г. д.

Проф. А. В. Нямілаў у працы „Амаладжэньне хатняй жывёлы“ прыводзіць рад фактаў, калі шляхам ужываньня родавых гормонаў ад маладой жывёлы, атрымлівалі амаладжэньне старых быкоў, жарабцоў, бараноў. У жывёлы зьяўляўся апэтыт, пераставалі дрыжэць ногі, зьвярталася страчаная, родавая здольнасьць і жывёла зноў ішла ў злучку.

„У апошнія часы, піша проф. Б. М. Завадоўскі, у Амэрыцы апісаны вельмі цікавыя досьледы з актывізацыяй дзейнасьці малочных залоз у трусоў пад уплывам упырскваньня адкрытага толькі некалькі год назад гормону 1-й долі гіпофізу—пролана... Мы можам чакаць,—далей піша проф. Завадоўскі,—вельмі цікавых пэрспэктыў у справе прыстасаваньня ўсіх гэтых даных для падвышэньня малочнасьці хатняе жывёлы“.

Таксама з гэтай-жа пярэдняе долі гіпофізу атрыманы гормон росту, дзякуючы якому ўжо цяпер у лябораторных умовах атрымліваюць волатаў пацукоў і сабак.

Цікавы і, бязумоўна, маюць вялікую гаспадарчую вартасьць досьледы па ўжываньню шчытаватай залозы з мэтай падвышэньня збору пуху і пяра з хатняй птушкі. Падобны досьлед быў пастаўлены проф. Б. М. Завадоўскім, паведамленьне якога і падаем: „Больш 10-ці год назад аўтарам гэтых радкоў быў заўважаны выдатны факт моцнага выпадзеньня пяра ў курыц, якія атрымлівалі ў кармох некаторую дозу шчытаватай залозы. Праводзячай гэты досьлед маёй супрацоўніцы Н. А. Распопавай удалася на працягу мінулага году зьняць з партыі гусей 4 ўраджаі пуху і пяра, захоўваючы жывых гусей для далейшых досьледаў. Гэтыя дасягненьні ўжо цяпер могуць атрымаць шырокае прыстасаваньне ня толькі ў сэнсе колькаснага падвышэньня ўраджайнасьці пяра, але і ў экспорце бітай птушкі. Справа ў тым, што мэханічнае ашчыпваньне птушкі нярэдка вядзе да псуцьця скуркі, а такія птушкі бракуюцца Між тым, пасьля дачы шчытаватай залозы, паводле распрацаванага намі мэтоду, на 11-ты дзень пасьля кармленьня пяро зьнімаецца з усяго жывога гуся зусім бяз болю і пры гэтым зусім ня псуецца скурка толькі лёгкім рухам рукі. Ня выключана магчымасьць атрыманьня пры дапамозе нашага мэтоду і якаснага паляпшэньня нанава адрастаючага пяра, што намі даведзена на курыцах, але яшчэ патрабуе праверкі на гусёх“.

„Ужо даўно вядома,—піша проф. Завадоўскі,—што пры выдаленьні шчытаватай залозы ў коз расьце больш доўгая і больш тонкая поўсьць“. Вельмі цікавы і досьледы Воранава, які шляхам перасадкі дадатковых родавых залоз атрымліваў на баранох воўну лепшае якасьці. Досьледы Воранава зараз правяраюцца ў нашым Саюзе.

Бязумоўна, мае вялікае практычнае значэньне ўплыў родавых гормонаў і гормонаў наднырніцы на падвышэньне працаздольнасьці жывёлы. Лябораторнымі работамі даведзена, што, карыстаючыся гэтымі гормонамі, можна зьнішчыць стамленьне цяглiц.

Вывады?—Факты гавораць самі за сябе. Не падлягае ніякаму сумненьню вялізарная гаспадарчае значэньне эндокрынолёгіі (вучэньне аб нутраной сэкрэцыі) для соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Ня гледзячы на сваю маладасьць, эндокрынолёгія ўжо вызначае практычныя шляхі для вырашэньня такіх гаспадарчых пытаньняў, як: прадаўжэньне завадзкой дзейнасьці вытворцаў, падвышэньне продукцыйнасьці малоч-

най залозы, павялічэньне збору пуху і пяра і паляпшэньне іх якасьці, паляпшэньне якасьці воўны і г. д.

Але рад пытаньняў яшчэ не распрацаваны. Многае яшчэ нават невядома. Рад пытаньняў патрабуюць дасьледваньня і праверкі ў шырокіх гаспадарчых умовах. Не разгорнута эндокрынолёгічная прамысловасьць, якая, апрача забесьпячэньня патрэб нашае жывёлагадоўлі, магла-б значна павялічыць наш экспорт.

Для разгортваньня навукова-дасьледчай работы і эндокрынолёгічнай прамысловасьці ў нашым Саюзе ёсьць моцная, якой няма ні ў аднэй капіталістычнай краіне, база ў выглядзе буйных соцыялістычных жывёлагадоўчых гаспадарак.

Трэба вітаць пастанову Ўсесаюзнага інстытуту жывёлагадоўлі аб організацыі ў складзе Інстытуту (апрача лябораторыі фізыолёгіі разьвіцьця, якая таксама працуе па эндокрынолёгіі) спэцыяльнай эндокрынолёгічнай лябораторыі.

Організацыя гэтай лябораторыі павінна зьявіцца першым этапам па разгортваньню нашай савецкай эндокрынолёгіі і эндокрынолёгічнай прамысловасьці. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі забясьпечыць гэтае будаўніцтва.

Горкі—Беларускія, уліца Слабодка, дом № 33. К. Б. Вітоўскі—спэцыяліст сэктару сэлекцыі і расплоду Горацкай станцыі мал. гаспадаркі.

**Ф. Стэфкін**

# Да пытаньня вывучэньня вод БССР

У сучасны момант цэлым радам навукова-дасьледчых установў БССР, як, напрыклад: Хэмічным і Геолёгічным інстытутамі БАН, Балотным інстытутам, Інстытутам санітарыі і гігіены і інш., праводзіцца ўсебаковае дасьледваньне вод БССР. І гэта зусім зразумела, калі прыняць пад увагу тую вялікую ролю, якую вада адыгрывае для чалавека ў яго штодзенным жыцьці, у цэлым радзе вытворча-тэхнічных процэсаў і г. д.

Пры ўжываньні вады неабходна заўсёды мець на ўвазе, каб яна была належнай чыстаты і не змагла зьявіцца прычынай якіх-бы там ні было захворваньняў.

Гіганцкія тэмпы соцбудаўніцтва, тыя фабрыкі, гуты, комбінаты і агрокомбінаты, якімі пакрываецца наш Саюз і ў прыватнасьці БССР, для сваей працы таксама патрабуюць пэўнай якасьці вады. Амаль кожная вытворчасьць высоўвае свае запатрабаваньні да вады. Будуючы новыя прадпрыемствы, пры іншых роўных умовах, трэба аддаваць перавагу месцам з вадой, якая адпавядае запатрабаваньням данае вытворчасьці.

Шпаркае разьвіцьцё рыбнай гаспадаркі ў БССР патрабуе адпаведнага вывучэньня вады. Якасьць вады, яе фізычныя ўласьцівасьці і хэмічны склад могуць спрыяць альбо перашкаджаць разьвіцьцю той або іншай галіны гаспадаркі.

Вада патрабуе дасьледваньня і ў мэтах скарыстаньня яе для курортных мэт. Вядома, напрыклад, што ў БССР ёсьць мясцовасьці з мінэральнымі водамі, дзе для пролетарскіх мас Саюзу можна адкрыць курортнае лячэньне.

Праўда, для правядзеньня адпаведнага вывучэньня вады патрэбна шмат часу і сродкаў, калі ўсё рабіць толькі сіламі паказаных вышэй навукова-дасьледчых установў. Таму вельмі пажадана было-б, каб краязнаўчыя ячэйкі на мясцох зацікавіліся гэтым пытаньнем і сіламі інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу прадпрыемстваў, аграномаў, настаўнікаў, прыродазнаўцаў і хэмікаў, урачоў з прыцягненьнем вучняў старэйшых груп сямігодак, студэнтаў маючыхся тэхнікумаў, рабочых і інш., скарыстоўваючы раённыя агрохэмічныя лябараторыі, лябараторыі прадпрыемстваў і навучальных установў і зьвязаўшыся (у мэтах консультацыі і інш.) з тымі навукова-дасьледчымі ўстановамі, якія праводзяць дасьледваньне вады, змаглі там на месцы праводзіць хаця-б папярэднюю працу і гэтым садзейнічаць хутчэйшаму вывучэньню вады для розных мэт непасрэднага спажываньня працоўнымі і для мэт нашага соцбудаўніцтва.

У залежнасьці ад мэты ўжываньня вады да яе прад'яўляюць і тыя ці іншыя запатрабаваньні.

Якой-жа павінна быць вада для піцьця і для розных тэхнічных мэт?

Для піцьця можна ўжываць ваду крынічную, рачную і вазёрную, але неабходна толькі, каб яна адпавядала наступным запатрабаваньням: яна павінна быць бясколернай (у тонкіх слаёх), бяз паху, прыемнай на смак, празрыстай і бяз муці. Мерная колькасьць раствораных у вадзе пэўных газаў (кіслароду і вуглякіслага газу) і соляў (хлёрыстага натру ($NaCl$), хлерыстага калію ($KCl$), вуглякіслага кальцыю і магнію ($CaCO_3$ і $MgCO_3$) і нек. і іншых)—неабходна. Прысутнасьць-жа аміяку ($NH_3$), азоцістай кіслаты ($HNO_2$) і азотнай кіслаты ($HNO_3$) робяць ваду ня зусім прыгоднай у сэнсе ўжываньня. Серкавадарод ($H_2S$), пры наяўнасьці яго нават у зусім нязначнай колькасьці, робіць ваду няпрыгоднай для піцьця, надаючы ёй няпрыемны смак.

Наяўнасьць у вадзе тых ці іншых растварымых матэрый, патрэбных і непатрэбных, павінна знаходзіцца ў межах існуючых норм. Напрыклад, па Ціману і Гэртнэру ў 1 літры вады павінна быць ня больш:

| | | |
|---|---|---|
| Цьвёрдай астачы пасьля выпарваньня | —500 | мг |
| Арганічных матэрый | 40—50 | „ |
| Хлёру ($Cl$) | 20—30 | „ |
| Сернай кіслаты ў выглядзе $SO_3$ | 80—100 | „ |
| Окісі кальцыю і магнію ($CaO$, $MgO$) | 180—200 | „ |
| Азотнай кіслаты ў выглядзе $N_2O_5$ | 5—15 | „ |

Азоцістай кіслаты ў выглядзе $N_2O_3$ і аміяку ($NH_3$) сьляды.

Аднак, пры канчатковай ацэнцы вады прыходзіцца ў кожным асобным выпадку прымаць пад увагу і натуральныя ўмовы, напрыклад, праходжаньне падземнай вады праз пласт гіпсу, крэйды і інш., стан крыніцы вадазабясьпечаньня (магчымасьць пападаньня ў піцьцёвую ваду бруду з вуліц, адкідаў з выграбных ям, адпрацаванай вады прадпрыемстваў і г. д. і адсутнасьць гэтай магчымасьці) і інш., і ў залежнасьці ад гэтага дапускаць ад прыведзеных норм некаторыя адхіленьні ў той ці іншы бок.

Для паравых катлоў патрэбна вада зусім бяз усякіх дамешак, у крайнім выпадку з зусім малою колькасьцю апошніх.

Прысутнасьць у вадзе кіслароду (O) і двуокісі вугляроду ($CO_2$) спрыяе разьяданьню сьценак катла. Асабліва-ж разьядаюцца сьценкі катла ад прысутнасьці ў вадзе сернай кіслаты, соляў азотнай і азоцістай кіслот і серкавадароду.

Сума окісяў кальцыю і магнію ($CaO+MgO$) у вадзе для гэтых мэт не павінна перавышаць 20—30 мг на 1 літар вады. Інакш на сьценках катла лёгка будзе ўтварацца накіп, які зьяўляецца прычынай выбухаў катла і значнага перавыдатку дроў пры награваньні вады ў катле. Проф. С. Ф. Юшкевіч указвае, што перавыдатак дроў пры награваньні вады ў катле з накіпам таўшчынёю ў

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1,5 мм | складае | 13 | проц. |
| 6 „ | „ | 38 | „ |
| 12,5 „ | „ | 60 | „ |

Цікава заўважыць, што вада, прыгодная для піцьця (як гэта вынікае з папярэдняга), зусім ня прыгодна для паравых катлоў і наадварот, тая вада, якая пажадана для паравых катлоў—ня можа ўжывацца для піцьця.

Скарыстоўваньне вады ў розных вытворчасьцях, акрамя жыўленьня паравых катлоў — самае рознастайнае, адсюль і самыя рознастайныя запатрабаваньні да вады, а іменна:

На афарбоўваючых і сітцадрукарных фабрыках патрэбна вада без жалеза (Fe), марганцу (Mn), кальцыю (Ca), магнію (Mg) і кіслот. Інакш зьмяняецца афарбоўка тканіны.

На піваварных і дубільных вытворчасьцях неабходна вада без бактэрый і наогул без арганічных матэрый — разьвіцьцё дадатковых мікраарганізмаў уплывае на нормальны працэс брузаваньня.

На цукровых і крухмальных заводах ужываецца вада без бактэрый і з мінімальнай колькасьцю соляў і ў прыватнасьці гіпсу ($CaSO_4$) і кухоннай солі (NaCl). Солі перашкаджаюць крышталізацыі цукру, а гіпс нават сам выкрышталізоўваецца з цукрам.

Пры мыцьці шэрсьці можна ўжываць ваду толькі мяккую — бяз соляў кальцыю і магнію. Інакш утвараецца нераствараальнае мыла, якое ападае на шэрсьць і перашкаджае далейшаму мыцьцю.

У скураной вытворчасьці таксама патрэбна мяккая і чыстая вада. Атрымоўваецца скура тонкая, моцная і элястычная.

Не пералічаючы далей вытворчасьцяў і не застанаўліваючыся на вадзе для іншых мэт, трэба адзначыць, што, калі вада не адказвае адпаведным запатрабаваньням, яе неабходна замяніць другой, альбо ў крайнім выпадку ачышчаць, што ўжо зьвязана з лішнімі выдаткамі і што, такім чынам, высоўвае неабходнасьць папярэдняга дасьледаваньня вады.

## Мэтодыка правядзеньня аналізу вады[1])

Каб зрабіць адносна вады пэўныя вывады, трэба правесьці аналіз яе. Поўны аналіз вады робіцца ў лябараторыях з адпаведным абсталяваньнем, але часта можна абмежавацца і так званым папярэднім аналізам, які зьяўляецца досыць простым і магчымым ва ўмовах нават сямігодкі.

Далей і даецца кароткая мэтодыка па правядзеньню папярэдняга аналізу вады.

### Агульныя заўвагі

1) Для правядзеньня аналізу ў полі вада бярэцца ў колькасьці $1/_2$ літра ў звычайную бутэльку з надпісам на ярлыку: адкуль узята проба (калодзеж, крыніца, возера), у якім стане яны (калодзеж, возера і інш.) знаходзяцца і ў якой мясцовасьці.

2) Аналіз павінен быць праведзены ў той самы дзень, калі ўзята проба.

3) Пасудзіна павінна захоўвацца ў поўнай чыстаце.

Бюрэткі і піпеткі пасьля мыцьця ў звычайнай вадзе абавязкова апаласкваць дыстыляванай вадой і тым рошчынам, якім яны будуць напаўняцца; бутэлькі, коўбы, прабіркі і інш. пасьля мыцьця апаласкваюцца толькі дасьледванай вадой.

4) Парадак аналізу вось які:

1. Вызначэньне тэмпэратуры вады і тэмпэратуры паветра.
2. Вызначэньне паху, смаку, колеру, мутнасьці і ападку.
3. Вызначэньне аміяку ($NH_3$).

---

[1]) Маецца на ўвазе папярэдні аналіз вады.

4. Вызначэньне азоцістай кіслаты ў выглядзе $N_2O_3$.
5. Вызначэньне азотнай кіслаты ў выглядзе $N_2O_5$.
6. Выяўленьне серкавадароду ($H_2S$).
7. Вызначэньне жалеза (Fe).
8. Вызначэньне арганічных матэрый.
9. Вызначэньне жорсткасьці.
10. Вызначэньне сернай кіслаты ў выглядзе $SO_3$.
11. Вызначэньне хлёру (Cl).

*Вызначэньне фізычных уласьцівасьцяў вады (тэмпэратуры, паху, смаку, колеру, мутнасьці і ападкаў).*

Тэмпэратура вызначаецца пры ўзяцьці пробы ў вадазборы, прычым на тэй глыбіні, на якой бярэцца проба. Для гэтых мэт скарыстоўваюць спэцыяльныя тэрмомэтры. Можна і звычайны, але тады жывасрэбны рэзэрвуар акружаюць ніткамі, якія ўсплываюць пры апусканьні тэрмомэтра і шчыльна ахопліваюць яго пры падняцьці.

Пах вызначаецца так: бутэльку з вадой пры тэмпэратуры пакою ўзбоўтваюць, адкупорваюць і потым нюхаюць. Якасьць паху характарызуюць: няма, балотны, затхлы, рыбны і г. д., дадаючы тэрміны: вельмі слабы, слабы, моцны і інш.

Смак вызначаецца разам з пахам пры ўжываньні той-жа характарыстыкі.

Колер вызначаецца ў прабірках. Вада наліваецца слоем у 8—10 $см^3$ і разглядаецца зьверху, трымаючы прабірку над лістом белай паперы. Характарызуюць: няма, жаўтаваты, жоўты і інш.

Муць і ападак. Муць вызначаецца ў бутэльках (празрыстых) альбо ў прабірках. Характарызуецца словамі: нязначная, слабая, значная, моцная.

Ападак вызначаюць пасьля адстайваньня вады ў бутэльцы на працягу 12—24 гадзін. Якасьць ападку: глiністы, пескавы і інш. Колькасьць: зусім нязначны, нязначны, значны, вельмі значны.

*Вызначэньне хэмічнага складу вады (аміяк, азоцістая і азотная кіслоты, серкавадарод, жалеза, арганічныя матэрыі, жорсткасьць, серная кіслата, хлёр).*

Аміяк. У прабірку наліваюць 10 $см^3$ дасьледванай вады, дадаюць 5 капель 50-проц. рошчыну сэгнетавай солі (гл. ніжэй) і 4 каплі рэактыву Несьлера (гл. ніжэй). У прысутнасьці аміяку атрымоўваецца жоўтая афарбоўка рознай інтэнсыўнасьці. Назіраньні вядуць праз 5 мінут пасьля дадаваньня рэактыву (гл. табліцу).

| Афарбоўка пры разглядзе прабіркі зьверху ўніз над лістом белай паперы | Умоўныя абазначэньні | Прыблізная колькасьць аміяку ($NH_3$) у мг на 1 літар |
|---|---|---|
| Няма | Няма | Менш 0,05 |
| Лелзь прыкметная жаўтаватая | Нязначныя сьляды | 0,05—0,10 |
| Слаба-жаўтаватая | Слабыя сьляды | 0,10—0,25 |
| Сьветла-жоўтая | Сьляды | 0,25—1,0 |
| Жоўтая альбо буравата-жоўтая | Значная колькасьць | 1,0—5,0 |
| Бурая | Шмат | 5,0—25,0 |

50-проц. рошчын сэгнетавай солі рыхтуецца так: 50 г крышталічнай сэгнетавай солі рашчыняюць у цёплай дыстыляванай вадзе; аб'ём рошчыну даводзяць да 100 см³ і фільтруюць; да фільтру дадаюць 5 см³ рэактыву Несьлера, даюць адстаяцца 2-3 дні і потым, зьліўшы празрысты рошчын, ужываюць яго.

Рэактыў Несьлера. 50 г ёдзістага калію (KI) рашчыняюць у 50 см³ дыстыляванай вады; потым рашчыняюць у гарачай вадзе 30—35 г сулемы ($HgCl_2$) і пастувова дадаюць гэты рошчын да рошчыну ёдзістага калію (KI), пакуль ярка-чырвоны ападак ёдзістага жывога срэбра, які атрымоўваецца, не перастане рашчыняцца. Атрыманай мешаніне даюць адстаяцца, рошчын зьверху зліваюць у цыліндар, дадаюць рошчын 150 г пякучага калію (KOH) у 300 см³ вады, даводзяць аб'ём да 1 літра, дадаюць яшчэ 5 см³ рошчыну сулемы, пераліваюць у шклянку і даюць адстаяцца 3—5 дзён у цёмным месцы. Па меры патрэбы адстаяўшыйся рошчын выбіраецца піпеткай у невялікія цёмныя бутэлькі і расходуецца. Рэактыў прыгодны да таго часу, пакуль ён бясколерны.

Азоцістая кіслата. Наліваюць у прабірку 10 см³ дасьледванай вады, дадаюць 5 капель рэактыву Грыса (гл. ніжэй) і награюць у працягу 5 мінут пры 70—80°. У залежнасьці ад тэй ці іншай колькасьці азоцістай кіслаты і яе соляў атрымоўваецца розавая афарбоўка адпаведнай інтэнсыўнасьці, па якой і заключаюць аб прыблізнай колькасьці азоцістай кіслаты (гл. табліцу).

| Афарбоўка пры разглядзе прабіркі зьверху ўніз над лістом белай паперы | Умоўныя абазначэньні | Прыблізная кольк. азоцістай кіслаты ($N_2O_3$) у мг на 1 літар |
|---|---|---|
| Няма | Няма | Менш 0,002 |
| Слаба-разаватая | Нязначныя сьляды | 0,002—0,01 |
| Сьветла-разаватая | Слабыя сьляды | 0,01—0,05 |
| Розавая | Сьляды | 0,05—0,1 |
| Чырвоная | Значная колькасьць | 0,1—0,5 |
| Ярка-чырвоная | Шмат | 0,5—1,0 |

Рэактыў Грыса. Мешаніну з 1 г альфа-нафтыльаміну, 10 г сульфанілавай кіслаты і 89 г віннакаменнай кіслаты рашчыняюць у 1 літры прагатаванай дыстыляванай вады. Захоўваюць у цёмнай пасудзіне; павінен быць бясколерным.

Азотная кіслата. Бяруць у прабірку 1 см³ дасьледванай вады, дадаюць 1,5 см³ концэтраванай серкай кіслаты (хэмічна чыстай) і, ахаладзіўшы да тэмпэратуры пакою, усыпаюць некалькі крупінак бруціну (атрутная матэрыя—патрэбна быць асьцярожным). Калі ёсьць азотная кіслата ці яе солі, зьяўляецца розавая афарбоўка. Адносна колькасьці азотнай кіслаты гл. табліцу:

| Афарбоўка пры разглядзе прабіркі зьверху ўніз над лістом белай паперы | Умоўныя абазначэньні | Прыблізная колькасьць азотнай кіслаты ($N_2O_5$) у мг на 1 літар |
|---|---|---|
| Няма | Няма | Менш 0,5 |
| Праз адну мінуту розавая афарбоўка. Праз 5 мінут афарбоўка робіцца нязначнай | Нязначныя сьляды | 0,5—2,5 |
| Праз адну мінуту—сьветла-розавая афарбоўка, якая праз 5 мінут пераходзіць у слаба-разавата-жоўтую | Слабыя сьляды | 2,5—5,0 |
| Рошчын разавее хутка. Праз адну мінуту—розавы, а праз 10 мінут—слаба-жоўты | Сьляды—нязначная колькасьць | 5,0—10,0 |
| Рошчын разавее хутка. Праз 1 мінуту робіцца чырвона-аранжавым, а праз 5—10 мінут—жоўтым | Значная колькясьць | 10,0—50,0 |
| Рошчын хутка разавее. Праз паўмінуты робіцца аранжавым, а праз 5 мінут інтэнсыўна-жоўтым | Шмат | 50,0—100,0 |

Серкавадарод ($H_2S$). Выявіць серкавадарод можна:

1) па паху — бяруць няпоўную бутэльку вады (тэмпэратура пакою), узбоўтваюць, адкупорваюць і нюхаюць. Пах тухлых яек будзе сьведчыць аб прысутнасьці серкавадароду;

2) па пачарненьню воцатна-сьвінцовай паперкі. Паміж горлам бутэлькі і коркам зажымаюць палоску воцатна-сьвінцовай паперы, якая не павінна дакранацца ні да сьценак бутэлькі, ні да вады (ровень вады павінен быць на 3—4 см ад корка) і пакідаюць у такім стане на 2 гадзіны. Ад прысутнасьці серкавадароду воцатна-сьвінцовая паперка чарнее.

Так выяўляюць свабодны серкавадарод. Калі свабоднага серкавадароду няма, трэба паглядзець, ці ня зьвязны ён. Выяўляецца ў гэтым выпадку серкавадарод таксама як і свабодны, толькі папярэдне вада наліваецца ў коўбу (каля 100 см$^3$) і да яе дадаецца некалькі капель салянай кіслаты ($HCl$).

Воцатна-сьвінцовая папера рыхтуецца так: рашчыняюць каля 5 г крышталічнай воцатна-сьвінцовай солі ($CH_3COO_2Pb$) у 100 см$^3$ дыстыляванай вады, дадаюць пякучага натру ($NaOH$) да зьнішчэньня ападку гідрату вокісу сьвінца, які атрымоўваецца (пякучага натру багата не дадаваць), апускаюць у такі рошчын фільтравальную паперу, якую далей сушаць, рэжуць на палоскі і потым скарыстоўваюць.

Жалеза $Fe$ (агульная колькасьць). Дасьледваную ваду ўзбоўтваюць у бутэльцы, уліваюць у прабірку 10 см$^3$, дадаюць да яе 1-2 каплі концэнтраванай салянай кіслаты і на кончыку ножыка крыху надсеркакіслага амонію, узбоўтваюць і пакідаюць у пакоі на 5 мінут. Пасьля гэтага дадаюць 5 капель 50-проц. рошчыну раданістага амонію (50 г крышт. раданістага амонію рашчыняюць у ды-

стыляванай вадзе і аб'ём даводзяць да 100 см$^3$). У прысутнасьці жалеза атрымоўваецца чырвоная афарбоўка (гл. табліцу).

| Афарбоўка пры разглядзе прабіркі зьверху ўніз над лістом белай паперы | Умоўныя абазначэньні | Прыблізная колькасьць жалеза (Fe) у мг на 1 літар |
|---|---|---|
| Няма | Няма | Менш 0,05 |
| Ледзь прыкметная жаўтавата-разаватая | Нязначныя сьляды | 0,05—0,1 |
| Слабая жаўтавата-разаватая | Слабыя сьляды | 0,1—0,5 |
| Жаўтавата-разаватая | Сьляды | 0,5—1,0 |
| Жаўтавата-чырвоная | Значная колькасьць | 1,0—2,5 |
| Ярка-чырвоная | Шмат | Шмат |

Арганічныя матэрыі. Бяруць 100 см$^3$ (піпеткай) дасьледванай вады, уліваюць у Эрленмэйераўскую коўбу, дадаюць піпеткай 5 см$^3$ 25-проц. сернай кіслаты ($H_2SO_4$), потым прыліваюць з бюрэткі 10 см$^3$. $^1/_{100}$ норм. рошчыну марганцава-кіслага калію ($KMnO_4$) і нагрэўшы да кіпеньня, кіпяцяць роўна 10 мінут. Пасьля кіпячэньня ў гарачы рошчын прыліваюць з бюрэткі 10 см$^3$ $^1/_{100}$ нармальнай шчаўёвай кіслаты, а потым да вадкасьці, якая робіцца бясколернай, дадаюць з бюрэткі па каплям рошчын марганцава-кіслага калію да зьяўленьня слаба розавай афарбоўкі. Для таго, каб лепш было назіраць афарбоўку, пад коўбу кладуць ліст белай паперы.

Арганічныя матэрыі азначаюцца колькасьцю (у мг) марганцава-кіслага калію альбо кіслароду (мы будзем мець на ўвазе колькасьць марганцава-кіслага калію), якая ідзе на акісьленьне гэтых арганічных матэрый, прычым разьлік вядзецца на 1 літар вады.

25-проц. рошчын сернай кіслаты атрымоўваюць разбаўленьнем 1 часткі моцнай сернай кіслаты (уд. в. 1,84) 3 аб'ёмамі вады (1:3).

$^1/_{100}$ норм. рошчын шчаўёвай кіслаты. Бяруць 0,6303 г чыстай шчаўёвай кіслаты, рашчыняюць у мернай літровай коўбе ў дыстыляванай вадзе, дадаюць 15 см$^3$ моцнай сернай кіслаты ($H_2SO_4$) і даводзяць дыстыляванай вадой да меткі.

Прыгатаўленьне і ўстаноўка коэфіцыенту папраўкі (K) рошчыну марганцава-кіслага калію ($KMnO_4$).

Адважваюць каля 0,32 г $KMnO_4$, рашчыняюць у 1 літры дыстыляванай вады і трымаюць у цёмнай бутэльцы ад 8 да 14 дзён. Пасьля гэтага ўстанаўляюць коэфіцыент папраўкі, для чаго карыстаюцца шчаўёвай кіслатой ($^1/_{100}$ норм.).

Уліваюць у Эрленмэйераўскую коўбу 100 см$^3$ дыстыляванай вады, дадаюць 5 см$^3$ 25-проц. сернай кіслаты, потым прыліваюць з бюрэткі 10 см$^3$ падрыхтаванага рошчыну $KMnO_4$ і, нагрэўшы да кіпеньня, кіпяцяць роўна 10 мінут. Затым у гарачы рошчын прыліваюць з бюрэткі 10 см$^3$ $^1/_{100}$ норм. шчаўёвай кіслаты і зараз-жа да вадкасьці, якая робіцца бясколернай, дадаюць рошчын $KM_nO_4$ да зьяўленьня слаба-розавай афарбоўкі.

Вылічэньне: на акісьленьне 10 см$^3$ шчаўёвай кіслаты, прыкладна, пайшло 10,2 см$^3$ $KMnO_4$, адкуль коэфіцыент папраўкі для марганцава-

кіслага калію $K=\frac{10}{10,2}=0,98$. (Каб перавесьці пэўную колькасьць куб. см данага рошчыну $KMnO_4$ у куб. см $^1/_{100}$ норм., трэба памножыць гэтую колькасьць куб. см на 0,98).

Прыклад вылічэньня колькасьці арганічных матэрый па $KMnO_4$.

Дапусьцім, што 10 см³ шчаўёвай кіслаты адпавядае 10,2 см³ $KMnO_4$ (на акісьленьне 10 см³ шчаўёвай кіслаты ідзе 10,2 см³ $KMnO_4$); у такім выпадку коэфіцыент папраўкі (К) будзе $10:10,2=0,98$ (для $KMnO_4$).

Перад кіпячэньнем дадана 10 см³ $KMnO_4$.

Пасьля кіпячэньня пайшло яшчэ 5,5 см³ $KMnO_4$, усяго 15,5 см³.

Шчаўёвай кіслаты было прыліта 10 см³, на яе акісьленьне патрэбна (як толькі што адзначалася) 10,2 см³ $KMnO_4$, адсюль на акісьленьне арганічных матэрый у 100 см³ вады пайшло $15,5-10,2=5,3$ см³ $KMnO_4$, што адпавядае 5,19 см³ ($5,3\times0,98=5,19$) дакладна на $^1/_{100}$ норм. $KMnO_4$. На 1 літар пайшло-б $5,19\times10=51,9$ см³ $KMnO_4$.

Прыняўшы пад увагу, што 1 см³ $^1/_{100}$ норм. рошчыну $KMnO_4$ мае 0,316 мг $KMnO_4$ будзем мець у 51,9 см³—16,4 мг $KMnO_4$ ($0,316\times51,9=16,4$). Такім чынам, мы бачым, што на акісьленьне арганічных матэрый у 1 літры данай вады патрэбна 16,4 мг $KMnO_4$.

Жорсткасьць. Жорсткасьць бывае некалькіх відаў: агульная, часовая, сталая і г. д. Мы застановімся на вызначэньні толькі часовай жорсткасьці. Для гэтага бяруць 50 см³ дасьледванай вады (у хэм. шклянку) і дадаюць, папярэдне дадаўшы 2 каплі рошчыну мяцілоранжу, $^1/_{10}$ нормальнай салянай кіслаты ($HCl$) да пераходу афарбоўкі з жоўтай у аранжавую. Па колькасьці страчанай $HCl$ і вызначаюць жорсткасьць вады (окісь кальцыю ($CaO$) у мг на 1 літар вады).

1 см³ $^1/_{10}$ норм. $HCl$ адпавядае 2,8 мг $CaO$. У нас пайшло, напрыклад, да атрыманьня аранжавай афарбоўкі 4,5 см³ $^1/_{10}$ норм. $HCl$. Памнажаючы 2,8 на 4,5, атрымліваем 9,6 мг $CaO$ у 50 см³ вады, у 100 см³ вады будзе $9,6\times2=19,2$ мг, а ў 1 літры $19,2\times10=19,2$ мг $CaO$. Калі ў нас раствор $HCl$ не дакладна $^1/_{10}$ норм., трэба страчаную для зьмены афарбоўкі колькасьць см³ $HCl$ памножыць перш за ўсё на коэфіцыент папраўкі (гл. ніжэй) і такім чынам пералічыць у строга $^1/_{10}$ норм. і далей вылічаць як указана.

Рошчын мяцілоранжу. Адважваюць 0,1 г хэм. чыстага мяцілоранжу і рашчыняюць у 100 см³ дыстыляванай вады.

Рошчын фэнолфталеіну. Адважваюць 0,1 г хэм. чыстага фэнолфталеіну і рашчыняюць у 100 см³ 96⁰ чыстага віннага сьпірытусу.

$^1/_{10}$ норм. рошчын $HCl$. 8 см³ моцнай $HCl$ (уд. в.—1,19) апускаюць з бюрэткі ў мерную коўбу на 1 літар і дапаўняюць да меткі дыстыляванай вадой.

Рошчын звычайна ня бывае дакладна $^1/_{10}$ норм., а таму трэба знайсьці коэфіцыент папраўкі, каб можна было заўсёды па страчанай (для вызначэньня жорсткасьці вады) колькасьці куб. см данага рошчыну $HCl$ памнажэньнем на коэфіцыент папраўкі вылічыць, якой гэта адпавядае колькасьці куб. см строга $^1/_{10}$ норм. рошчыну $HCl$.

Коэфіцыент папраўкі находзяць па $^1/_{10}$ норм. рошчыну лугу натру ($NaOH$), для чаго бяруць піпеткай 15 см³ рошчыну $HCl$, дадаюць 5 капель рошчыну фэнолфталеіну і па каплям з бюрэткі пускаюць $^1/_{10}$ норм. рошчын $NaOH$ да зьяўленьня розавай афарбоўкі, ня зьнікаючай па працягу 3 мінут.

Азначэньне паўтараюць і бяруць сярэдняе з 2 лічбаў.

На 15 см³ рошчыну HCl пайшло, напрыклад, 14,8 см³ 1/10 норм. NaOH. Коэфіцыент папраўкі да рошчыну HCl будзе 14,8:15=0,98.

Серная кіслата. У прабірку з 3 меткамі да ніжняй меткі (5 см³) наліваюць дасьледванай вады (калі вада мутная, трэба папярэдне прафільтраваць), да сярэдняй меткі (2,5 см³) дадаюць 10-проц. раствор HCl і да верхняй меткі (2,5 см³) 10-проц. рошчын хлёрыстага барыю ($BaCl_2$); ад дадаваньня апошняй матэрыі зьяўляецца муць і тым хутчэй, чым больш у вадзе сернай кіслаты (звычайна ў выглядзе яе соляў); момант прыліваньня яе адзначаюць сэкунднай стрэлкай гадзіньніка і, разглядаючы прабірку на чорным фоне, заўважаюць момант зьяўленьня муці, на падставе чаго і заключаюць аб колькасьці сернай кіслаты ў мг на 1 літар вады (гл. табліцу):

| Колькасьць сэкунд | Прыблізная колькасьць сернай кіслаты ў выглядзе $SO_3$ у мг на 1 літар вады | Колькасьць сэкунд | Прыблізная колькасьць сернай кіслаты ў выглядзе $SO_3$ у мг на 1 літар вады |
|---|---|---|---|
| да 5 | больш 100 | 30 | 40 |
| 5 | 100 | 45 | 30 |
| 7 | 80 | 60 | 25 |
| 10 | 70 | больш 60 | менш 25 |
| 15—20 | 50 | | |

10-проц. рошчын HCl атрымоўваюць так: наліваюць у мерны цыліндар 26,4 см³ моцнай HCl (уд. в.—1,19) і даліваюць да 100 см³ дыстыляванай вадой.

10-проц. рошчын $BaCl_2$: 10 г $BaCl_2$ усыпаюць у мерную коўбу на 100 см³, рашчыняюць у дыстыляванай вадзе і даліваюць апошняй да меткі.

Хлёр (Cl). Бяруць піпеткай у Эрленмэйераўскую коўбу 100 см³ дасьледванай вады, прыліваюць 1 см³ рошчыну хромава-кіслага калію ($KCrO_4$) і па каплям з бюрэткі дадаюць рошчын азотна-кіслага срэбра ($AgNO_3$) да зьмены жоўтай афарбоўкі ў цагляна-чырвоную. Колькасьць страчаных см³ рошчыну $AgNO_3$ будзе адпавядаць колькасьці мг хлёру ў 100 см³ вады, а пры пераліку хлёру на 1 літар вады трэба памножыць см³ рошчыну $AgNO_3$ на 10.

Рошчын азотна-кіслага срэбра ($AgNO_3$). Адважваюць на аналітычнай вазе 4,790 г хэмічна-чыстага крышталічнага $AgNO_3$ і рашчыняюць у вадзе (дыстыляванай), давёўшы потым аб'ём рошчыну да 1 літра. Рошчын захоўваюць у цёмнай бутэльцы.

Рошчын хромава-кіслага калію (10 проц.). 10 г $KCrO_4$, праверанага на адсутнасьць прымешак хлёру, рашчыняюць у 100 см³ дыстыляванай вады.

Заўвагі:

1) Па ўсім пытаньням, зьвязаным з падрыхтоўчай работай да правядзеньня аналізаў, з правядзеньнем саміх аналізаў вады і інш., можна зьвяртацца: Менск, Хэмічны інстытут БАН.

2) Вынікі аналізаў вады просьба дасылаць таксама ў Хэмічны інстытут БАН.

Проф. А. К. Ленц

# Соцыялістычнае будаўніцтва і вывучэньне псыхікі

Адыходзіць у вечнасьць час, калі навуковыя габінэты і лябараторыі ўяўлялі з сябе сьвяцілішча, куды забараняўся ўваход непасьвечаным і дзе сядзелі мудрацы—„жрацы навукі“, якія звысака пазіралі на простых сьмяротных. Кастрычнікаўская рэволюцыя шырака расчыніла дзьверы навуковых установ і прымусіла навуковых дзеячоў несьці веды і асьвету на фабрыкі, заводы, у колгасы, савгасы.

Крытыка і самакрытыка ачышчаюць навуковую продукцыю як ад шкодных прымешак, так і ад памылак і бескарысных мудраваньняў. Ад працоўнай школы першай ступені і да вышэйшых навучальных установ, дасьледчых інстытутаў і Акадэміі ўсё павінна быць падпарадкавана патрабаваньням соцыялістычнага будаўніцтва. У краіне саветаў няма месца „навуцы для навукі“. Строга кажучы, такой навукі ніколі і ня было. Навука заўсёды ў выніку сьвядома ці несьвядома працавала на карысьць пануючае клясы. У пераживаемы намі рашаючы гістарычны момант навука павінна стаць пролетарскаю навукаю, павінна зьявіцца магутным сродкам у барацьбе за соцыялізм.

Зараз праводзіцца карэнная рэконструкцыя Беларускай Акадэміі Навук з мэтаю стварэньня з яе вышэйшага цэнтру соцыялістычнай навукі. Пры гэтай ачышчальнай рабоце важна ня толькі аднаўленьне асабовага складу Акадэміі, ня толькі праверка навуковых прац, з выкарчоўваньнем усяго шкоднага і непатрэбнага, але неабходны таксама перагляд і пераробка прадметаў заняткаў акадэмічных інстытутаў і катэдраў.

Тое, што лічылася патрэбным і важным у „старой“ нацыянал-дэмократычнай Акадэміі, павінна быць часткаю зусім выкінута за борт, частка рашуча пераробленa ў Акадэміі соцыялістычнай.

Для прыкладу спынімся на катэдры антрополёгіі. Пад антрополёгіяй (літаральна—навукаю аб чалавеку) звычайна разумеецца вывучэньне чалавека з пункту погляду прыродазнаўства. Што-ж звычайна прыпадносіцца пад гэтай назвай у буржуазных краінах? Адным з асноўных разуменьняў антрополёгіі лічыцца разуменьне „расы“. Гэты тэрмін, які азначае стойкую рознастайнасьць людзкога віду, заўсёды выкарыстоўваўся ў якасьці асновы рэакцыйных політычных тэорый.

Перад скасаваньнем рабства ў Паўночнай Амэрыцы так званыя поліфілетысты абаранялі рабства, запэўняючы, што белы і чорны чалавек гэта дзьве зусім розныя пароды. Па Агасісу радство паміж нэграмі і белымі ня большае, як паміж аслом і канём. У пачатку імпэрыялістычнай вайны нямецкія вучоныя ў сваёй „адозьве да куль-

турнага чалавецтва“ протэставалі супроць „тых, хто заключыў саюз з расійцамі і нацкоўваў манголаў і нэграў на белую расу“. Стэнлей баяўся „порчи расы“, выходзячы з таго, што будучае насельніцтва вярбуецца з ніжэйшае клясы, бо вышэйшая кляса ўстрымліваецца ад стварэньня патомства. Вядомы сучасны антраполёг Гюнтэр кажа, што паўночная раса, прадстаўленая, галоўным чынам, германцамі, швэдамі і ангельцамі, дае найбольшы лік выдатных людзей. Пераважаючыя народнасьці СССР Гюнтэр адносіць да ўсходня-балтыцкай расы і характарызуе іх прадстаўнікоў, як „цярплівых падданых“, „мрачных“ і г. д. Па думцы раду антраполёгаў уся эўропейская цывілізацыя зьяўляецца продуктам белай доўгагаловай расы. Усюды праводзіцца дзяленьне на вышэйшыя і ніжэйшыя расы і т. п.

Калі ў Інстытуце Беларускае Культуры была створана Катэдра антраполёгіі, перад ею была пастаўлена задача — высьветліць „чысты расавы тып беларуса“. Ня гледзячы на досыць значны матар'ял, сабраны катэдраю ў экспэдыцыях, праведзеных у розных раёнах БССР, антропомэтрычныя даныя „самабытнасьці“ беларуса, у нацдэмаўскім разуменьні гэтага паняцьця, ня высьветлілі, што зусім зразумела, бо нацыянальнасьць ёсьць не „біолёгічная“, а „гістарычная катэгорыя“ (Сталін).

Тым ня менш, катэдра антраполёгіі зрабіла шмат значных і шкодных памылак нацдэмаўскага зьместу, якія былі ў свой час ускрыты пры чыстцы БАН.

Антраполёгія вывучае формы цела і, як навука морфолёгічная, яна зусім не заслугоўвае таго, каб у складзе новай Акадэміі ёй адводзілася спэцыяльная катэдра. Навуковыя сілы Акадэміі павінны быць згрупаваны на тых участках навуковага фронту, дзе маецца простая сувязь з жывым, дынамічным момантам, сувязь з будаўніцтвам соцыялізму. Калі для нацыянал-дэмократаў важна было адшукаць чысты беларускі тып, дык гэта бяссэнсна і шкодна для мэт пролетарскай Акадэміі.

Між тым у структуры Беларускай Акадэміі Навук да апошняга часу зусім ня было адведзена месца такой жывой, новай навуцы, як навука аб псыхіцы і паводзінах чалавека. Паводзіны чалавека ёсьць актыўнае ўзаемадзеяньне яго з акружаючым соцыяльным асяродзьдзем. Уплывы асяродзьдзя, перарабляемыя чалавечаю псыхікаю, даюць тыя або іншыя формы паводзін, вывучэньне якіх неабходна для посьпеху соцыялістычнага будаўніцтва. Новая марксысцкая псыхолёгія прызвана замяніць сабой ідэалістычную псыхолёгію, якая лічыла душу не матар'яльнаю субстанцыяй, а цела нізводзіла на ступень матар'яльнага, ніжэйшага. Дыялектычны матар'ялізм працамі Маркса, Энгельса і Леніна ўстанаўляе адзіна правільнае разуменьне адносін паміж матар'яльным і псыхічным. Па трапнаму выразу Леніна „псыхіка і сьвядомасьць продукт таго асаблівага складанага куска матэрыі, які называецца мазгамі чалавека“.

Былі спробы разьвіць у Беларускай Акадэмі Навук навуку аб паводзінах і праводзіліся ў гэтай галіне асобныя экспэрымэнтальныя досьледы, але яны ня толькі не падтрымліваліся, але яўна тармазіліся. На працягу 1931 году замест Катэдры антраполёгіі быў створаны Інстытут вышэйшай нэрвовай дзейнасьці, а з 1932 г. організуецца Інстытут псыхонэўролёгіі.

Падобныя інстытуты ўжо маюцца ў буйных цэнтрах СССР. Назавем, напрыклад, Інстытут псыхонэўролёгіі пры Комуністычнай Акадэміі ў Маскве, Інстытут мозгу—у Ленінградзе, Псыхонэўролёгічныя інстытуты ў Харкаве і Кіеве.

Важнасьць арганізацыі ўсебаковага дасьледваньня людзкой псыхікі і паводзін ілюстравалася актам скліканьня ў студзені 1930 году ў Ленінградзе грандыёзнага па складу і багацьцю задач I Ўсесаюзнага зьезду па вывучэньню паводзін чалавека. У складзе зьезду былі прадстаўнікі наступных навуковых дысцыплін: псыхолёгіі, рэфлексолёгіі, нэўрофізыолёгіі, псыхотэхнікі, пэдолёгіі, псыхонэўропатолёгіі, соцыяльнай псыхолёгіі і інш.

Якое значэньне могуць мець псыхонэўролёгічныя досьледы для соцыялістычнага будаўніцтва? Пакідаючы ў баку нэўролёгію, якая мае свае спэцыяльныя задачы, я спынюся на навуках псыхофізыолёгічнага цыклю.

Яны павінны раскрыць нам агульныя законы, якія ляжаць у аснове актыўнасьці чалавека. Для гэтага трэба скарыстаць існуючыя экспэрымэнтальныя мэтодыкі, побач з выпрацоўкаю новых мэтодаў.

Досьледы гэтыя павінны даць яскравы і пэўны малюнак разьвіцьця людзкой псыхікі ад ніжэйшых прыраджоных рэфлексаў да вышэйшых псыхічных актаў, выяўляючых з сябе вышэйшую якасьць арганізаванай матэрыі (сознание). Для параўнаньня павінны вывучацца і паводзіны вышэйшых жывёл (напрыклад, малп). У галіне вывучэньня разьвіцьця асобы па ўзростам гэтыя досьледы, абапіраючыся на глыбокі аналіз соцыяльна-экономічных умоў, дадуць ацэнку выхаваўчых прыёмаў і падстаў да выпрацоўкі новых выхаваўчых мэтодаў.

Далей, гэтыя досьледы павінны даць рад каштоўных паказаньняў па вывучэньню псыхікі працоўных.

Праца, актыўная работа ёсьць кваліфікаваны від паводзін. Пытаньні арганізацыі працы, проблема стамляльнасьці, перавага колектыўнае працы, спэцыяльныя соцыялістычныя формы працы (ударніцтва, соцыялістычнае спаборніцтва) у іх адносінах да актывізацыі псыхікі і да падвышэньня продукцыйнасьці працы—усе гэтыя пытаньні знойдуць асьвятленьне ў досьледах псыхофізыолёгіі, псыхогігіены і псыхопрофіляктыкі працы, якія будуць разгорнуты ў БАН. Побач з вывучэньнем вышэйшых праяў псыхікі геніяльнасьці, даравітасьці, вынаходніцтва—павінны вывучацца і ніжэйшыя, часткова хваравітыя формы псыхічнай дзейнасьці—адсталасьць, псыхічныя хваробы, псыхічная інваліднасьць. Сюды-ж уваходзіць вывучэньне уплываў спадчыннасьці (генэтыка), асаблівасьцяў констытутцыі (целаскладу) асобных людзей; тут-жа знойдуць сабе месца і антропомэтрычныя досьледы.

З гэтага кароткага нарысу яскрава выплывае значэньне навук, што вывучаюць псыхіку чалавека, для вырашэньня раду неадкладных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Усе паказаныя віды досьледаў павінны быць зьвязаны адзінаю навуковаю мэтаю вывучэньня псыхікі *новага* чалавека, які ствараецца і разьвіваецца ў атмосфэры грандыёзнага соцыялістычнага будаўніцтва, і разам з гэтым практычнаю мэтаю для стварэньня ўмоў для выяўленьня найбольшай актыўнасьці чалавека, які будуе новы соцыялістычны сьвет, авалодвае з гэтай мэтай прыродай і перамагае супраціўленьне капіталістычнага сьвету.

Найбольш каштоўнай псыхічнай формай мы павінны лічыць ня псыхіку мудраца, які ўзносіцца думкаю ў завоблачныя вышыні неабсяжнай мэтафізыкі, а псыхіку будаўніка соцыялізму, узброенага ведамі і тэхнікай і заражонага вышэйшай ступеньню рэволюцыйна-творчага энтузіязму.

**Цішка Гартны**

# Памдырэктара па рабочых прапановах

*(Нарыс)*

Поўная заля рабочых настарожліва слухала дакладчыка. Гаварыў дырэктар; ён выразна характарызаваў дасягненьні заводу і рэзка спыняўся на нязжытых недахопах. Даклад завострываў увагу рабочых на важнейшыя заданьні бягучага часу. Перад слухачамі паўставала багатая карціна ўпартага змаганьня за прамфінплян. Паўставалі яскравыя эпізоды штурмавых дэкаднікаў, вытворчых манэўраў. Выдзяляліся бадзёрым тонам і барвістымі фарбамі месяцы з перавыкананым плянам. Маністы прозьвішчаў ударнікаў убіралі гісторыю вытворчых посьпехаў.

Дырэктар гаварыў, як біў молатам па кавадлу: цьвёрда і трапна. Гаварыў і глядзеў на расьсеўшых за сталом прэзыдыуму гасьцей— дэлегатаў партыйнага зьезду. Іх было да дзесяці чалавек і большасьць рабочых з прадпрыемстваў. Сход меў заданьнем абмяняцца вопытам працы, дасягненьнямі і посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Госьці паведамілі многа цікавага — ёсьць што запазычыць з іх практыкі, але ня меней чаго можна даць ім.

— Мы не адстаем, як бачу! — хваліўся стары сьлесар свайму суседу і сачыў, каб не прапусьціць і слова з дырэктарскае прамовы.

Гасьцей выслухалі з напружанаю ўвагаю, няхай-жа і госьці слухаюць з няменшай цікавасьцю!

Заля адзначала ўсю сур'ёзнасьць урачыстых абставін і трымалася з належным настроем. І таму для ўсіх нечаканым раздаўся гучны голас старшыні сходу.

— Адну хвілінку! — накіраваў ён словы ў бок дакладчыка.

— Прапануецца запрасіць у прэзыдыум памдырэктара па рабочых прапановах, тав. Палякова.

Заля парушыла спакой: дзесяткі воч накіраваліся да дзьвярэй, але хутка адарваліся і праводзілі на сцэну ўстаўшага з радоў і пайшоўшага ў прэзыдыум маладога хлапца. Пачаліся перш адзінкавыя, а сьледам і зьяднаныя гучныя воплескі.

— Працягайце! — адчуў прамоўца і далей пачаў разгартаць багатую праграму заводзкіх плянаў. Яны цікавыя і захопліваючыя, але не бясьцікаўны і той, хто разам з іншымі стаіць у кіраўніцтве заводам— памдырэктара Моўша Палякоў. Калі ён сядзеў з рабочымі — пра яго думалі роўна з другімі. Калі-ж Палякова пазвалі ў прэзыдыум, многія аддалі гэтаму маладому і энэргічнаму хлопцу пераважную ўвагу.

„Глядзі-ж ты наш Палячок“ — прайшло ў тым раду, дзе сядзеў памдырэктара па рабочых прапановах, няўпічліва і незайздросна, а з гонарам за таварыша.

Так, завод можа і павінен ганарыцца гэткімі рабочымі як Моўша Палякоў. Рабочыя павінны браць з яго прыклад і ведаць хто і што ён за такі, іх памдырэктара. Ды не адны рабочыя таго заводу, які вырасьціў Палякова і які сам вырас на яго вачу.

Моўша Палякоў ударнік і вылучэнец. Ён варты таго, каб насіць гэта ганаровае званьне. За дзесяць гадоў стараннае працы ён заслужыў яго... Вось пройдзены шлях Палякова.

У дваццатым годзе Палякоў кінуў сваю сям'ю ў глухім Чэрвені і дзесяцігадовым хлапчуком накіраваў у Менск: там яго бацька працаваў на абутковай фабрыцы. Пры мацеры аставалася чацьвёра дзяцей і бацькавага заработку не выстарчала іх даглядаць. Сям'я цярпела нужду, перабівалася з хлеба на квас. То быў час польскае окупацыі. Ці-ж гэта лёгка цярпець чулай дзіцячай душы? І Палякоў рашае з маленства стаць памоцнікам бацьку.

У Менску ён трапляе ў майстэрні сельска-гаспадарчых машын і астаецца вучыцца на сьлесара.

Цеснае памяшканьне і саматужныя сродкі вытворчасьці акаляюць хлапчука нездавальняючымі ўмовамі рамесьніцкага жыцьця. Але вучань пільна сачыў за паваротамі і захадамі сьлесароў і пераймаў мудрасьці сьлясаркі. Ён не агледзеўся як гэта рамяство далося яму з усімі сваімі хітрасьцямі і складанасьцю. У дробнай неабсталяванай майстэрні мала размаху: яна стульвае разьвіцьцё пролетарскае сьвядомасьці і ўзьлёты думак, яна перашкаджае шырыні поглядаў і паглыбеньню індустрыяльных пачуцьцяў. Паляковы думкі верцяцца па-за сьценамі майстэрні, сягаючы ў карпусы заводу „Энэргія“. Там ужо прадпрыемства вышла з рамак майстэрні і стала на дарогу ператварэньня ў буйны завод. Каб гэта сталася і з іх майстэрнямі! Вакол гэтага пытаньня сконцэнтраваліся думкі і жаданьні рабочых. І не дарма. Разьвіцьцё прамысловасьці ў маладой рэспубліцы заняло першае месца ў творчай адноўнай рабоце савецкае ўлады і комуністычнае партыі. Майстэрні не асталіся без належнае ўвагі, і год за годам, на вачох невялічкае грамадкі рабочых—расьлі, мацнелі, шырыліся і пераходзілі ў стадыю буйнога прадпрыемства. Палякоў не агледзеўся, як стаў рабочым машына-будаўнічага заводу, багата абсталяванага, з цэлым радам цэхаў і з тысячнай колькасьцю рабочых. Дзесяткі новых і навейшых станкоў запоўнілі новапабудаваныя пpасторныя карпусы сьлясарнае і такарнае майстэрняў. Завярцеліся, загулі, дзень-у-дзень павялічваючы асортымэнт вырабу. Паветраныя помпы, цэмантныя варштаты, перакіданкі для правозу матар'ялу, каменядрабілкі і дзесяткі іншых прыладаў і дэталяў да іх. Забрашчэлі лябёдкі, запалалі горны, задыміліся плаўныя печы і заліўныя гнёзды.

Побач з узростам вытворчых функцый вырасла і пашырылася партыйная і грамадзкая работа на заводзе. Склад партыйнай організацыі дашоў да дзьвюх соцень чалавек. Комсамол не адстаў, давёўшы колькасьць сваіх сяброў да трохсот чалавек.

І вось, калі вайшла ў дзеяньне гістарычная пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва, завод, на якім няспынна працаваў Моўша Палякоў— абярнуўся ў другое па сваёй магутнасьці мэталюргічнае прадпрыемства ў горадзе. Яго вытворчы плян ахапіў двухмільённую суму. Організацыя працы патрабавала моцнага актыву для профэсіянальнай і адміністрацыйнай работы. Дырэктара падмацавалі двума памоцнікамі,

высунутымі з радоў рабочых. Павялічылася励 колькасьць майстроў. І ў часе аднаго штурмавога месяца, у 1930 г., нечакана для яго, Моўшу Палякова пазвалі ў бюро партколектыву: ён ужо быў комсамольцам і актыўным грамадзкім работнікам у асноўнейшым на заводзе цэху— у цэху сьлясарскім.

— З табою не гаварыў нічога т. Левін?—запытаў Палякова сакратар партколектыву т. Шулькін.

— Пра вошта?

Палякоў зьдзіўлена і недаўменна глядзеў у спакойлівы твар настарожанага сакратара і не дагадаўся, у чым справа. Яго думкі абляталі майстэрні, рэвізавалі праробленую ім работу, нышпарылі ў мінулым, не абмінулі ніводнае дэталі ў продукцыі ні з боку якаснага, ні з колькаснага—усё як-быццам добра. Болей таго—юнацкая памяць Палякова не зьмяняе яму: ён вось ужо восем гадоў, як стаіць пры варштаце гаспадаром яго і ні разу не атрымаў ніякае заўвагі. Яго разец, як пісарскае пяро, паслухмяна і акуратна бяжыць па наведзенай лініі, сталь пакорліва паддаецца яго вострому лязу, варштат верціцца бесьперабойна і роўна і поршні адзін за другім, як лялечкі, выходзяць, бяз жаднае вады, бліскучыя і дакладныя. Але-ж Палякоў ведае і многа іншых рабочых—сваіх таварышоў, якія ня ўступяць яму па адмысловасьці работы, тым ня меней ужо некаторыя з іх нарабілі вытворчых памылак. Няма таго дня, каб на паседжаньні цэхавага камітэту і цэхавае ячэйкі не разьбіраліся пытаньні дысцыпліны і браку. Штурмавы месяц—трэба даць рашучую бойку ўсім завадзкім непарадкам.

Гэта Палякоў разумеў, але не знаходзіў ніякіх грахоў за сабою.

— Наконт чаго ці гаварыў?—справіўся ён у сакратара партколектыву.

— Дык ты ня ведаеш нічога?

— Як-быццам-бы!

— Мы цябе накіроўваем у Маскву на гадавыя курсы майстроў прадпрыемстваў... Згодзен?

Палякоў быў засьцігнуты гэтай навіною зьнянацку.

Але доўга ня думаючы, ён спагадліва адказаў:

— Згодзен, дзякую!

І вышаў ад сакратара з падвышаным настроем.

Цэлы тыдзень пасьля гэтага ён жыў падзеленым на часткі: палова яго думак была ў Маскве, другая аставалася ў Менску, вось-вось рыхтуючыся перанесьціся ў нябачаны, заманлівы горад, у цэнтар пралетарскае дзяржавы, у цудоўную Маскву.

У вызначаны дзень Палякоў пакінуў Менск і ня ўгледзеў, як апынуўся на курсах. Пайшло вучэньне, цікавае і захопліваючае, і ён не заўважыў, як мінуў год. Навука далася лёгка і Палякоў вярнуўся на завод, дзе яго чакала месца майстра сьлясарнага цэху.

Маладасьць Палякова не перашкодзіла яму быць сталым і ўмелым кіраўніком цэху. Рабочыя сустрэлі яго прыязна, па-таварыску і палюбілі яго, як разважнага адміністратара.

На працягу году Моўша Палякоў кіраваў цэхам бяз усялякіх інцыдэнтаў, бяз упушчэньняў. Наадварот, чым далей, тым большая да яго расла сярод рабочых павага. Калі яго хвалілі за стараннасьць ды за адданасьць заводу, ён гаварыў: „Пачакайце хваліць! Лепей пачакаць!“. Ён толькі каля двух гадоў як майстар, хоць на дваццаць два гады—дзесяць год вытворчага стажу. „Дайце паўней выявіцца мне на гэтай адказнай пасадзе“!—гаварыў ён, зусім не падазраючы, што яго мецяць у пам-

дырэктары. Ці-ж можна было дагадвацца пра гэту адказную пасаду? Палякоў добра разумеў усю яе адказнасьць, бачачы як раней Давід Гобэрман аддаваўся цалкам справе рабочых прапаноў. Іх давалася на цэлыя сотні па ўсіх цэхах, каштоўных і рацыянальных. Кожную прапанову трэба ўсебакова разгледзець, раздумаць, абгаварыць, выпрабаваць. Калі яна не падыходзіць—пакансультаваць таго, хто яе падаў, падказаць і ні ў якім разе не абыйсьціся з рабочым вынаходцам так, каб ён згубіў ахвоту і надзею далей працаваць над проектам свае прапановы. Давід Гобэрман, удумлівы і ўважны таварыш, быў на месцы. Рабочыя яго любілі, рабочыя яго лічылі дабрэйшым таварышом, лепшым чалавекам і адміністратарам, які адпавядаў сваёй пасадзе. І па заслугам! Але былі і нараканьні. Ад іх нельга застрахавацца, калі маеш справу з сотнямі людзей. Каб якім быў добрым—усім не дагодзіш.

Палякоў гэта вывеў з практыкі майстра, і тады былі гэткія, што маракавалі на яго, былі і такія, што зайздросьцілі яму,—але такіх былі адзінкі і яны ў агульным прыязным тоне губляліся, як кропля ў моры. У кожным разе трэба мець на ўвазе, што і надалей знойдуцца чымсьці нездаволеныя. Ды справа соцыялістычнага будаўніцтва, справа барацьбы за прамфінплян, агульная справа рабочае клясы не павінна з гэтым лічыцца. І Палякоў спакойліва і ахвотна прыняў пасаду памдырэктара па рабочым прапановам.

Гэта на 23 годзе свайго жыцьця.

Цяпер ён рухава і заклапочана адданы сваёй справе. Дзень-у-дзень ад ранку да вечара яго можна сустрэць на заводзе. У папцы і ў кішэнях у яго рабочыя прапановы.

Над кожнаю з іх ён пільна і натужна думае, абгаварвае яе з яе аўтарам, выпрабоўвае. Часта ўсе ночы на пралёт.

Завод стаіць перад ім, як організм перад аналітыкам: кожная майстэрня, кожны варштат з адкрытым сваім нутром, з повертамі і ўдарамі малаткоў, з прунжынамі і шрубкамі, з рухавікамі і зубіламі. Ён зьвязаны моцнымі ніцямі дбаньня і клопату як з кожным рабочым, так і з кожным варштатам, машынай, прыладай.

„Працы па вушы", гаворыць Палякоў, калі ў яго запытаеш, як справы? Але нараканьня ня яе цяжкасьць і ўтому ад яго ніхто не пачуе, як ня чуў ніхто ад яго скаргаў за доўгія гады працы радавым рабочым.

Пракідны і дасьціпны, ён жыве заводам і іменна сваім заводам; без яго, без заводу Палякова цяжка сабе ўявіць.

„Я ўспамінаю,—ганарыцца ён,—калі наш завод быў дробнымі майстэрнямі. У сьлясарскім цэху знаходзіўся ўсяго адзін варштат, а ўсё ішло ручным саматужным чынам. А цяпер! Палякоў выводзіць жэсты, у якіх бачна гордасьць і захапленьне заводам, уласьцівыя палкаму і адданаму комсамольцу. Але ў гэтых яго асаблівасьцях не знайсьці ні калiва эгоізму і, крый чаго, ніякага супрацьстаўленьня свайго становішча—становішчу радавога рабочага. Ён чула прыслухоўваецца да нуждаў і запатрабаваньняў кожнага таварыша як у галіне вытворчасьці, так і ў галіне грамадзка-культурнай работы. Калі той ці іншы кінецца яму ў вочы, хоць нагляднаю, яшчэ недасьледжанаю выдатнасьцю ў той ці іншай галіне працы, Палякоў пакладае ўсе стараньні, каб даць магчымасьць яму цалкам выявіцца. Тав. Гольман абвясьціў сябе ўдарнікам у літаратуры і Палякоў захоплены клопатам, як-бы падтрымаць Гольманаў нахіл, дапамагчы яму аўладаць тэхнікай літаратурнай творчасьці. Тав. Цярэшка выяўляе сябе старанным рацыя-

налізатарам і Палякоў заўсюды з ім у дарадах, з усіма абгаварвае пытаньне, каб стварыць як найлепшыя і спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця Цярэшкавых стараньняў. Ад індывідуальных пытаньняў, як ад тэзы, Палякоў пераходзіць да агульных, як да сынтэзу. У гэтым апошнім яго дбаньне пра завод уцалку. Хай вырвецца які-колечы перабой у забесьпячэньні ці прарыў у выкананьні прамфінпляну—Палякоў не знаходзіць спакою, пакуль справа ня ўладзіцца. Ён не дае дыхнуць ні дырэктару заводу, ні старшыні завкому, ні цэхавым організацыям. Справа сталоўкі, пабудова новых памяшканьняў займае месца ў яго думках побач з прапановамі, якія ён дасьціпна і бярэжліва вывучае і старанна разьбірае. Ён любіць увайсьці ў малейшую дробязь кожнага пытаньня і ніколі не аднясецца да яго павярхоўна, спусьціўшы рукавы. Калі справа датычыць якіх-колечы непаразуменьняў паміж рабочым і адміністрацыяй або завкомам і Палякоў бачыць, што рабочы ня праў ці капрысіць, абараняючы свае нетаварыскія паводзіны і погляды, ён абязбройвае таварыша сяброўскімі дакорамі, таварыскай сарамлівасьцю:

— Ня добра, браце, так, ты ня праў. Падумай. Не гарачыся!— Зусім іншы тон да таго, хто злоўжывае сваімі капрысамі ці выяўляе галавацяпства—тады Палякоў рашучы і няўмольны.

— Яму ня месца на заводзе, інтарэсаў якога ён ня ўмее або ня хоча абараняць!

Палякоў расьце і загартоўваецца змаганьнем за соцыялістычнае будаўніцтва—побач з ростам і ўскладненьнем яго вялікіх задач. Ён прысьвяціў сябе індустрыі, соцыялістычнай прамысловасьці, машынабудаўнічаму заводу і нельга ўявіць Палякова ні цяпер, ні ў далейшым па-за сьценамі заводу. Зросшыся з заводам з дзіцячых гадоў, ён думае аддаць яму і сталае сваё жыцьцё—гэткі цяпер у Палякова настрой. І калі паслухаеш яго думкі пра наступнае, дык не сумняваешся, хоць і маеш справу з маладым юнаком, у якога ўсё жыцьцё яшчэ наперадзе. Але гэты юнак—продукт нашае праменнае эпохі, загартаваны ў агні барацьбы за рабочую справу, за соцыялізм—а гэткія ня хістаюцца, ня сыходзяць з раз абранае дарогі і ня гнуцца перад выпадковасьцямі.

**Кароль**

# На малочна-таварнай фэрме

*(колгас „Інтэрнацыянал". Лёзьненскі р-н, Горбаўскі с/с)*

Вядучай галіной гаспадаркі колгасу „Інтэрнацыянал" зьяўляецца жывёлагадоўля. У гэтым колгасе маецца малочна-таварная фэрма, у якой налічваецца 160 дойных кароў, 29 штук нецеляй, 6 быкоў-вытворцаў (з іх 2 швіцкіх і 2 ангельскіх). 47 штук цялят старэй гадовага ўзросту і больш за паўсотні малых цялят, лік якіх з кожным днём павялічваецца.

Плян укомплектаваньня стада ў 1931 г. МТФ ня выканала. Згодна пляну МТФ на першае студзеня 1932 г. павінна была мець 200 галоў дойных кароў, а мелася толькі 160 шт. Гэта тлумачыцца тым, што на гэтую вядучую галіну гаспадаркі колгасу „Інтэрнацыянал" асаблівай увагі не зьвярталася.

Праўленьне колгасу, комсамольская ячэйка не ўразумелі задач спэцыялізацыі гаспадаркі і ня выявілі бальшавіцкай настойлівасьці ў барацьбе на гэтым адказьнейшым участку гаспадаркі колгасу. Стада МТФ было раскідана па 6 аддзяленьнях колгасу. Праверкай таго, як даглядаецца жывёла, у якіх умовах яна знаходзіцца—мала хто займаўся.

У многіх пунктах (аддзяленьнях) жывёла даглядалася дрэнна. Кармленьне, даеньне і вадапой адбываліся ня ў пэўны час, а калі папала. Памяшканьні былі ў антысанітарным становішчы. У некаторых пунктах (1-2) жывёла стаяла ў брудзе, вільгаці. Гной з-пад жывёлы ня вывозіўся; у справе догляду за жывёлай фэрмы панавала і квітнела абязьлічка, неорганізаванасьць.

Нормаў кармленьня ня было. Дакладнага ўліку надоенага малака ня было таксама.

Доглядам усяго гэтага стада займалася больш як 30 чалавек. Усім ім запісваліся працадні. Пры правільнай-жа організацыі тую самую работу маглі выконваць 20 і ня больш як 25 чалавек.

Гэтыя факты і лічбы сьведчаць аб тым, што гэтай вядучай галіне гаспадаркі (МТФ) ня толькі галоўнай, але ніякай увагі не аддавалася.

Зусім іншы выгляд мае МТФ зараз.

У першай дэкадзе лютага месяца канчаткова закончылася ўнутранае абсталяваньне паловы пабудаванага на 200 галоў кароўніку. Сканчэньне работ па кароўніку дала магчымасьць забраць з аддзяленьняў 100 штук дойных кароў і паставіць іх у адно месца. За пяць дзён пасьля сканчэньня работ па кароўніку 100 штук кароў былі пастаўлены ў станкі новага кароўніку. Вось адсюль і пачынаецца рашучы пералом на гэтым галоўным участку гаспадаркі колгасу „Інтэрнацыянал".

Для догляду за гэтымі каровамі організавана сталая брыгада з ліку лепшых колгасьнікаў-ударнікаў, колькасьцю ў 17 чалавек.

У першыя дні ў кароўніку было многа мятусьні, крыку, гоману, наглядалася цякучасьць у брыгадзе: адзін дзень ваду вазіў адзін, на другі дзень ён ужо адмаўляўся ад гэтай работы і яго замяняў другі. Такое самае зьявішча наглядалася і з возчыкамі гною (прыбіральшчыкамі скотнага двара). Але праз 7—10 дзён цякучасьць была ліквідавана і брыгада была замацавана сталая на цэлы год (гадавая). Брыгадзірам гэтай брыгады вылучаны т. Дубавік, адзін з лепшых колгасьнікаў-ударнікаў, сябра праўленьня колгасу, комуніст. Старшай даяркай вылучана 50-гадовая энтузіястка-ўдарніца, якая за ўдарную работу ня раз прэм'явана, атрымала разам з т. Дубавіком дыплём ад РВК за ўдарную работу і таксама абрана сябрам новага праўленьня колгасу.

Праз некалькі дзён на скотным двары склікана вытворчая нарада, на якой прысутнічалі ўсе сябры брыгады.

На вытворчай нарадзе была дэталёва распрацавана рабочая програма і палажэньне аб організацыі работы ў МТФ. Распрацаваная програма і палажэньне пакладзены ў аснову работы на скотным двары. Выходзячы з гэтага палажэньня, былі выпрацаваны, і цяпер строга праводзяцца ў жыцьцё, правілы ўнутранага распарадку на скотным двары. Цяпер работы на скотным двары пачынаюцца з 4 гадзін раніцы і вядуцца ў наступным парадку:

а) адграбаньне і вывозка гною,
б) падмываньне вымені і дойка а 5 гадзіне раніцы,
в) кармленьне,
г) а 9 гадзіне чыстка кароў, вадапой,
д) а 12 гадзіне дня другая дойка і кармленьне,
е) а 7 гадзіне ўвечары трэцяя дойка, а потым закладка корму на ноч.

Уся работа на скотным двары і продукцыя дакладна ўлічваецца і запісваецца па ўстаноўленай форме. З 1 сакавіка комсамольская ячэйка абавязалася організаваць графік удою малака, а загадчык МТФ заводзіць дакладны ўлік удою малака ад кожнай каровы паасобку.

Апрача гэтага першая вытворчая нарада скотнага двара пастанавіла:

1. Лічыць абавязковым вытворчую нараду склікаць кожную дэкаду.

2. Організаваць выпуск цэхавай насьценгазэты, якую выпускаць у дэкаду 1 раз, рэдколегію выбраць на чарговай вытворчай нарадзе.

3. Для падвышэньня ведаў організаваць на скотным двары гурток па вывучэньню зоотэхнікі, заняткі гуртка праводзіць 1 раз у дэкаду. Наведваньне заняткаў гуртка па вывучэньню зоотэхнікі для ўсіх працаўнікоў скотнага двара абавязкова. Прасіць колгас выпісаць для гуртка адпаведную літаратуру.

4. Прасіць праўленьне колгасу вылучыць камісію для агляду наяўнасьці корму, пасьля чаго, і не пазьней як праз 5 дзён, устанавіць сталыя нормы кармленьня.

5. Усю работу на скотным двары перавесьці на зьдзельшчыну (працадзень даярцы запісаць тады, калі яна выдаіць ад прымацаванай да яе групы кароў 100 літраў малака), для астатніх відаў работ нормы выпрацоўкі зацьвердзіць на чарговай нарадзе, а да гэтага часу дасьледваць кожны ўчастак работы.

6. Прапанаваць т. Цыганкову (загадчык МТФ) на працягу 5 дзён прымацаваць даярак да адпаведнай групы кароў, прычым для лепшых даярак-ударніц вылучыць лепшую жывёлу. Усе станкі пранумараваць

і вывесіць дошкі, да якой даяркі якія прыналежаць каровы (клічкі, нумары кароў).

7. Забараніць курэньне на МТФ.

8. Устанавіць дакладны ўчот злучкі кароў і г. д.

Гэтыя конкрэтныя пастановы праводзяцца цяпер у жыцьцё. Заглянуўшы зараз на скотны двор, адразу ўбачыш паперу з вялікімі літарамі, дзе напісана: „Ня курыць". „Бяз дзела на МТФ не заходзіць". А поруч з гэтымі плякатамі вісіць кніга пад назвай „Кніга рацыяналізатарскіх прапаноў па паляпшэньню работы на МТФ", куды і запісваюцца прапановы.

Работа на скотным двары закіпела. Цяпер жывёла знаходзіцца ў зусім іншых умовах, чымся было месяц таму назад. Яна цяпер знаходзіцца ў чыстым, цёплым памяшканьні, сваечасова накормлена і напоена.

Брыгада дабілася падняцьця вытворчай дысцыпліны на належную вышыню. Цякучасьць і арганізацыйныя непаладкі ліквідуюцца. Абязьлічцы наносіцца руйнуючы ўдар. Праўленьнем колгасу і комсамольскай ячэйкай цяпер на гэтую вядучую галіну гаспадаркі зьвяртаецца выключная ўвага. Праўленьне колгасу, комсамольская ячэйка і сама брыгада прымае ўсе захады для таго, каб у бліжэйшы час зрабіць узорнай работу на МТФ, а самую МТФ ператварыць у досьледнапаказальную.

Агульны сход комсамольскага колектыву Горбаўскага сельсавету, абгаварыўшы пытаньне аб ператварэньні МТФ колгасу „Інтэрнацыянал" у досьледна-паказальную для ўсяго раёну, абавязаўся праз 4-5 месяцаў арганізаваць на МТФ комсамольскі цэх.

Значна палепшыўся догляд і за той часткай жывёлы, якая знаходзіцца яшчэ па аддзяленьнях. Але гэта ня значыць, што на гэтым можна супакоіцца. Абавязкова патрэбна дабіцца, каб праз месяц было закончана абсталяваньне другой паловы кароўніку. Для гэтага праўленьне колгасу павінна арганізаваць брыгаду.

У 1932 г. гэтая МТФ павінна мець 250 дойных кароў. Ёй наданы племгаспадарчы кірунак. Трэба зрабіць усе захады да таго, каб плян укомплектаваньня 1932 г. быў ня толькі выкананы, але і перавыкананы. Трэба, разам з гэтым, цяпер-жа прыступіць да пабудовы пры кароўніку артэзіянскага калодзежу, які намячаецца па пляну і прыступіць да будаўніцтва новага кароўніку на 200 галоў, які, згодна пляну, павінен быць пабудаваны ў гэтым годзе.

Прынятыя захады да ператварэньня МТФ у паказальную павінны быць праведзены ў жыцьцё.

Комсамольскі колектыў, праўленьне колгасу „Інтэрнацыянал" і брыгада скотнага двара павінны з гонарам выканаць узятыя на сябе вялізарнейшыя абавязацельствы.

**Маргелаў, Лойка**

# Програма экономіка-географічнага апісаньня раёнаў БССР

## Уступ

Выконваючы тую ці іншую справу, мы павінны мець зусім яснае ўяўленьне аб тым, што мы робім, для чаго робім і як робім. Пачынаючы справу экономіка-географічнага апісаньня раёнаў БССР, нам трэба мець выразнае ўяўленьне аб сутнасьці гэтае работы, яе значэньні для соцыялістычнага будаўніцтва і аб тых шляхох, якімі магчыма больш дакладна вырашыць пастаўленую задачу.

Зразумела, што ўся наша работа, у тым ліку і работа па экономіка-географічнаму апісаньню раёнаў, павінна будавацца выходзячы з запатрабаваньняў соцыялістычнага будаўніцтва. З гэтага пункту погляду работа па навукова-дасьледчаму экономіка-географічнаму апісаньню раёнаў БССР мае надзвычайную актуальнасьць.

Экономіка-географічнае апісаньне раёнаў БССР дасьць ня толькі каштоўны даведачны матар'ял, які патрэбен усім нашым органам, ад цэнтру да сельсавету, а таксама і багацейшы мясцовы матар'ял аб соцыялістычным будаўніцтве, яго рэсурсах і посьпехах, матар'ялы для ўсяе сыстэмы нашае школьнае і па-зашкольнае асьветы, але яно дасьць яшчэ орыентоўку і стымул шырокаму разгортваньню паглыбленага вывучэньня раёнаў праз шматтысячную армію нашых савецкіх краязнаўцаў з рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, што ўжо ажыцьцяўляюць або могуць быць прыцягнуты да ажыцьцяўленьня гэтае справы.

Усё гэта, разам узятае, прыводзіць у яснасьць тыя рэсурсы, на якія прад'яўляе вялікае запатрабаваньне соцыялістычная індустрыялізацыя БССР, як аснова нашага форсаванага экономічнага і культурнага росту да роўню перадавых раёнаў СССР; усё гэта, разам узятае, узбройвае шырокія масы будаўнікоў соцыялізму ў барацьбе за соцыялістычную перабудову ўсяго нашага жыцьця. Складаньне другой пяцігодкі і г. д. ня можа абыйсьціся бяз глыбокага навуковага дасьледваньня раёнаў у цэлым, без падсумаваньня ў комплексе ўсяго таго, што цяпер скарыстоўваецца рознымі ўстановамі ў разрозьненым відзе.

Маючы грунтоўнае апісаньне раёну, атрымліваецца магчымасьць усё больш і больш паглыбляць веды аб ім, завастраючы ўвагу на найбольш важных пытаньнях, зьвязаных з спэцыялізацыяй раёну, з месцам гаспадаркі раёну ў сыстэме ўсяе БССР і СССР. Маючы грунтоўнае апісаньне раёну, адразу прыметна адсутнасьць навуковага дасьлед-

ваньня ў тэй ці іншай галіне работы па раёну, што дае магчымасьць гаварыць аб нявывучанасьці раёну ня ўвогуле, а ў конкрэтных справах, завастраючы ўвагу на гэтым ня толькі мясцовых органаў, але і цэнтральных дасьледчых ін-таў і г. д.

Раён павінен добра ведаць сам сябе, цэнтральныя ўстановы павінны добра ведаць раёны!

У пытаньні навукова-дасьледчага вывучэньня раёну і, на аснове гэтага, у апісаньні раёну павінны быць шчыра зацікаўлены як кіраўнічыя організацыі раёну, так і цэнтральныя ўстановы. Ці можна цярпець далей той факт, што ў нас, у БССР, няма апісаньня раёнаў? Не, далей гэтага цярпець нельга. Трэба як найхутчэй ліквідаваць гэты буйнейшы недахоп!

Хто павінен узяць кіраўніцтва па навуковаму дасьледваньню і апісаньню раёнаў?

Адказнасьць за гэтую работу і кіраўніцтва бярэ на сябе Беларуская Акадэмія Навук — яе Навукова-дасьледчы інстытут экономікі. Але гэтая работа ня можа быць выканана толькі адным Інстытутам экономікі. На вывучэньне спэцыяльных пытаньняў і на консультацыю па іх павінны быць прыцягнуты ўсе навукова-дасьледчыя інстытуты, якія ўваходзяць у склад як самое БАН, так і падпарадкаваныя ёй. Але гэтага мала. Для вывучэньня і апісаньня 75 раёнаў БССР патрэбны вялікія сілы і сродкі, якіх ня мае БАН. Галоўныя сілы па выкананьню гэтае работы павінны быць даны самымі раёнамі ў асобе сваіх краязнаўчых організацый, плянавікоў, гаспадарчых устаноў. Але тут мы сустракаемся з фактам, на якім трэба завастрыць увагу партыйных, савецкіх і профэсіянальных організацый раёну, а таксама Цэнтральнага бюро краязнаўства. У большасьці нашых раёнаў фактычна няма краязнаўчых організацый і таму трэба як найхутчэй стварыць іх у раёнах. Адказнасьць за організацыю краязнаўчых організацый нясуць мясцовыя кіраўнічыя органы. Але адсутнасьць краязнаўчай організацыі яшчэ не азначае, што работа па вывучэньню раёну павінна прыпыніцца. Трэба зараз-жа выдзеліць моцную брыгаду, якая і павінна пачаць разработку. Гэтая брыгада будзе зьяўляцца адначасна і організуючай ячэйкай па краязнаўству.

Многія раёны могуць сваімі ўласнымі сіламі організаваць вывучэньне раёну, патрабуючы з цэнтру консультацыі толькі па спэцыяльных пытаньнях (Гомель, Магілеў, Віцебск, Горкі і г. д.).

Але ёсьць раёны, якім трэба будзе даць больш грунтоўную дапамогу экономістамі і іншых спэцыяльнасьцяў працаўнікамі. Ізноў-жа трэба, каб сам раён выявіў найлепшую ініцыятыву, патрабуючы з цэнтру належнай дапамогі ў вывучэньні конкрэтных пытаньняў будаўніцтва раёну.

Прапанаваная програма па экономіка-геаграфічнаму апісаньню раёнаў зьяўляецца орыентовачнай схемай тае распрацоўкі матар'ялу, якую трэба прарабіць пры апісаньні раёну.

Аўтары не прэтэндуюць на вычарпальнасьць або на нейкую крытычную недатыкальнасьць гэтае схемы. Наадварот, мы разглядаем яе як справу, якая вельмі патрэбна і ўдакладненьне якой у процэсе работы зьяўляецца абавязковым.

Гэтае ўдакладненьне мы думаем ажыцьцяўляць як самастойна, пры правядзеньні работы па апісаньню раёнаў, так і з дапамогаю ўсіх таварышоў, што прымуць удзел у гэтай рабоце па ўсёй БССР. Усякая таварыская заўвага па гэтай схеме будзе прынята намі з вялікаю падзякаю.

Для таго, каб паслабіць некаторыя цяжкасьці, што вынікаюць з патрэбы падшуканьня адпаведных матар'ялаў пры экономіка-географічным апісаньні раёнаў, намі даецца, у якасьці дадаткаў, географічнае палажэньне ўсіх раёнаў БССР (вызначэньне якога зроблена па даручэньню і ўказаньню аўтараў картографам Ін-ту экономікі БАН т. Државецкім З. В.) і сьпіс некаторых важнейшых літаратурных крыніц матар'ялаў аб БССР.

Пры выкарыстаньні тых або іншых матар'ялаў (лічбаў, дакумэнтаў, вытрымак і інш. абавязкова трэба даваць спасылку на матар'ял, з якога ўзята тая ці іншая даведка, з паказаньнем працы, старонкі і інш. Таксама трэба даваць характарыстыку не літаратурнаму матар'ялу з месц (атрыманых з пэўнае ўстановы, што сабою ўяўляе, якая яго дакладнасьць, да якога году адносіцца і г. д.)

Усе матар'ялы па экономіка-географічнаму апісаньню раёнаў, заўвагі па схеме апісаньня і інш. трэба дасылаць у Ін-т экономікі БАН на імя камісіі па экономіка-географічнаму апісаньню раёнаў.

Туды-ж належыць зварочвацца і за консультацыяй у часе выкананьня работы.

Адрас: г. Менск, Беларуская Акадэмія Навук, Ін-т экономікі, камісіі па экономіка-географічнаму апісаньню раёнаў БССР.

## 1. Географічнае палажэньне, тэрыторыя і межы раёнаў

У гэтым пункце трэба даць магчымасьць чытачу дакладна ўявіць сабе: дзе разьмяшчаецца разгляданы раён; што ён становіць сабою па велічыні і форме яго тэрыторыі; з якімі раёнамі ён мяжуе і характар гэтых меж. Апісаньне раёну па гэтаму пункту можа быць выканана ў наступным парадку.

Перш за ўсё, карыстаючыся дадаткам да гэтае програмы, а таксама картаю БССР, трэба вызначыць у градусах (⁰) і мінутах (′) географічную шырыню і даўжыню розных пунктаў меж раёну (тое вызначэньне, што даецца ў дадатку, адносіцца да крайніх пунктаў раёну).

Пасьля гэтага трэба даць характарыстыку тэрыторыі раёну з боку яе агульнае плошчы ў квадратных кілёмэтрах, а таксама расьцягнутасьць у кілёмэтрах з поўначы на поўдзень і захаду на ўсход у розных пунктах. У якасьці асноўнага матар'ялу для гэтае характарыстыкі павінны зьявіцца як літаратурныя даведачныя матар'ялы па БССР, так і матар'ялы мясцовых плянавых органаў.

Нарэшце, трэба даць апісаньне межаў раёну з боку іх формы, суседзтва з іншымі раёнамі і суадпаведнасьці экономічнаму цягаценьню да цэнтру данага раёну. У якасьці матар'ялу для апісаньня меж трэба выкарыстаць як карту БССР і данага раёну (калі такая ёсьць), так і ўсе весткі краязнаўчых організацый ды мясцовых працаўнікоў раёну.

Для нагляднае ілюстрацыі матар'ялу па гэтаму пункту трэба даць схематычную карту раёну, якую адзначым № 1.

## 2. Агульная характарыстыка дасягненьняў соцыялістычнае рэконструкцыі гаспадаркі раёнаў і кіраўнічая роля мясцовых, партыйных, дзяржаўных, профэсіянальных і іншых грамадзкіх організацый

Задачаю гэтага пункту зьяўляецца: у падагуленай, выразнай форме паказаць тыя рэконструкцыйныя зрухі, што адбыліся да апошняга часу ў раёне. Паказаць тую дзейную ролю, якую адыгрывае

пролетарыят праз усю сыстэму сваё дыктатуры, у справе дасягненьня ў экономіцы і культуры раёну на аснове яго соцыялістычнае рэконструкцыі. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на выразнае і поўнае асьвятленьне тае кіраўнічае ролі мясцовае партыйнае організацыі, што ажыцьцяўляецца ёю праз сыстэму прыводных пасаў (КСМ, профсаюзы і г. д.) у справе соцыялістычнае перабудовы гаспадаркі і культуры раёну. Адначасна трэба даць характарыстыку становішча гэтых організацый у раёне.

У апісаньні раёну па гэтаму пункту трэба праз рад важнейшых момантаў з гісторыі работы мясцовыя партыйныя організацыі паказаць, як гэтая організацыя практычна на аснове генэральнае лініі партыі і ў барацьбе на два фронты забясьпечыла перамогу і посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне.

У якасьці матар'ялаў для выкананьня гэтага пункту павінны быць выкарыстаны ў першую чаргу протоколы і справаздачы мясцовых, партыйных, комсамольскіх, профэсіянальных і інш. організацый; гутаркі з паасобнымі працаўнікамі, якія ведаюць добра гэты раён і, нарэшце, справаздачы РВК і лічбовы матар'ял мясцовых пляновых органаў.

Важнейшыя пастановы партыйных, дзяржаўных і іншых організацый, што характарызуюць сабою вузлавыя моманты з гісторыі соцыялістычнага будаўніцтва раёну, апроч іх выкарыстаньня ў апісаньні, трэба, як матар'ял, у якасьці дадатку, прыкладаць да апісаньня раёну.

На аснове апісаньня дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне трэба выпукліць тыя цэнтральныя задачы, што стаяць цяпер перад соцыялістычным будаўніцтвам гаспадаркі і культуры раёну.

Усе гэтыя моманты павінны быць ажыцьцёўлены ў непарыўнай сувязі з аналізам пытаньня аб ажыцьцяўленьні ленінскай нацыянальнай політыкі ў конкрэтных умовах данага раёну, як часткі БССР.

### 3. Ажыцьцяўленьне ленінскае нацыянальнае політыкі ў конкрэтных умовах данага раёну

Гэты пункт, як ужо сказана вышэй, зьяўляецца непадзельнаю часткаю папярэдняга пункту. Задачай яго зьяўляецца:

1) Паказаць, як ажыцьцяўленьне ленінскае нацыянальнае політыкі партыі ў конкрэтных умовах данага раёну, як пэўнае часткі БССР, вырашае пытаньне аб умацаваньні таварыскіх адносін паміж працоўнымі розных нацыянальнасьцяў раёну, садзейнічаючы росту соцыялістычных вытворчых сіл раёну.

2) Паказаць, як у задачах і пэрспэктывах далейшага разьвіцьця соцыялістычнае гаспадаркі і культуры данага раёну адбіваецца ленінская нацыянальная політыка ў пытаньні ліквідацыі гаспадарчае і культурнае адсталасьці раней прыгнечаных нацыянальнасьцяў, як пад ажыцьцяўленьне гэтае задачы падводзіцца матар'яльная аснова ў выглядзе індустрыялізацыі ўсіх галін народнае гаспадаркі на аснове разьвіцьця буйное машыннае індустрыі і электрыфікацыі, што ажыцьцяўляецца ў СССР наогул і ў БССР, як яго непадзельнай частцы.

3) Паказаць, якія пэрспэктывы мае даны раён для разьвіцьця ў ім непасрэдна электрычный станцый і розных фабрык.

Пры выкананьні ўсяго гэтага пункту трэба выкарыстаць: матар'ялы партыйных, дзяржаўных і г. д. організацый раёну, а асабліва іх справаздачы і практыку паасобных працаўнікоў, зрабіць даклады

аналіз усяму таму матар'ялу, што сабраны ў раёне навакол складаньня яго пэрспэктыўнага пляну на 1932 г. і другую пяцігодку.

Для таго, каб падмацаваць рэальнасьць тых задач, што выстаўлены ў пэрспэктывах разьвіцьця раёну, трэба зрабіць дакладны аналіз тых працоўных, сыравінных, энэргетычных і інш. рэсурсаў, якімі ўладае даны раён. Гэтая задача павінна быць выканана ў ніжэйпералічаных пунктах.

**4. Працоўныя рэсурсы раёну: колькасьць і рух насельніцтва; шчыльнасьць насельніцтва; соцыяльны, профэсіянальны і нацыянальны склад насельніцтва раёну; пісьменнасьць насельніцтва, падрыхтоўка кадраў праз школы, курсы і г. д. у раёне; мэдычнае абслугоўваньне насельніцтва раёну**

У задачы гэтага пункту ўваходзіць даць характарыстыку працоўных рэсурсаў раёну. Тут трэба паказаць ня толькі тое, што мае даны раён цяпер, але і тое, якія рэконструкцыйныя зрухі ў працоўных рэсурсах раёну вызначаюцца ў пэрспэктыве, якімі момантамі соцыялістычнага будаўніцтва вымагаюцца гэтыя рэконструкцыйныя зрухі, як і чым матар'яльна забясьпечваецца выкананьне гэтых зрухаў. Парадак выкананьня гэтага пункту можна вызначыць наступны.

Перш за ўсё трэба паказаць агульную колькасьць насельніцтва з наданьнем ёй характарыстыкі па ўзроставаму і родаваму складу. Гэтыя матар'ялы трэба падаць у дынамічным разрэзе, за некалькі гадоў, па якіх маюцца матар'ялы.

Узроставую групоўку насельніцтва трэба даць па тых інтэрвалах, што ўжываюцца ў мясцовым плянавым органе, а пры наяўнасьці магчымасьці вытрымаць такую групоўку: 0—4; 5—9; 10—14; 15—19; 20—24; 25—29; 30—34; 35—39; 40—44; 45—49; 50—54; 55—59; 60—64; 65—69; 70 і звыш.

Рух насельніцтва трэба характарызаваць як з боку натуральнага прыросту (нараджальнасьць, сьмяротнасьць), так і з боку эміграцыйных і міграцыйных процэсаў (рух насельніцтва з раёну ў раён). Гэтыя даныя трэба паказаць таксама ў дынамічным аспэкце, з падзелам па роду і ўзросту, а таксама з аналізам тых прычын, што зьяўляюцца падставаю тых ці іншых хістаньняў паказанага вышэй руху насельніцтва ў паасобныя гады.

Шчыльнасьць насельніцтва вылічваецца як у адносінах усяго раёну на 1 кв. км яго тэрыторыі, так і ў адносінах да паасобных сельсаветаў. Шчыльнасьць насельніцтва наносіцца ўмоўнымі знакамі на картаграму раёну № 2 і падаецца табліцаю ў тэксьце. Таблічка павінна ўключаць у сябе як абсолютныя, так і адносныя лічбы па сельсаветам і раёну наогул.

Далей трэба даць характарыстыку з пункту погляду запатрабаваньняў соцыялістычнае рэконструкцыі гаспадаркі, існуючай шчыльнасьці насельніцтва ў паасобных пунктах раёну і тых зрухаў, што адбыліся, адбываюцца і запроектаваны ці могуць быць запроектаваны па пляну соцыялістычнага будаўніцтва ў даным раёне, як частцы БССР.

Соцыяльны, профэсіянальны і нацыянальны склад насельніцтва раёну трэба падаць у як-мага больш дакладнай характарыстыцы ў адносінах да ўсяго раёну і да яго паасобных сельсаветаў. Пажадана даць і гэтую характарыстыку ў дынамічным аспэкце, выкарыстаўшы ўвесь матар'ял, што маецца за дарэволюцыйныя і пасьлярэволюцыйныя гады. Групоўку гэтага матар'ялу трэба падаваць у тым выглядзе, як ён маецца

ў крыніцах, а калі гэтыя групоўкі за розныя гады будуць розныя, дык падаць іх трэба ў розных табліцах тэксту ці дадатках (пры рэдагаваньні гэты матар'ял будзе належным парадкам адсартаваны).

Пытаньне аб пісьменнасьці насельніцтва раёну трэба характарызаваць у адносінах да ўсяго раёну і да яго паасобных сельсаветаў. Таксама абавязкова трэба даць аналіз гэтаму пытаньню ў аспэкце социяльным, профэсіянальным і нацыянальным.

Вымяраць пісьменнасьць насельніцтва можна колькасьцю або процантам пісьменнасьці да ўсяго насельніцтва. Пажадана, каб характарыстыка пісьменнасьці была дана ў аспэктах ўзроставым, па катэгорыі (вышэйшая, сярэдняя, ніжэйшая і г. д.) і профэсіяналізацыі (агульна-адукацыйная, спэцыяльная, якая спэцыяльнасьць і г. д.).

Разам з тым трэба даць характарыстыку асьветнае сыстэмы ў раёне з боку колькасьці і віду школ, курсаў і інш., а таксама з боку тых задач, што паўстаюць перад раёнам у гэтай галіне і плянавых дырэктыў па іх выкананьню.

Нарэшце, трэба даць апісаньне тае дзяржаўнае і грамадзкае аховы здароўя насельніцтва, што праводзіцца ў даным раёне праз больніцы, розныя мэдпункты і г. д., з боку ўплыву гэтае аховы на натуральны рух насельніцтва і вытворчасьць яго працы.

Для выкананьня гэтага пункту трэба выкарыстаць як матар'ял даведнікі аб БССР, матар'ялы плянавых і іншых органаў раёну і друкаваныя матар'ялы, што маюцца аб гэтым раёне.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на выкарыстаньне пэрыядычнага мясцовага друку.

## 5. Характарыстыка раённага цэнтру і прамысловых пунктаў раёну

Гэты пункт знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з папярэднім. У задачу яго ўваходзіць: даць поўнае ўяўленьне чытачу аб тым, што становіць сабою цэнтар і тыя прамысловыя пункты, якія маюцца ў раёне, як організуючыя асяродкі соцыялістычнае рэконструкцыі гаспадаркі і культуры раёну.

Тут трэба даць дакладную характарыстыку раённаму цэнтру і прамысловым пунктам раёну з боку іх географічнага разьмяшчэньня, велічыні, колькасьці насельніцтва і г. д. Разам з тым трэба паказаць тую ролю, якую яны, раённы цэнтар і прамысловыя пункты, адыгрываюць па кіраўніцтву соцыялістычным будаўніцтвам у раёне і наогул у БССР праз сконцэнтраваныя ў іх органы ўлады, грамадзкія організацыі, кадры пролетарыяту наогул, МТС і інш. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на апісаньне такіх гарадоў, як Менск, Гомель, Віцебск, Магілеў, Бабруйск, Барысаў і г. д. Матар'ямі па гэтаму пытаньню, апрача тых, што ёсьць у друкаваным выглядзе і ў мясцовым плянавым органе, павінны зьявіцца даныя мясцовых партыйных, профэсіянальных і інш. організацый, а таксама гутаркі з мясцовымі працаўнікамі раёну.

## 6. Тыпы паселішчаў у раёне і іх рэконструкцыя

Пасьля разгляду матар'ялаў па п. 5 і ў сувязі з ім паўстае пытаньне аб характарыстыцы тыпу паселішчаў раёну наогул і тых зьмен, што адбываюцца ў іх у сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй гаспадаркі раёну. Тут трэба дакладна разглядзець, на падставе

матар'ялаў мясцовых плянавых органаў, фінаддзелу і інш. усе тыпы паселішчаў як вясковых, так мястэчак і гарадоў з пункту погляду тых зьмен, што адбываюцца ў гэтых паселішчах, пачынаючы з іх упарадкаваньня ды рэконструкцыі і канчаючы аналізам тае ролі ў экономіцы раёну, якую гэтыя паселішчы адыгрывалі раней і адыгрываюць цяпер. Асабліва трэба падкрэсьліць, як ліквідуецца ў раёне тып паселішчаў, утвораны прышчэпаўшчынай (хутарызацыя, адрубы, дробныя пасёлкі).

## 7. Сыравінныя і энэргетычныя рэсурсы індустрыялізацыі раёну:

**а) характарыстыка дасьледваньня раёну; б) мінэральная сыравіна раёну; в) характарыстыка тарфяных пакладаў раёну; г) магчымасьць выкарыстаньня воднай і паветранай энэргіі ў раёне; д) характарыстыка лясных рэсурсаў раёну; е) дзікая травяная флёра і фаўна раёну**

У гэтым пункце апісаньня раёну трэба даць, выходзячы з задачы соцыялістычнае рэконструкцыі гаспадаркі раёну, як-мага больш дакладную характарыстыку ўсіх тых прыродных сыравінных і энэргетычных рэсурсаў раёну, што могуць быць выкарыстаны для разьвіцьця ў ім прамысловасьці і здабычы электрычнае энэргіі. Перш за ўсё трэба высьветліць надзвычайна важнае пытаньне аб тым, як разьвівалася справа дасьледванасьці раёну дзяржаўнымі, навуковымі і грамадзкімі організацыямі. Як гэтая справа марнавалася ў дарэволюцыйныя часы, калі даны раён, як частка Беларусі, быў на колёніяльным становішчы ў б. царскай Расіі. Якія зрухі атрымала даная справа ў пасьлярэволюцыйныя часы. Які ўдзел прымае ў справе дасьледваньне сыравінных і энэргетычных рэсурсаў раёну яго пролетарская грамадзкасьць. Як раённыя органы кіруюць данай справай.

Весткі аб мінэральнай сыравіне раёну павінны быць абагулены як на падстазе ўсіх літаратурных даных, так і на падставе даных усяе сеткі раённых краязнаўцаў. Характарыстыка наяўнасьці мінэральнае сыравіны павінна быць зроблена з боку яе разьмяшчэньня (з паказаньнем гэтага разьмяшчэньня ўмоўнымі знакамі на картаграме раёну № 3) колькасьці, якасьці і характару заляганьня.

Тое-ж самае трэба зрабіць адносна тарфяных запасаў у даным раёне, трэба як-мага больш дакладна паказаць дзе, у якой колькасьці і якасьці залягае торф. Разьмяшчэньне тарфяных запасаў раёну трэба хаця-б орыентовачна (калі нельга гэтага зрабіць больш дакладна) адзначыць умоўнымі знакамі на картаграме раёну №4.

Пасьля гэтага трэба абагуліць увесь той матар'ял, што маецца ў краязнаўчых і іншых організацыях і ўстановах адносна дасьледванасьці рэк, вазёр і паветраных сіл раёну, з мэтаю ацэнкі магчымасьці іх выкарыстаньня як энэргетычных рэсурсаў. Найбольш прыдатныя для гэтых мэт мясцовасьці, а таксама пункты рэк і вазёр трэба адзначыць на картаграме раёну № 4, дзе трэба таксама паказаць рэкі і вазёры раёну наогул. Рэкам і вазёрам раёну адначасна трэба даць і поўную характарыстыку з боку іх даўжыні, шырыні, глыбіні, формы, затапляемасьці тэрыторыі і інш.

Характарыстыка лясных рэсурсаў раёну павінна быць дана з боку тае плошчы, якую займае лес ад агульнае тэрыторыі ўсяго раёну і яго частак (гэтыя даныя трэба паказаць умоўнымі знакамі на картаграме № 5), складу лясных парод, добраякаснасьці і запасу драўніны, характарыстыкі лясное гаспадаркі раёну наогул.

Для характарыстыкі дзікае травяное флёры і фаўны (травяных расьлін і жывёлы) раёну дрэба паказаць галоўнейшыя віды расьлін і дзікае жывёлы, што маюцца ў раёне. Пры гэтым трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на тыя віды расьлін і жывёл, якія адыгрываюць пэўную ролю ў гаспадарцы раёну, напрыклад: лекавыя расьліны, жывёла, што мае значэньне ў паляўнічай гаспадарцы, або шкодныя віды расьлін (сарнякі) ды жывёлы (розныя драпежнікі).

Для выкананьня ўсяго гэтага пункту трэба будзе выкарыстаць як усе літаратурныя матар'ялы, што маюцца па гэтаму пытаньню, так і поўнасьцю мясцовыя матар'ялы плянавых органаў раёну, краязнаўчых організацый, органаў па лясной гаспадарцы, аграноміі, паляўнічых саюзаў і інш.

## 8. Становішча і пэрспэктывы электрыфікацыі раёну ў сувязі з выкарыстаньнем мясцовых энэргетычных рэсурсаў

У гэтым пункце трэба даць характарыстыку тым электрычным установкам, што маюцца ў раёне, з боку іх разьмяшчэньня (паказаць на картаграме № 6), магутнасьці, кошту абсталяваньня, лік занятых рабочых, што яны абслугоўваюць і на якім апале працуюць. Разам з гэтым трэба паказаць тыя пэрспэктыўныя намёткі, што маюцца па электрыфікацыі раёну, з характарыстыкай намячаемага імі выкарыстаньня наяўных энэргетычных рэсурсаў у выглядзе торфу, вады і інш.

Калі ў даным раёне не проектуецца пабудова электрастанцыі, дык трэба паказаць, з якіх станцый, у якой форме і ў колькасьці будзе атрымлівацца электраэнэргія для гэтага раёну. Таксама трэба паказаць той раён абслугоўваньня, што вызначаецца для станцыі, якая будуецца ў даным раёне. Прасачыць на мясцовым матар'яле шкодніцтва ў электрыфікацыі раёну.

## 9. Прамысловасьць раёну:

**а) характарыстыка гістарычнага разьвіцьця прамысловасьці ў раёне; б) дакладная характарыстыка існуючае прамысловасьці па групах, галінах і відах (колькасьць прадпрыемстваў, іх разьмяшчэньне, характарыстыка вырабу, занятых рабочых і інш.); в) характарыстыка саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці ў раёне (па тых-жа момантах); г) пэрспэктывы разьвіцьця прамысловасьці раёну ў сувязі з выкарыстаньнем мясцовых сыравінных рэсурсаў; д) клясавая барацьба ў раёне ў сувязі з яго соцыялістычнай індустрыялізацыяй**

Характарыстыка прамысловасьці раёну і пэрспэктывы яе разьвіцьця знаходзяцца ў шчыльнай сувязі з папярэднімі пунктамі. Тут трэба, на падставе матар'ялаў літаратурных, краязнаўчых і мясцовых органаў, даць нарыс гістарычнага ходу разьвіцьцья прамысловасьці ў раёне. Пры гэтым трэба асабліва яскрава падкрэсьліць тыя зрухі, што адбыліся ў разьвіцьці прамысловасьці данага раёну, як часткі БССР, у сувязі з зьменаю соцыяльных умоў з часоў Кастрычнікаўскае рэволюцыі.

Пасьля гэтага належыць даць дакладную характарыстыку існуючае прамысловасьці раёну ў тым парадку, як гэта паказана ў загалоўку пункту № 9, з вызначэньнем адноснае вагі прамысловасьці ва ўсёй гаспадарцы раёну.

Матар'яламі для выкананьня апісаньня раёну па гэтаму пункту павінны зьявіцца як даведнікі аб БССР, так спэцыяльныя выданьні па гэтаму раёну (калі такія ёсьць) і матар'ялы мясцовага плянавага органу ў раёне.

Характарыстыку саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці раёну трэба даць асобна, але ў тым-жа парадку, як і прамысловасьць цэнзавую. Пры гэтым, матар'яламі па гэтаму пытаньню, апрача паказаных крыніц, трэба выкарыстаць даныя фінорганаў раёну і матар'ялы саматужна-прамысловых аб'яднаньняў. У характарыстыцы саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці раёну трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на працэсы яе соцыялістычнае рэконструкцыі праз колектывізацыю, а ў сувязі з гэтым—узбуйненьне прадпрыемстваў, паляпшэньне іх тэхнічнага абсталяваньня і г. д. Разьмяшчэньне прамысловасьці раёну трэба паказаць умоўнымі знакамі на картаграме № 7.

Разам з апісаньнем існуючае прамысловасьці ў раёне трэба дакладна адбіць тыя пэрспэктыўныя пляны, што маюцца ў раёне па разьвіцьцю яго прамысловасьці, неадрыўна зьвязваючы разгляд гэтага пытаньня з выкарыстаньнем энэргетычных і сыравінных рэсурсаў раёну. Па вызначаных для пабудовы ў раёне заводаў трэба паказаць умоўнымі знакамі іх разьмяшчэньне з адпаведным угрунтаваньнем па гэтаму пытаньню.

У гэтым-жа пункце трэба даць зводны аналіз усяму таму матар'ялу, што маецца ў РВК, РК КП(б)Б і іншых арганізацыях па пытаньню аб клясавай барацьбе ў сувязі з разьвіцьцём прамысловасьці ў раёне. Паказаць, на падставе гэтых матар'ялаў, як ажыцьцяўлялася, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе мясцовае арганізацыі, пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва ў гэтай барацьбе за соцыялістычную індустрыялізацыю раёну, як часткі БССР. Паказаць на прыкладах, якую ролю адыгрывалі правыя і „левыя“ опортуністы і прымірэнцы да іх у гэтай клясавай барацьбе ў сувязі з індустрыялізацыяй, як яны фактычна дапамагалі клясавым ворагам.

Асаблівую ўвагу пры апісаньні гэтага пункту трэба зьвярнуць на ажыцьцяўленьне 6 ўмоў тав. Сталіна на прадпрыемствах раёну.

### 10. Сельская гаспадарка раёну:

**а) роля прамысловасьці, як вядучай галіны народнае гаспадаркі; б) роля МТС і савгасаў у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі раёну; в) характарыстыка соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі раёну і яе сучаснага становішча па сэктарох (соцыялістычным, індывідуальным) і галінах (уключаючы дробную жывёлагадоўлю, птушніцкую, рыбную і пчалярскую гаспадаркі); г) спэцыялізацыя і пэрспэктывы разьвіцьця сельскае гаспадаркі раёну; д) клясавая барацьба ў сельскай гаспадарцы ў сувязі з яе соцыялістычнай рэконструкцыяй**

Выкананьне апісаньня раёну па гэтаму пункту програмы знаходзіцца ў непарыўнай сувязі з пунктам аб прамысловасьці, выцякае з яго. Тут трэба паказаць на конкрэтных матар'ялах раёну ажыцьцяўленьне вядучай ролі прамысловасьці ў адносінах да сельскае гаспадаркі як праз непасрэдны ўдзел пролетарыяту ў кіраўніцтве соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, так і праз яе тэхнічнае пераўзбраеньне, выраб угнаеньняў і г. д. Разам з гэтым трэба даць характарыстыку той ролі савгасаў і МТС, якую яны адыгрываюць у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі раёну.

Характарыстыка ходу соцыялістычнае рэконструкцыі і сучаснага становішча сельскае гаспадаркі раёну павінна быць дана як-мага

больш у дакладнай ды падрабязнай форме і ў падзеле на сэктары. Парадак выкананьня гэтае работы магчыма ўявіць у наступнай форме. Даецца характарыстыка агульнае тэрыторыі раёну ў падзеле яе на ўжыткі (лес, пахаць, сенажаць, балота і інш.) у абсолютных і адносных паказчыках. Пажадана даць гэтую характарыстыку ў аспэкце паасобных сельсаветаў раёну.

Далей ідзе характарыстыка падзелу тэрыторыі раёну па сэктарох сельскае гаспадаркі і іх частках (саўгасы, комуны, арцелі). Характарызуецца па сэктарох сельскагаспадарчае насельніцтва раёну. Даецца апісаньне па сэктарох паляводзтва (склад культур, ураджайнасьць), садоўніцтва, гародніцтва, жывёлагадоўлі (коні, каровы, сьвіньні, авечкі, птушкі і інш.); асобна апісваецца пчалярская і рыбная гаспадарка раёну. Дакладна вызначаецца залежнасьць спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі ад адпаведнага разьмяшчэньня прамысловасьці і задачы індустрыялізацыі народнае гаспадаркі наогул (забесьпячэньне непасрэднага абслугоўваньня спажывецкіх патрэб продуктамі, якія хутка псуюцца і нявыгодны для перавозак, стварэньне сыравінных рэсурсаў для прамысловасьці і інш.). Паказаць, як выяўляецца, у сувязі з гэтым, спэцыялізацыя сельскае гаспадаркі данага раёну наогул і тыя варыяцыі, што маюцца на тэрыторыі раёну ў разьмяшчэньні спэцыялізаваных тыпаў сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў. Як у гэтай спэцыялізацыі выкарыстоўваюцца прыродныя прадпасылкі (глеба, клімат і інш.) для адпаведнае найбольш рацыянальнае спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі данага раёну, выходзячы з інтарэсаў усяе народнае гаспадаркі данага раёну, як часткі БССР. Як ажыцьцяўляецца спэцыялізацыя сельскае гаспадаркі ў паасобных сэктарох (індывідуальным, соцыялістычным). Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на характарыстыку работы ў раёне па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў; на апісаньне нацыянальных колгасаў раёну; на характарыстыку праяўленьняў розных формаў клясавае барацьбы, што адбывалася і адбываецца ў сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй сельскае гаспадаркі раёну наогул, у сувязі з організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасаў і інш.

Даць характарыстыку пераможнага руху соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі раёну, што адбываецца пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе мясцовае організацыі. Паказаць на конкрэтных прыкладах раёну тую дапаможную клясавым ворагам ролю, якую адыгрывалі і адыгрываюць розныя опортуністы (асабліва правыя, як галоўная небясьпека на даным этапе) і прымірэнцтвам да іх у клясавай барацьбе ў сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй сельскае гаспадаркі раёну. У якасьці матар'ялу па гэтаму пункту трэба выкарыстаць як увесь літаратурны матар'ял, што тычыцца сельскае гаспадаркі данага раёну (монографіі, артыкулы, даведнікі, справаздачы і інш.), так матар'ялы (пляны, справаздачы) РВК, РК КП(б)Б, матар'ялы раённае аграноміі, справаздачы колгасаў, матар'ялы краязнаўчых організацый і непасрэднае азнаямленьне з паасобнымі саўгасамі і колгасамі раёну.

## 11. Агульная характарыстыка спэцыялізацыі гаспадаркі раёну

Гэты пункт апісаньня раёну зьяўляецца падагульняючым. У яго задачу ўваходзіць: даць сьціслую абагульняючую характарыстыку вытворчага профілю гаспадаркі раёну, яе спэцыялізацыю. Тут трэба выразна высьветліць вядучыя і дапаможныя галіны спэцыялізаванага

твару раёну, акрэсьліць месца гэтых галін у гаспадарцы раёну і паказаць месца ўсяго раёну ў пэўнай спэцыялізаванай частцы БССР. Матар'ялам для выкананьня апісаньня раёну па гэтаму пункту павінны зьявіцца матар'ялы папярэдніх пунктаў.

## 12. Характарыстыка тавараzвароту і гандлю раёну

Апісаньне раёну па гэтаму пункту зьвязана з папярэднім пунктам, вынікае з яго. Тут трэба даць як-мага больш дакладную характарыстыку як сучаснага тавараразвароту і гандлю раёну (сыстэма тавараразвароту, што завозіцца ў раён і што вывозіцца з раёну), так і таму тавараразвароту, што вызначаецца плянам у выніку спэцыялізацыі раёну. Калі няма ў пляне раёну вызначаных лічбаў аб тавараразвароце раёну ў пэрспэктыве, дык трэба даць хаця-б якасную характарыстыку гэтага тавараразвароту, г. зн. паказаць гэты тавараразварот па відах таварнай продукцыі бяз колькасных паказчыкаў.

У якасьці матар'ялу па гэтаму пункту трэба выкарыстаць літаратурныя крыніцы (даведнікі), матар'ялы плянавага органу РВК і матар'ялы тавараправодзячай сеткі раёну (коопэрацыі, дзяржгандлю).

## 13. Шляхі зносін раёну:

**а) характарыстыка гістарычнага разьвіцьця шляхоў зносін у раёне; б) характарыстыка сучаснага становішча шляхоў зносін у раёне па відах; в) характарыстыка пэрспэктыў транспортнага будаўніцтва ў раёне; г) клясавая барацьба ў транспортнай гаспадарцы раёну.**

У задачу гэтага пункту ўваходзіць: даць характарыстыку гістарычнага разьвіцьця шляхоў зносін у раёне, іх сучаснага палажэньня па відах і, на падставе таго ўзаемадзейнічаньня, што вызначаецца ў пэрспэктыве данага раёну з іншымі раёнамі, паказаць пэрспэктывы разьвіцьця транспортнае гаспадаркі па яе відах (чыгуначнае, воднае, шосэйнае і інш.).

Адначасна трэба адбіць на конкрэтным матар'яле тую клясавую барацьбу, што адбывалася і адбываецца ў сувязі з соцыялістычным будаўніцтвам у транспортнай гаспадарцы раёну.

У характарыстыку трэба ўключыць усе віды транспортнае гаспадаркі раёну і апісаць іх з боку колькасьці (даўжыня), якаснага становішча, гушчыні сеткі і адпаведнасьці яе кірункаў запатрабаваньням соцыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі раёнаў, міжраённым сувязям па тавараразвароту і інш.

Матар'ялы па гэтаму пытаньню можна атрымаць часткова ў літаратурных крыніцах (даведнікі), а таксама ў плянавых органах раёну, краязнаўчых арганізацыйных і спэцыяльных установах, якія кіруюць плянавым будаўніцтвам, калі такія ёсьць на тэрыторыі данага раёну.

## 14. Заключэньне

У гэты пункт уваходзяць усе падагульняючыя меркаваньні, што могуць узьнікнуць пры апісаньні пэўнага раёну, а таксама вызначэньне шляхоў разгортваньня дасьледчае работы краязнаўчае сеткі раёнаў.

## Географічнае палажэньне раёнаў БССР.

| № п. ч. | Назва раёну | Шырыня | Даўжыня ад Грынвіча |
|---|---|---|---|
| 1 | Асьвейскі | 55°51′—56°11′ | 27°48′—28°32′ |
| 2 | Бешанковіцкі | 54°52′—55°16′ | 29°03′—30°04′ |
| 3 | Бялыніцкі | 53°41′—54°13′ | 29°21′—30°00′ |
| 4 | Вушацкі | 54°55′—55°21′ | 28°20′—29°08′ |
| 5 | Горацкі | 54°02′—54°29′ | 30°34′—31°21′ |
| 6 | Гарадоцкі | 55°19′—55°54′ | 29°32′—30°40′ |
| 7 | Дрысенскі | 55°33′—56°00′ | 27°36′—28°34′ |
| 8 | Дубровенскі | 54°24′—54°49′ | 30°33′—31°12′ |
| 9 | Крупскі | 54°01′—54°39′ | 28°46′—29°30′ |
| 10 | Лепельскі | 54°35′—55°08′ | 28°22′—29°05′ |
| 11 | Лёзьненскі | 54°46′—55°17′ | 30°14′—31°00′ |
| 12 | Мсьціслаўскі | 53°49′—54°14′ | 31°08′—31°52′ |
| 13 | Полацкі | 55°13′—55°49′ | 28°16′—29°35′ |
| 14 | Расонскі | 55°42′—56°07′ | 28°19′—29°28′ |
| 15 | Сеньненскі | 54°38′—55°02′ | 29°25′—30°15′ |
| 16 | Сіроцінскі | 55°08′—55°36′ | 29°01′—29°58′ |
| 17 | Сураскі | 55°10′—55°43′ | 30°17′—30°58′ |
| 18 | Талачынскі | 54°10′—54°40′ | 29°23′—30°12′ |
| 19 | Чашніцкі | 54°35′—55°00′ | 28°57′—30°34′ |
| 20 | Чавускі | 53°37′—54°05′ | 30°35′—31°18′ |
| 21 | Шклоўскі | 54°01′—54°23′ | 29°49′—30°44′ |
| 22 | Асіпавіцкі | 53°08′—53°38′ | 28°26′—29°06′ |
| 23 | Барысаўскі | 53°57′—54°40′ | 28°08′—29°00′ |
| 24 | Бягомльскі | 54°27′—55°00′ | 27°42′—28°26′ |
| 25 | Быхаўскі | 53°11′—53°44′ | 29°42′—30°41′ |
| 26 | Буда-Кашалёўскі | 52°37′—52°55′ | 30°08′—30°46′ |
| 27 | Бярэзінскі | 53°32′—54°06′ | 28°40′—29°27′ |
| 28 | Веткаўскі | 52°24′—52°57′ | 30°54′—31°40′ |
| 29 | Вузьдзенскі | 53°18′—53°35′ | 26°52′—27°41′ |
| 30 | Жлобінскі | 52°34′—53°01′ | 29°38′—30°21′ |
| 31 | Заслаўскі | 53°51′—54°15′ | 27°02′—27°36′ |

| №<br>п. ч. | Назва раёну | Шырыня | Даўжыня<br>ад Грынвіча |
|---|---|---|---|
| 32 | Кармянскі . . . . . . | 52°58′—53°18′ | 30°28′—31°07′ |
| 33 | Касьцюковіцкі . . . . . | 53°04′—53°31′ | 31°42′—32°43′ |
| 34 | Клімавіцкі . . . . . . | 53°25′—53°47′ | 31°36′—32°32′ |
| 35 | Клічаўскі . . . . . . | 53°15′—53°43′ | 28°57′—29°50′ |
| 36 | Койданаўскі . . . . . . | 53°31′—53°55′ | 26°53′—27°42′ |
| 37 | Копыльскі . . . . . . | 52°58′—53°22′ | 26°53′—27°30′ |
| 38 | Крычаўскі . . . . . . | 53°37′—53°52′ | 31°18′—31°56′ |
| 39 | Лагойскі . . . . . . | 54°03′—54°23′ | 27°24′—28°16′ |
| 40 | Плешчаніцкі . . . . . . | 54°18′—54°40′ | 27°28′—28°15′ |
| 41 | Прапойскі . . . . . . | 53°16′—53°41′ | 30°39′—31°13′ |
| 42 | Пухавіцкі . . . . . . | 53°14′—53°47′ | 27°32′—28°35′ |
| 43 | Рагачэўскі . . . . . . | 52°51′—53°19′ | 29°38′—30°44′ |
| 44 | Слуцкі . . . . . . | 52°52′—53°21′ | 27°05′—28°02′ |
| 45 | Смалявіцкі . . . . . . | 53°46′—54°14′ | 27°46′—28°35′ |
| 46 | Стара-Дароскі . . . . . | 52°47′—53°18′ | 27°48′—28°35′ |
| 47 | Уваравіцкі . . . . . . | 52°21′—52°44′ | 30°15′—30°56′ |
| 48 | Церахоўскі . . . . . . | 52°03′—52°26′ | 30°55′—31°48′ |
| 49 | Чачэрскі . . . . . . | 52°42′—53°08′ | 30°39′—31°24′ |
| 50 | Чырвона-Слабодзкі . . . . | 52°43′—53°00′ | 26°52′—27°24′ |
| 51 | Чырвонапольскі . . . . | 53°06′—53°25′ | 31°03′—31°43′ |
| 52 | Чэрвеньскі . . . . . . | 53°34′—53°58′ | 28°04′—28°50′ |
| 53 | Чэрыкаўскі . . . . . . | 53°25′—53°49′ | 31°06′—31°42′ |
| 54 | Брагінскі . . . . . . | 51°38′—52°00′ | 30°00′—30°35′ |
| 55 | Глускі . . . . . . | 52°31′—53°09′ | 28°12′—29°06′ |
| 56 | Ельскі . . . . . . | 51°25′—52°03′ | 28°36′—29°21′ |
| 57 | Жыткавіцкі . . . . . . | 52°04′—52°28′ | 27°30′—28°17′ |
| 58 | Камарынскі . . . . . . | 51°16′—51°39′ | 29°54′—30°39′ |
| 59 | Лельчыцкі . . . . . . | 51°29′—52°02′ | 27°42′—28°47′ |
| 60 | Лоеўскі . . . . . . | 51°42′—52°13′ | 30°12′—30°57′ |
| 61 | Любаньскі . . . . . . | 52°32′—52°53′ | 27°43′—28°25′ |
| 62 | Мазырскі . . . . . . | 51°53′—52°34′ | 28°50′—29°42′ |
| 63 | Нараўлянскі . . . . . . | 51°23′—52°01′ | 29°10′—29°56′ |

| № п. ч. | Назва раёну | Шырыня | Даўжыня ад Грынвіча |
|---|---|---|---|
| 64 | Парыцкі . . . . . . . | 52°27′—52°58′ | 28°51′—29°52′ |
| 65 | Петрыкаўскі . . . . . . | 51°56′—52°33′ | 28°04′—29°00′ |
| 66 | Рэчыцкі . . . . . . . | 52°04′—52°37′ | 29°35′—30°42′ |
| 67 | Старобінскі . . . . . . | 52°24′—52°55′ | 27°12′—28°12′ |
| 68 | Тураўскі . . . . . . . | 51°36′—52°10′ | 27°29′—28°12′ |
| 69 | Хойніцкі . . . . . . . | 51°33′—52°13′ | 29°31′—30°16′ |
| 70 | Аршанскі . . . . . . . | 54°17′—54°56′ | 29°55′—30°52′ |
| 71 | Бабруйскі . . . . . . . | 52°54′—53°25′ | 28°42′—29°46′ |
| 72 | Віцебскі . . . . . . . | 54°56′—55°24′ | 29°28′—30°32′ |
| 73 | Гомельскі . . . . . . . | 52°10′—52°34′ | 30°36′—31°23′ |
| 74 | Магілеўскі . . . . . . . | 53°39′—54°04′ | 29°46′—30°40′ |
| 75 | Менскі . . . . . . . | 53°41′—54°06′ | 27°16′—27°58′ |

## Сьпіс важнейшых літаратурных матар'ялаў аб БССР


1. Статыстычныя даведнікі па БССР за г.г. 1923-24, 1924-1925, 1925-26 і 1927 г.
2. Белорусская ССР в цифрах к 10-тилетию существования БССР, 1919-1929 г.г.
3. БССР экономіка-статыстычны даведнік. Выд. Дзяржпляну БССР, Менск, 1931 г.
4. Бальшавік Беларусі, орган ЦК КП(б)Б, Менск.
5. Савецкая Краіна. Орг. ЦБК БССР. Выд. БАН, Менск.
6. Соцыялістычнае будаўніцтва. Орг. Дзяржпляну БССР, Менск.
7. Проф. А. В. Федюшин. Динамика и географическое распространение охотничьей фауны в БССР. Минск, 1929 г.
8. О. Полянская. Склад флёры Беларусі. Менск, 1931 г.
9. В. Міхайлоўская. Поплавы і сенажаці. Менск, 1931 г.
10. К. Хабэнка. Садоўніцтва і гародніцтва ў БССР. Менск, 1930 г.
11. Проф. Р. М. Афанасьеў. Нарысы глеб на Беларусі 1926.
12. Яго-ж. Глебавыя раёны БССР. Выд. БАН, 1932 г. (друкуецца).
13. Проф. Н. Т. Бліодухо. Рэгістрацыйны сьпіс карысных выкапняў БССР. Выд. БАН. Менск, 1931 г.
14. А. М. Жырмунскі. Геологический очерк БССР и Западной обл. РСФСР. Изд. Г.Г.Р.У. Москва, 1930 г. Ленинград.
15. Проф. А. І. Кайгарадаў. Клімат БССР. БДВ. 1932 г. (друкуецца).
16. Промышленность БССР. Изд. ВСНХ, БССР. 1928.

# Літаратура да трэцяе вясновае бальшавіцкае сяўбы

1. Н. Крупская. Што гаварыў Ленін пра колгасы і пра дробную гаспадарку. Пераклад з расійскае мовы А. Ламака. Менск. Бел. Дзярж. Выд. 1930 г., стар. 49.

2. А. И. Муралов и Н. В. Лисицин. За организационно-хозяйственное укрепление колхозов (речи на II сессии ВЦИК XV созыва). М. ГИЗ 1932 г., стар. 30, ц. 15. к.

3. П. Дударь. Учет труда в колхозах. М-Л Сельколхозгиз, 1932 г., стар. 46, ц. 25 к.

4. Удалов А. П. Как должны работать производственные совещения в колхозах 2-ое перараб. изд. М. Сельколхозгиз 1931 г., стар. 40, ц. 20 к.

5. Ф. Галевиус. План весенней посевной компании 1932 г. Сельхозгиз 1932 г., стар. 45, ц. 30 к.

6. Ерофеев Н. В. Третий большевистский сев. М. Сельколхоз, 1932 г., стар. 32, ц. 20 к.

Перад трэцяй бальшавіцкай сяўбой партыяй і савецкай уладай ставяцца вялізарнай важнасьці палітычна-гаспадарчыя задачы. Вясновая сяўба гэтага году набывае асаблівае значэньне яшчэ і таму, што яна праводзіцца ва ўмовах чацьвертага заключнага году пяцігодкі. Гіганцкія посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва за тры гады першай пяцігодкі асабліва ярка выяўляюцца ў тым, што ленінскае пытаньне „хто—каго“ канчаткова вырашана на карысьць соцыялізму і ў горадзе і ў вёсцы. Колектывізацыя сельскай гаспадаркі на базе значнага ўкараненьня высокай машыннай тэхнікі стала магчымай у выніку пасьпяховага і пасьлядоўнага правядзеньня генэральнай лініі партыі па індустрыялізацыі СССР, на ўздым у першую чаргу цяжкой індустрыі і ў прыватнасьці сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва (будаўніцтва новых заводаў сель.-гасп. машынабудаўніцтва, трактарных заводаў—комбайнаў). Савецкая дзяржава з году ў год укладае ўсё больш і больш матар'яльных сродкаў у справу далейшага разьвіцьця сельскае гаспадаркі на аснове яе соцыялістычнае перабудовы. Капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку ў 1931 г. склалі 3.600 млн р., а ў 1932 г. савецкай дзяржавай укладаецца 4.360 млн; сельгасмашын у 1931 г. было дана вёсцы на суму 450 млн р., а ў 1932 г. на 900 млн р. Колкасьць МТС па СССР да канца 1931 г. складала 1.400, а ў бягучым годзе сельская гаспадарка атрымае ад савецкай дзяржавы 1.700 новых МТС (71 тыс. трактараў), з агульнай магутнасьцю звыш 1 млн конскіх сіл. Сельская гаспадарка ў 1931 годзе

атрымае 11 тыс. аўтамашын. Вясной бягучага году будзе завезена на палі 1.000.000 тон мінэральных угнаеньняў, супроць 953 тыс. тон за ўвесь мінулы год. Апрача таго дзяржава штогод выпускае вялікія сумы на крэдытаваньне сельскай гаспадаркі.

Зразумела, што гэтыя вялізарнейшыя выдаткі на ўздым тэхнікі сельскае гаспадаркі павінны быць апраўданы бальшавіцкім правядзеньнем вясновай сяўбы, поўным выкананьнем намечаных плянаў, мобілізацыі навакол пытаньня правядзеньня трэцяй бальшавіцкай вясновай пасеўнай кампаніі ўсёй савецкай грамадзкасьці.

Вышэй пералічаныя шэсьць брошур, прысьвечаных пытаньням трэцяе бальшавіцкае сяўбы, далёка ня вычэрпваюць усёй наяўнай па гэтаму пытаньню літаратуры. Яны зьвяртаюць на сябе ўвагу з таго боку, што сваім зьместам даюць адказ на найбольш важныя і актуальныя пытаньні вясновае сяўбы, мобілізуюць нашу савецкую грамадзкасьць на пасьпяховае яе правядзеньне, даюць кіраўнічы матар'ял і парады для практычнага ажыцьцяўленьня пляну пасеўкампаніі.

Падамо кароткі агляд кожнай брошуры паасобна.

Кніга Н. Крупскай, праўда, ня мае непасрэдных адносін да правадзімай пасеўкампаніі гэтага году, але яна прадстаўляе інтарэс у тым сэнсе, што аўтар яе ў вельмі папулярнай форме падае рад выказваньняў Леніна, а часткова і Маркса аб перавагах буйной сельскай гаспадаркі над дробнай, аб сутнасьці колектыўнай сельскай гаспадаркі. Аўтарам вельмі ўмела ўвязана справа колгаснага будаўніцтва з распадам капіталістычнай грамады, з асноўнымі этапамі барацьбы пролетарыяту і працоўнага сялянства за сваё вызваленьне ад капіталістычнай эксплёатацыі, з пролетарскай рэволюцыяй, якая накіравала экономічнае разьвіцьцё вёскі па соцыялістычнаму шляху. Названая кніжка зьяўляецца надзвычай карыснай для кожнага, хто так ці інакш прымае непасрэдны ўдзел у вялікім процэсе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, хто сваёй практычнай дзейнасьцю ўкараняе ў працоўныя масы зерні марксысцка-ленінскага вучэньня аб грамадзкім разьвіцьці.

Другая брошура зьмяшчае ў себе прамовы т.т. Муралава і Лісіцына на II сэсіі Ўсерасійскага ЦВК XV склікaньня. Т. Муралаў закранае тыя моманты соцбудаўніцтва РСФСР, якія паказваюць, як выконваюцца пастановы партыі і ўраду ў галінеператварэньня спажываючай паласы ў вытвараючую, у галіне вытворчай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі ў сувязі з проблемай Урала-Кузьнецкага басэйну. Ён гаворыць і аб тых мерапрыемствах, якія запроектаваны на 1932 г. у паўднёва-ўсходняй, пераважна збожжавай частцы рэспублікі, дзе часта бываюць сухмені, падае весткі аб шляхох рэконструкцыі сельскае гаспадаркі Крыму, Дагестану, Казакстану, Кіргізіі і інш. былых экономічна адсталых царскіх колёній. Даволі падрабязна ён гаворыць і аб тым, як практычна трэба праламляць 6 умоў т. Сталіна ў мэтах узьняцьця продукцыйнасьці работы колгасаў і савгасаў. Т. Лісіцын затрымліваецца, галоўным чынам, на пляне вясновае сяўбы ў галіне разьвіцьця паасобных культур.

Трэцяя брошура „Учет труда в колхозах" апрача тэорытычных пытаньняў, зьвязаных з улікам працы ў колгасах, падае рад практычных указаньняў, прыводзіць узоры кніг і інш. докумэнтаў падліку працы паасобных колгасьнікаў, а таксама і брыгад. Як вядома, справа ўчоту ў значнай колькасьці колгасаў да гэтага часу стаіць вельмі дрэнна. Таму вельмі слушна аўтар праводзіць думку аб тым, што

гарадзкія прадпрыемствы і ўстановы шмат у чым могуць дапамагчы сваім падшэфным колгасам і ў гэтай галіне.

Наступная брошура „Как должны работать производственные совещания в колхозах“ прысьвечана пытаньню арганізацыі і работы вытворчых нарад у колгасах. Даволі падрабязна высьвятляецца тое, для чаго патрэбна арганізоўваць вытворчыя нарады і чым менавіта яны павінны займацца. Як вядома, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, гэтую цэнтральную палітычную задачу 3-й бальшавіцкай вясны, нельга дасканала правесьці бяз самага актыўнага ўдзелу мільённых мас колгасьнікаў і колгасьніц. Зразумела, што практычнае ажыцьцяўленьне гэтага важнейшага мерапрыемства партыі патрабуе пэўных арганізацыйных формаў, якія спрыялі-б рацыянальнаму скарыстаньню актыўнасьці самых шырокіх пластоў колгасьнікаў. Вось гэтай формай і зьяўляюцца вытворчыя нарады ў колгасах. У кніжцы аддана належная ўвага пытаньням арганізацыі працы. На яскравых прыкладах паасобных колгасаў паказана, як групы колгасьнікаў складалі і выпрацоўвалі свае пляны і затым абгаварвалі іх на вытворчых нарадах. У выніку абгаварэньня складзеных групамі колгасьнікаў рабочых плянаў атрымліваўся цэльны конкрэтны вытворчы плян усяго колгасу. Процэс складаньня вытворчых плянаў абавязкова прадугледжвае правільную росстаноўку сіл, барацьбу за падвышэньне якасьці працы, неабходнасьць ліквідацыі абязьлічкі, дасканалы ўлік працы, высоўваньне новых мэтодаў працы, соцспаборніцтва, ударніцтва і г. д. У брошуры даецца прыкладны ўзор арганізацыі і правядзеньня вытворчай нарады.

Дзьве апошнія брошуры таксама разглядаюць пытаньне правядзеньня веснавое сяўбы. Першая з іх, Галёвіуса, прыводзіць плян пасеўнай кампаніі на 1932 год па СССР. Фактычна тое-ж самае мы знаходзім і ў другой брошуры. Абедзьве брошуры падаюць даволі падрабязныя лічбовыя даныя аб намётках па пашырэньню пасеўнага кліну розных тэхнічных культур, што выцякае з агульных установак народна-гаспадарчага пляну на спэцыялізацыю асобных сельска-гаспадарчых раёнаў, якія становяцца дастаўнікамі сыравінных рэсурсаў адпаведных галін нашай соцыялістычнай прамысловасьці. Аўтары зусім слушна спыняюцца і на некаторых практычных парадах агразотэхнічнага зьместу, а таксама і на спосабах арганізаванага правядзеньня самое сяўбы. Кожны колгасьнік-актывіст многа карыснага для сябе можа знайсьці ў гэтых кніжках.

Трэцяя бальшавіцкая сяўба ўскладае адпаведныя задачы і на краязнаўчыя арганізацыі на мясцох. Гэтыя арганізацыі, як і ўсе іншыя грамадзкія арганізацыі, сваю штодзенную работу падпарадкоўваюць задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Маючы об'ектам свайго вывучэньня самыя разнастайныя галіны гаспадаркі і культуры, а на вёсцы ў першую чаргу колгасны рух, краязнаўчыя арганізацыі змогуць, на падставе дасьледваных матар'ялаў аб тым ці іншым колгасе, актыўна ўключыцца ў адказьнейшую справу яго гаспадарча-арганізацыйнага ўмацаваньня, на аснове ажыцьцяўленьня 6 сталінскіх умоў.

---

*М. Калмык „На штурм трэцяй бальшавіцкай сяўбы“* ДВБ. Партмассэктар. М. 1932 г., стар. 60. Ц. 35 кап.

*„Контрактацыя зярновых, бабовых і алеістых культур і сена* 1932 г.“ ДВБ. М. 1932 г., стар. 14. Ц. 12 кап.

*„Пратручвайце насеньне супроць галаўні (сажы)“.* Лістоўка Беларускага аддзяленьня АБШ., стар. 4. Ц. 4 кап.

Правядзеньне вясновай сельска-гаспадарчай кампаніі гэтага году, як ужо ня раз падкрэсьлівалася на старонках нашага часопісу, набывае выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне і зьяўляецца састаўной часткай выкананьня ўсёй програмы заключнага году пяцігодкі. Выходзячы з важнасьці кампаніі, XIV зьезд КП(б)Б у сваёй пастанове па дакладу ЦК абавязаў парторганізацыі „забясьпечыць сапраўды бальшавіцкія тэмпы падрыхтоўкі і правядзеньня вясновай пасеўнай кампаніі, правёўшы яе як важнейшую гаспадарча-палітычную кампанію, на падставе сапраўднай мобілізацыі шырокіх колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вакол выкананьня і перавыкананьня колькасных і якасных паказальнікаў“.

Тыя конкрэтныя мерапрыемствы, якія партыя і ўрад высоўваюць перад усёй нашай савецкай грамадзкасьцю ў мэтах ажыцьцяўленьня гаспадарча-палітычных задач трэцяй вясновай бальшавіцкай сяўбы, атрымалі сваё адлюстраваньне і распрацоўку ў даволі шматлікай масавай літаратуры, у тым ліку і ў спэцыяльных выданьнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Кніжка М. Калмыка „На штурм трэцяй бальшавіцкай вясны“ імкнецца ахапіць увесь комплекс пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем бальшавіцкае сяўбы. Сьцісласьць і яснасьць выкладаньня думак, якія кожны раз падмацоўваюцца адпаведнымі пастановамі партыі і ўраду, нераскіданасьць пытаньняў трэба, зразумела, аднесьці да станоўчых бакоў працы аўтара. Хаця і з другога боку аўтар, паставіўшы перад сабой задачу ўсебаковага асьвятленьня пытаньняў пасеўкампаніі, ня ўнікнуў пэўнага схематызму і павярхоўнасьці. Дзякуючы гэтаму, некаторыя вельмі важныя ў нашых умовах практычныя пытаньні ледзьледзь закрануты і мала распрацаваны. Зробім толькі некаторыя заўвагі. У разьдзеле „Зноў перад экзаменам“ аўтар прыводзіць лічбовыя даныя, якія характарызуюць баявыя заданьні програмы вясновай сяўбы для БССР: яравы клін увесну 1932 г. павінен быць пашыраны да 2 млн 850 тыс. га супроць 2 млн 672 тыс. га ў 1931 г., пасеў тэхнічных культур (лён, каноплі) да 370 тыс. га супроць 272 тыс. га ў мінулым годзе і збожжавых культур мы сёлета павінны засеяць 1 млн 160 тыс. га, бульбы 700 тыс. га, кармовых траў 380 тыс. га і караньплодаў 55 тыс. га. Апрача гэтага пад гароды трэба засеяць 70 тыс. га, пад ягаднікі 5.000 га і залажыць новых садоў на плошчы 19 тыс. га.

Гэтыя лічбы, характарызуючыя ўсю вялізарнасьць програмы вясновай сяўбы, не атрымалі ў кніжцы т. Калмыка распрацоўкі ў кірунку высьвятленьня важнай проблемы, якая ў сучасны момант ужо пастаўлена на практычныя рэйкі—гэта менавіта спэцыялізацыя сельска-гаспадарчых раёнаў. Плянава організаваная сяўба прадугледжвае ня толькі ўзьняцьце тэхнікі соцыялістычнага земляробства, павышэньне ўраджайнасьці, але і такую перабудову на соцыялістычнай аснове ўсяе сельскае гаспадаркі, якая мае на ўвазе практычнае ажыцьцяўленьне спэцыялізацыі адпаведных с.-г. раёнаў Беларусі. Гэтае пытаньне яшчэ недастаткова пропагандуецца ў масах. Яго ажыцьцяўленьне на практыцы нярэдка сустракае з боку адсталых пластоў працоўнага сялянства,

нават і колгасьнікаў, якія прывыклі па дзедаўскім звычаям „сеяць усяго пакрысе“, рад непаразуменьняў пры складаньні пасеўных плянаў у колгасных і паасобных гаспадарках. Наша-ж масавая літаратура чамусьці гэтае пытаньне часьцей за ўсё абыходзіць моўчкі, а працоўныя масы ў вёсцы вельмі часта так і ня ведаюць, чаму розным раёнам прапануюцца розныя плошчы пад засеў тымі ці іншымі с.-г. культурамі.

Вельмі схематычна, без падачы хаця-б адзінага конкрэтнага прыкладу, даецца разьдзел пад назвай „Больш увагі нацколгасам“. Гэта даволі значны недагляд з боку аўтара. Ва ўмовах БССР, як многанацыянальнай рэспублікі, ленінскае правядзеньне нацыянальнай політыкі набывае выключнае політычнае і гаспадарчае значэньне. Станоўчыя вынікі гэтай політыкі адлюстроўваюцца ва ўсіх галінах соцыялістычнае гаспадаркі і культуры. Наша масавая літаратура пытаньням будаўніцтва нацыянальных і інтэрнацыянальных колгасаў павінна адводзіць значна больш увагі, чым гэта мы маем цяпер.

Зусім абышоў т. Калмык пытаньні контрактацыі, якая вельмі цесна зьвязана з правядзеньнем пасеўнай кампаніі.

Недастаткова ўвагі аўтар адводзіць і рабоце ў часе вясновай сяўбы сярод аднаасобнага сэктару. Гэтаму пытаньню аўтар у розных разьдзелах кніжкі прысьвячае толькі па некалькі радкоў. Недаацэнка ролі індывідуальнага сэктару сельскае гаспадаркі ў вясновай сяўбе азначае па сутнасьці, што ставіцца пад пагрозу выкананьне ўсёй програмы вясновай сяўбы. Неабходна ўясьніць усю важнасьць масавай політычнай работы сярод аднаасобных бядняцка-серадняцкіх мас і ўстанавіць конкрэтнае опэрацыйнае кіраўніцтва сяўбой у аднаасобным сэктары і ў масавай літаратуры адвесьці гэтаму моманту адпаведнае месца.

Брошура „Контрактацыя зярнёвых, бабовых і алеістых культур і сена 1932 г.“ зьмяшчае зацьверджаныя СНК БССР інструкцыі аб правядзеньні контрактацыі.

Апошняя лістоўка „Пратручвайце насеньне супроць галаўні“ падае рад тэхнічных указаньняў па пратручваньні насеньня. Лістоўка распрацавана Беларускім аддзяленьнем па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі ў сельскай гаспадарцы.

Вісбар.

# ОФІЦЫІНЫ АДДЗЕЛ

## Усім культпропам РК і ГК КП(б)Б

Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе зараз-жа організаваць праверку выкананьня дырэктыў ЦК КП(б)Б аб разгортваньні краязнаўчага руху ў вашым раёнё. У праверцы дабіцца поўнага ажыцьцяўленьня дырэктыў ЦК, утварэньня краязнаўчых бюро, разгортваньня краязнаўчай сеткі на фабрыках, заводах, савгасах, колгасах, мобілізацыі краязнаўчых організацый па вывучэньню прыродных багацьцяў раёну, удзелу ў складаньні другой пяцігодкі, удзелу ў вывучэньні экономікі і культуры раёну, складаньні монографіі і гісторыі заводаў, гісторыі грамадзянскай вайны і выкананьня плянавых заданьняў ЦБК.

Вынікі праверкі даслаць ЦК не пазьней 1/VI-1932 г.

Нам. Заг. Культпропу ЦК КП(б)Б
З а л а т у х і н.

## Пастанова сакратарыяту Менскага гарадзкога камітэту КП(б)Б ад 10 сакавіка 1932 г. аб організацыі гарадзкога бюро краязнаўства

Надаючы вялізарнае значэньне рабоце краязнаўчай організацыі ў справе ўцягненьня рабочых і колгасных мас у навукова-дасьледчую работу, скарыстаньня практыкі навукова-дасьледчай работы для паскарэньня соцыялістычнага будаўніцтва, сакратарыят Менгаркому КП(б)Б пастанаўляе: 1) даручыць тав. Маслакову (Гор. Ана) організацыйна аформіць гарадзкое бюро краязнаўства, узмацніўшы яго адпаведнымі работнікамі. 2) Лічыць неабходным устанавіць для гарадзкога бюро краязнаўства адну платную адзінку. Фракцыі Гарсавету забясьпечыць утрыманьне працаўніка сродкамі. 3) Прапанаваць колектывам і ячэйкам КП(б)Б разгарнуць работу па організацыі краязнаўчых ячэек на сваіх прадпрыемствах. 4) Гаркому ЛКСМБ даць паказаньне комсамольскім ячэйкам аб іх удзеле ў краязнаўчай рабоце.

## Усім райпрофсаветам

Па лініі Масавага сэктару і Цэнтральнага бюро краязнаўства Беларускай Акадэміі Навук распрацаваны і дасланы ўсім раёнам конкрэтныя тэмы-заданьні па складаньню монографічных апісаньняў фабрык, заводаў, колгасаў, савгасаў і МТС і па вывучэньню і дасьледваньню актуальных тэм соцыялістычнага будаўніцтва сіламі краязнаўчых організацый і брыгад актыву рабочых, колгасьнікаў, комсамолу, профсаюзаў, настаўніцтва, студэнцтва і вучняў.

Надаючы вялікае значэньне выкананьню гэтых заданьняў і наогул краязнаўчаму руху, як форме мобілізацыі і організацыі шырокіх працоўных мас на навукова-дасьледчую работу для вывучэньня актуальных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва ў мэтах паскораньня тэмпаў гэтага будаўніцтва, Культсэктар ЦСПСБ прапануе:

1. Неадкладна організаваць шырокую праверку выкананьня пастановы ЦСПСБ ад 30/XII-1930 г. па пытаньню садзейнічаньня профсаюзаў краязнаўчым організацыям, дабіваючыся поўнай яе рэалізацыі з боку кожнага РПС, РК і МК, прыцягваючы да адказнасьці за ігнараваньне і зрыў выкананьня гэтай дырэктывы.

2. На паседжаньні прэзыдыуму РПС паставіць даклад раённага бюро краязнаўства аб яго рабоце і даць конкрэтныя паказаньні, забясьпечваючыя сыстэматычную плянавую работу па рэалізацыі паказаных вышэй плянаў.

3. Вылучыць сталага прадстаўніка ад райпрофсавету ў раённае бюро краязнаўства, усклаўшы на апошняга пэрсанальную адказнасьць за ўдзел у рабоце бюро, а таксама організаваць спэцыяльныя брыгады з профсаюзнага актыву для ўдзелу ў выкананьні пляну навукова-дасьледчай работы.

4. Даць паказаньне профорганізацыям аб актыўным удзеле ў краязнаўчай рабоце.

5. Разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва на сваечасовае і лепшае правядзеньне гэтай работы.

6. Папулярызаваць разгортваньне і ход работы на сходах, нарадах, конфэрэнцыях, пленумах у мясцовым і цэнтральным друку.

7. Аказаць дапамогу ў рэдагаваньні матар'ялаў і сваечасовай дасылцы іх у Масавы сэктар БАН для надрукаваньня.

Не пазьней 1 мая г. г. даслаць у Культсэктр ЦСПСБ падрабязныя весткі аб стане краязнаўчай работы ў раёне і практычным удзеле ў гэтай рабоце профсаюзных арганізацый.

Заг. Культсэктру ЦСПСБ **Клімковіч**.

## Усім загадчыкам раённых і гарадзкіх аддзелаў нарасьветы

У абежніку Наркамасьветы БССР ад 25-га жніўня 1931 г. па лініі народнае асьветы даны яскравыя і конкрэтныя паказаньні аб актыўным удзеле органаў народнае асьветы ў справе разгортваньня і ўзмацненьня савецкага краязнаўчага руху. Не зважаючы на гэта, у пераважнай большасьці раёнаў да гэтага часу амаль нічога ня зроблена ў адносінах разгортваньня краязнаўчага руху і організацыі краязнаўчых ячэек пры школах і культасьветных установах.

Падкрэсьліваючы яшчэ раз вялікае значэньне краязнаўчае працы як формы ўцягненьня працоўных мас у навукова-дасьледчую працу, узмацненьня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і як магутнага сродку палітэхнічнага выхаваньня працоўных мас, Народны Камісарыят Асьветы БССР катэгорычна прапануе:

1) Організаваць праверку практычнай рэалізацыі абежніку НКА ад 25/VIII-1931 г. у школах і політасьветных установах раёну, рашуча дабіваючыся ажыцьцяўленьня паказаных у абежніку мерапрыемстваў.

2) Аказаць належную дапамогу існуючым раённым краязнаўчым бюро і краязнаўчым ячэйкам у справе наладжваньня сыстэматычна плянавай і масавай навукова-дасьледчай краязнаўчай працы па вывучэньню прыродна-вытворчых сіл свайго раёну, прадпрыемства, колгасу, савгасу, МТС і г. д.

Сіламі непасрэдных удзельнікаў гэтага будаўніцтва: рабочых, колгасьнікаў, студэнтства, вучняў і ўсяе пролетарскай грамадзкасьці, а ў раёнах, дзе да гэтага часу організацыйна не аформлены раённыя краязнаўчыя бюро, зараз-жа прыступіць да іх організацыі і афармленьня.

3) Абавязаць усіх загадчыкаў ФЗС, ШКМ і дамоў культуры на працягу дэкады організаваць краязнаўчыя ячэйкі і распачаць сыстэматычную працу апошніх.

4) Праверыць працу існуючых краязнаўчых музэяў, аказваючы ім належную ўсебаковую дапамогу, накіроўваючы іх працу на непасрэднае абслугоўваньне чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва ў адпаведнасьці з пастановамі партыі, ураду і Ўсебеларускай нарады музэйных працаўнікоў ад 29/II-1932 г.

5) Тэрмінова вырашыць пытаньне аб організацыі раённых краязнаўчых музэяў і краязнаўчых куткоў на прадпрыемствах у колгасах, савгасах, школах, дамох культуры і МТС.

6) Мобілізаваць увагу ўсіх краязнаўчых організацый на максымальны ўдзел у вырашэньні задач 3-яй бальшавіцкай вясны, выкананьня плянаў 4-га заключнага году пяцігодкі, у складаньні плянаў другой пяцігодкі і на безадкладнае вывучэньне прыродных багацьцяў і мінэральнай сыравіны для прамысловасьці БССР.

7) Не пазьней 10-га мая г. г. прадставіць у НКА самыя падрабязныя весткі аб стане краязнаўчай працы ў раёнах і працы краязнаўчых музэяў, а таксама аб практычным удзеле ў гэтай справе органаў народнае асьветы.

Народны камісар асьветы П л а т у н.

Загадчык сэктару навукі Р а к-М і х а й л о ў с к і.

## Краязнаўцы—у паход за сыравінай для ўстаноў прамысловасьці

XVII конфэранцыя ЎсеКП(б) дала дырэктывы да складаньня пляну другой пяцігодкі пабудовы соцыялізму. Вялізарнейшыя разьмеры соцыялістычнага будаўніцтва ў другой пяцігодцы патрабуюць сваечасовай падрыхтоўкі мінэральнай сыравіннай базы. Будаўніцтва новых індустрыяльных комбінатаў на базе мясцовых прыродных рэсурсаў патрабуе неадкладнага паскарэньня тэмпаў вывучэньня прыродных багацьцяў нашай краіны.

Цэнтральны савет Т-ва пролетарскага турызму і „Комсомольская правда“ аб'явілі на 1932 г. масавы дасьледчы паход комсамолу і пролетарскіх турыстаў „насустрач другой пяцігодцы“. У гэты паход павінны ўключыцца і ўсе краязнаўчыя організацыі Цэнтральнае бюро краязнаўства цалкам уключаецца ў дасьледчы паход „насустрач другой пяцігодцы“ і будзе праводзіць яго разам з камсамолам і беларускім саветам Т-ва пролетарскага турызму.

Усе краязнаўчыя організацыі павінны мобілізаваць усе свае сілы на пасьпяховае правядзеньне масавага дасьледчага паходу за сыравінай для прамысловасьці. Усе краязнаўчыя ячэйкі і кожны краявед павінен організаваць шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, комсамольцаў, вучняў для вывучэньня сыравіны ў раёне свайго прадпрыемства, колгасу, савгасу, школы. Мы ставім зусім конкрэтную рэальную і ў той-жа час актуальную задачу:

а) вывучыць прыродныя багацьці у радыусе 10—15 кілёмэтраў кожнае школы і кожнага заводу, савгасу, колгасу, вёскі,

дзе ёсьць краязнаўчыя ячэйкі, школы і ячэйкі пролетарскага турызму, а там, дзе гэтых ячэек няма, іх трэба організаваць альбо стварыць спэцыяльныя краязнаўчыя дасьледчыя брыгады;

б) організаваць спэцыяльныя дасьледчыя экскурсіі і экспэдыцыі ў больш далёкія раёны па заданьнях дасьледчых, плянуючых і гаспадарчых устаноў;

в) прыняць актыўны ўдзел у працы спэцыяльных геолёгічных экспэдыцый у сваім раёне.

Краязнаўчыя організацыі павінны выдзеліць найбольш кваліфікаваных краяведаў для дапамогі і падрыхтоўкі дасьледчых груп турыстаў. У падрыхтоўцы і правядзеньні дасьледчага паходу „насустрач другой пяцігодцы“ самы актыўны ўдзел павінны прыняць усе краязнаўчыя музэі (популярызацыя задач дасьледчага паходу, дача даведак, выстаўкі колекцый мінэральнай сыравіны і інш.).

У пошукі сыравіны для нашай прамысловасьці! Насустрач другой пяцігодцы! *Кожная краязнаўчая ячэйка і кожны краявед павінны ўключыцца ў масавы дасьледчы паход па вывучэньні прыродных багацьцяў нашай краіны.*

Часопіс „Савецкая Краіна“ орган Цэнтральнага бюро краязнаўства—організуе консультацыю па ўсіх пытаньнях організацыі і правядзеньня дасьледчага паходу, будзе даваць адказы на ўсе запытаньні і зьмяшчаць паведамленьні па выяўленьню новых месц і новых відаў сыравіны.

Старшыня ЦБК Шырай.

Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

## Рэзолюцыя Ўсебеларускай нарады музэйных працаўнікоў па дакладу т. Серафімава „Музэй і краязнаўчая работа“.

1. Выходзячы з пастановы XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б) і XIV зьезду КП(б)Б, краязнаўчая работа музэяў павінна быць пабудавана так, каб у максымальнай меры мобілізаваць пролетарскую грамадзкасьць на выкананьне конкрэтных задач у чацьвертым заключным годзе першай 5-кі за ажыцьцяўленьне вялізарных задач 2-ой пяцігодкі.

2. Асноўнай палітычнай задачай краязнаўчай работы ўсіх музэяў і краязнаўчых у прыватнасьці зьяўляецца:

а) Барацьба за завяршэньне рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнае гаспадаркі;

б) Барацьба за ўкараненьне навейшай энэргетычнай базы, заснаванай на электрыфікацыі прамысловасьці, транспорту і с/г, выкарыстаньне багацейшых пакладаў торфу, воднай энэргіі і інш.

в) Барацьба за канчатковаеператварэньне БССР з краіны аграрна-індустрыяльнай у індустрыяльна-аграрную, за максымальнае разьвіцьцё нашай прамысловасьці (у першую чаргу на мясцовай сыравіне), хэмічнай прамысловасьці, транспорту, лясной прамысловасьці, за завяршэньне соц. рэконструкцыі с. г., мэханізацыі яе, разьвіцьцё соц. жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

г) Разгортваньне вытворча-тэхнічнай пропаганды і барацьба за аўладаньне тэхнікай шырокімі коламі рабочых і колгасьнікаў.

д) Актыўнейшы ўдзел у клясавай барацьбе пролетарыяту з капіталістычнымі элемэнтамі, у канчатковым выкарчоўваньні карэньняў капіталізму і рашучай барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай, контррэволюцыйным беларускім нацдэмократызмам і іншымі мясцовымі шовінізмамі.

е) Барацьба за хутчэйшае ажыцьцяўленьне культурнай рэволюцыі, політэхнізацыю школ і ператварэньне БССР у краіну суцэльнай пісьменнасьці.

3. Выходзячы з гэтых задач, краязнаўчыя музэі павінны весьці сыстэматычную барацьбу за выкананьне плянаў свайго раёну, паасобных прадпрыемстваў БССР і ўсяго Саюзу.

4. Разгарнуць сыстэматычную навукова-дасьледчую работу, мобілізуючы і організоўваючы для гэтага шырокія масы рабочых і колгасанікаў, выкарыстоўваючы вынікі навукова-дасьледчай работы для політыка-выхаваўчай работы.

5. Паказаць наведвальнікам усё жыцьцё краіны ў музэйнай экспозыцыі ў дынамічным разрэзе, ва ўзаемадзеяньні фактараў, якія прыводзяць да замены адной грамадзкай формацыі другою і прывялі да дыктатуры пролетарыяту.

6. Організоўваць вылучэньне і выяўленьне колектывізацыі з мэтай дапамогі кіруючым, плянуючым і гаспадарчым організацыям у правядзеньні організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і разгортваньня колектывізацыі.

7. Перабудова работы музэяў пад лёзунгам „тварам да соцбудаўніцтва“ абавязвае краязнаўчыя музэі ўдзяліць увагу асноўным проблемам соцыялістычнай організацыі працы, рацыяналізацыі вытворчасьці і аздараўленьню працы.

8. Штодзенная плянавая работа кожнага музэю, музэйнага работніка павінны заключацца ў організацыі краязнаўчых ячэек на заводах, у колгасах, а таксама ўцягненьне ў навукова-дасьледчую і краязнаўчую работу рабочых і колгасных мас, разгортваньне краязнаўства на конкрэтнай рабоце прадпрыемстваў, колгасаў у барацьбе за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну на аснове ажыцьцяўленьня шасьці гістарычных умоў тав. Сталіна, непрымірымай барацьбы з варожай пролетарыяту ідэолёгіяй у навукова-дасьледчай рабоце і ў краязнаўстве.

9. Выяўляць дыялектыку грамадзкіх формацый, узаемадзеяньне розных элемэнтаў пэўнай экономічнай эпохі, клясавай барацьбы

а базе існаваўшых вытворчых адносін, праз комплексную экспозыцыю найбольш адпавядаючаю дыялектычнаму прынцыпу.

10. Мэтоды работы краязнаўчых музэяў павінны выцякаць з асноўных конкрэтных задач соцбудаўніцтва ў кожны даны момант: організацыя экскурсій на музэйныя выстаўкі, перасоўкі, якія мобілізуюць і дапамагаюць вырашэньню гаспадарча-політычных задач (барацьба за прамфінплян, за якасьць продукцыі, барацьба з бракам).

11. Організаваць поўнае выяўленьне ўсіх карысных выкапняў мясцовай сыравіны і ўсіх рэсурсаў для максымальнага выкарыстоўваньня іх у соцбудаўніцтве.

12. Злажыць адзіны пяцігадовы плян разгортваньня ўсёй музэйнай сеткі БССР і дабіцца падвядзеньня цьвёрдай матар'яльнай базы пад усе раённыя краязнаўчыя музэі, а таксама сталага складу кваліфікаваных музэйных работнікаў.

13. Нарада лічыць неабходным неадкладна прыступіць да організацыі пры краязнаўчых музэях спэцыяльных політэхнічных аддзелаў паводле пастановы ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе.

14. Лічыць неабходным абавязаць дзяржаўныя музэі ўзяць шэфства над бліжэйшымі краязнаўчымі музэямі. Масаваму сэктару БАН організаваць забесьпячэньне музэяў адпаведнымі пэрыодычнымі выданьнямі, краязнаўчымі бібліотэкамі, інструкцыямі і програмамі па разгортваньню навукова-дасьледчай работы. Распрацаваць адпаведную інструкцыю і програму па організацыі музэяў на заводах і ў колгасах (БАН, Камісія этнографіі).

15. Разгарнуць усю работу краязнаўчых музэяў на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва, на аснове шасьці гістарычных умоў тав. Сталіна, у сьвятле яго ліста ў рэдакцыю часопісу „Пролетарская рэволюция".

# ХРОНІКА

## Дэкаднік БАН

ЦК КП(б)Б ухваліў ініцыятыву прэзыдыуму Беларускай Акадэміі Навук аб правядзеньні дэкадніку БАН у Віцебску, Гомелі і Койданаўскім нацыянальным польскім раёне. Асноўнымі задачамі дэкадніку зьяўляюцца: популярызацыя работы Беларускай Акадэміі Навук сярод шырокіх партыйных, рабочых і колгасных мас і мобілізацыя гэтых мас на выкананьне дырэктыў XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б), XIV зьезду КП(б)Б, сакавікоўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б, а таксама популярызацыя мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьні нацыянальнай політыкі партыі, культурнага будаўніцтва, прыродных багацьцяў і вытворчых сіл БССР.

Правядзеньне дэкадніку ў Віцебску і Гомелі намечана з 20 па 30 красавіка г/г., а ў Койданаўскім раёне пасьля правядзеньня пасеву 3-й бальшавіцкай вясны. Адпаведным раённым організацыям даны паказаньні аб сваечасовай падрыхтоўцы да правядзеньня дэкадніку і забесьпячэньні пасьпяховага правядзеньня яго. Для дапамогі мясцовым організацыям у падрыхтоўцы да правядзеньня дэкадніку з боку БАН камандыруюцца ў Віцебск Гомель адказныя працаўнікі.

У програму дэкадніку, апрача дакладаў аб дзейнасьці БАН і пэрспэктывах навукова-дасьледчай работы ў сувязі з другой пяцігодкай, уключаны даклады на наступныя тэмы: „Другая пяцігодка БССР. Проблема электрыфікацыі БССР у другой пяцігодцы. Сусьветны экономічны крызіс, крызіс буржуазнай культуры ў капіталістычных краінах і рост пролетарскай культуры ў СССР. Клясы і клясавая барацьба ў другой пяцігодцы. Уступленьне ў пэрыод соцыялізму. Ленінскі этап у філёзофіі. Сучасная літаратура і літаратурныя плыні на Беларусі і іншыя.

У будучым мяркуецца праведзеньне дэкадніку БАН у радзе другіх раёнаў.

## Экономіка-географічнае вывучэньне раёнаў БССР.

Інстытут экономікі Беларускай Акадэміі Навук сумесна з Дзяржплянам БССР і Цэнтральным бюро краязнаўства прыступіў да організацыі экономіка-географічных апісаньняў раёнаў БССР. Для опэрацыйнага кіраўніцтва, організацыйнай, мэтодычнай і консультацыйнай дапамогі і рэдагаваньня матар'ялаў па апісаньню раёнаў створана цэнтральная камісія ў складзе: т. т. Пятровіча, Лойка, Маргелава, Арлоўскага і Серафімава. Камісія ўжо прыступіла да работы. Членамі камісіі Маргелавым і Лойка складзена програма экономіка-географічнага апісаньня раёну. Програма друкуецца ў № 3 часопісу „Савецкая Краіна", будзе выдана асобнай брошурай і даслана на месцы. Да работы па складаньню экономіка-географічных апісаньняў раёнаў прыцягваюцца раённыя краязнаўчыя бюро, райпляны, навукова-дасьледчыя, навучальныя ўстаноны і іншыя організацыі і ўстановы раёнаў. Перад пачаткам работы неабходна шырока популярызаваць важнасьць экономіка-географічнага апісаньня раёну сярод раённых установаў, організацый і шырокай пролетарскай грамадзкасьці, з мэтай прыцягненьня адпаведнае ўвагі і дапамогі ў справе пасьпяховага правядзеньня гэтае работы. Для правядзеньня практычнай работы па апісаньню раёну трэба стварыць адзіную брыгаду з работнікаў адпаведных установаў і організацый, намеціць каляндарны плян работы, разьбіўшы яго па асобным галінам і вызначыць пэўныя заданьні кожнаму ўдзельніку брыгады, або асобнай групе брыгадзіраў. Пры складаньні экономіка-географічнага апісаньня раёну неабходна выкарыстаць матар'ялы раней надрукаваныя пра раён у асобных выданьнях, у пэрыодычным друку, справаздачныя матар'ялы і статыстычныя даныя раённых установаў і організацый, адпаведныя архівы і іншае.

Апрацаваныя матар'ялы неабходна без затрымкі дасылаць цэнтральнай камісіі (па адрасу Менск, Беларуская Акадэмія Навук, Інстытут экономікі), для рэдагаваньня і падрыхтоўкі да друку.

Па ўсім пытаньням, зьвязаным з складаньнем апісаньня раёну, неабходна зьвярнуцца да цэнтральнае камісіі, якая будзе даваць належныя адказы і тлумачэньні.

Да работы па складаньню экономіка-географічных апісаньняў раёнаў ужо прысту-

пілі наступныя раёны: Лагойскі, Смалявіцкі, Чэрвенскі, Бярэзінскі, Клічаўскі, Узьдзенскі, Бабруйскі, Быхаўскі, Барысаўскі, Горацкі, Магілеўскі і Бешанковіцкі.

Вельмі пажадана асьвятленьне ў друку ходу работы па апісаньню раёнаў. Часопіс „Савецкая Краіна" на сваіх старонках будзе зьмяшчаць адпаведны мясцовы матар'ял, а таксама паведамленьні цэнтральнай камісіі па гэтаму пытаньню.

Раённыя краязнаўчыя бюро, як цэнтры масавай навукова-дасьледчай работы на мясцох, павінны быць ініцыятарамі ў справе арганізацыі складаньня экономіка-географічнага апісаньня раёнаў, прыцягнуўшы да гэтай работы шырокія масы рабочых, колгасьнікаў і працаўнікоў адпаведных установаў і організацый.

*Т. К.*

## Аб навуковых экспэдыцыях БАН

По інстытутах і сэктарох БАН праводзіцца вялікая падрыхтоўчая работа да організацыі навукова-дасьледчых экспэдыцыі па БССР улетку бягучага году. Распрацаваны плян экспэдыцый у галіне геолёгічнага дасьледваньня, вывучэньня глеб БССР і экономічнага дасьледваньня 4 раёнаў па рэчцы Сьвіслачы і інш. Пляны экспэдыцый у хуткім часе будуць разглядацца прэзыдыумам БАН і шырока будуць популярызаваны ў друку. Да ўдзелу ў правядзеньні экспэдыцыі будуць прыцягвацца мясцовыя ўстановы і краязнаўчыя організацыі. Па дагаваранасьці з Белдзяржкіно ў часе правядзеньня экспэдыцый будуць рабіцца адпаведныя кіноздымкі. Пляцы экспэдыцый будуць зьмешчаны ў адным з чарговых нумароў часопісу „Савецкая Краіна".

## Да комплекснага вывучэньня Койданаўскага раёну

У сувязі з перэтварэньнем Койданаўскага раёну ў нацыянальны польскі раён, Прэзыдыум БАН прыняў пастанову аб выданьні „Спэцыяльнага зборніку аб Койданаўшчыне". Тэрмін выданьня зборніку вызначаны да 1 ліпня г/г. Для зборніку будуць скарыстаны матар'ялы комплекснай экспэдыцыі БАН па вывучэньню Койданаўшчыны, якая праведзена ўлетку мінулага году. Адказнасьць за выданьне зборніку ўскладзена на Польскі сэктар БАН і ўдзельнікаў экспэдыцыі па комплекснаму вывучэньню Койданаўшчыны.

## Краязнаўчая праца ў Самахвалавіцкай школе колгаснай моладзі

У лютым месяцы бягучага году пры Самахвалавіцкай школе колгаснай моладзі організавана краязнаўчая ячэйка ў ліку 70 асоб. Ячэйка разгарнула досыць значную навукова-дасьледчую працу ў Самахвалавіцкім сельсавеце. Організаваны фэнолёгічныя пункты ў колгасах „Ленінскі Шлях" і імя БАН, дзе брыгады ячэйкі праводзяць сыстэматычныя фэнолёгічныя назіраньні. Праведзена работа па вымярэньню сьнегавога насьцілу на тэрыторыі паказаных колгасаў. Распачата работа па монографічнаму апісаньню колгасу імя БАН; работа гэтая праводзіцца сумесна з брыгадамі колгасьнікаў і будзе скончана да 1 чэрвеня б/г. Ячэйка ўключылася ў падрыхтоўку да ўдзелу ў правядзеньні 3 бальшавіцкай вясны; створаны брыгады па ачыстцы насеньня, распаўсюджваньню сельска-гаспадарчай літаратуры, па збору попелу, па вывучэньню організацыі працы ў колгасах і г. д. Таксама вывучаецца і зьбіраецца адпаведны матар'ял па ажыцьцяўленьню пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе ва ўмовах Самахвалавіцкага сельсавету.

Праца ячэйкі праводзіцца па зацьвярджанаму агульным сходам ячэйкі пляну. Усе члены ячэйкі разьмеркаваны на паасобныя брыгады. Кожнай брыгадзе вызначаны пэўныя заданьні з агульнага пляну. У працах брыгад прымаюць актыўны ўдзел выкладчыкі адпаведных дысцыплін школы, якія даюць мэтодычны напрамак, консультацыі і дапамагаюць апрацоўваць сабраны матар'ял. Адміністрацыя школ і ўсе школьныя організацыі цікавяцца працаю ячэйкі і аказваюць ёй належную дапамогу. У канцы навучальнага году ячэйка намеціла організацыю краязнаўчае выстаўкі, якая будзе служыць пачаткам організацыі краязнаўчага політэхнічнага музэю пры школе.

Ячэйкай сабрана падпіска на 15 экзэмпляраў часопісу „Савецкая Краіна"

Праводзіцца зараз падрыхтоўчая работа да збору сіламі ячэйкі на працягу надыходзячых вясны і лета экспортнае сыравіны (ражкі) і лекавых расьлін.

Ячэйка зьвязалася з організацыямі асоавіяхэму для ўдзелу ў працы па ўзмацненьню абароназдольнасьці краіны і з організацыяй Чырвонага крыжу для ўдзелу ў працы апошняга.

П. Ламака.

**Ад рэдакцыі:** Зьмяшчаючы інформацыю аб працы ячэйкі, рэдакцыя лічыць патрэбным зьвярнуць увагу ячэйкі на разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва як сярод асобных брыгад і груп ячэйкі, так і на заключэньне дагавору на соцспаборніцтва з суседняю школаю.

## На торфараспрацоўках

У Васілевіцкім сельсавеце Рэчыцкага раёну ў вярхоўі рэчкі Выдрыч, правае прытокі Дняпра, на адлегласьці 4 км ад ст. Васілевічы Заходняй чыгункі знаходзіцца значная плошча балот пад назваю „Закрашынскі" мох. Балота займае пра-

стору да 500 га. Да Кастрычнікаўскае рэволюцыі гэтым балотам ніхто ня цікавіўся. Яго адносілі да так званых закінутых плошчаў—няўдобы. Яно было недаступна для чалавека і для жывёлы (?). Пасьля Кастрычнікаўскае рэволюцыі на балота зьвярнуў увагу былы Гомельскі акруговы зямельны аддзел. З 1918 году распачата работа па асушцы яго і скарыстаньні тых вялікіх запасаў торфу, якія захоўвае ў сабе балота. Работа гэтая, трэба сказаць, праходзіла досыць марудна да 1929 году, пакуль справа ня трапіла ў рукі Белторфу. Апошні як сьлед узяўся за здабычу торфу. Па праведзеным досьледам балота мае пласт торфу таўшчынёю да двух мэтраў з запасам торфу да 2.300.000 куб. мэтраў. Зараз там пабудаваны тарфяны завод, на якім у 1931 г. працавала 550 чал. За сэзон 1931 г. здабыта машыннага торфу 100.214 тон пры пляне ў 100.000 тон, падсьцілачнага торфу здабыта 1.800 тон пры пляне ў 2.000 тон, што дае недавыкананьне на 200 тон. Машынны торф накіроўваецца ў Рэчыцу і Новабеліцу на запалкавыя і іншыя фабрыкі, а падсьцілачны ў Менск і Гомель. 2.500 тон торфу, які здабыты ў сэзон мінулага году, яшчэ не адпраўлены на месцы прызначэньня, з прычыны недахопу транспортных сродкаў. Сэзон па рэзцы торфу пачынаецца 1 мая і працягнецца да 1 лістапада.

На заводзе маецца 2 торфарэзачныя машыны і 1 торфамялка. Сабекошт аднэй тоны торфу абыходзіцца ў 10 р. 50 кап., а прадаецца за 9 р. 90 кап. з яўнаю стратаю для заводу, але гэта мяркуецца зьнішчыць у будучым за кошт большае мэханізацыі заводу.

Для рабочых заводу пабудавана 7 баракаў. Ёсьць чырвоны куток, бібліотэка, клюб, выдаецца насьценная газэта. Культурна-масавую работу сярод рабочых заводу, апрача партыйнай, комсамольскай і профсаюзнай організацыі, праводзіць Васілевіцкая ШКМ. З грамадзкіх організацый сярод рабочых заводу маюцца наступныя: ячэйка Асоавіяхэму, МОПР у і Ваяўнічых бязбожнікаў.

Сярод рабочых разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва. У мінулым годзе прэм'яванa 10 лепшых ударнікаў за добраякаснае і сваечасовае выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў. Праца на заводзе перабудавана ў адпаведнасьці з 6 гістарычнымі ўмовамі т. Сталіна. Ліквідавана абязьлічка, адпаведныя групы і брыгады рабочых прымацоўваюцца да пэўных машын, выпрацоўваюцца зараней адпаведныя нормы выпрацоўкі, уведзена прэміяльна-зьдзельная сыстэма аплаты работы і г. д.

Зараз распачата і праводзіцца падрыхтоўчая работа да пачатку сэзону 1932 г., рэмонтуюцца машыны, праводзіцца плянавая падрыхтоўка кадраў і набор рабочае сілы. З вясны мяркуецца ўвядзеньне аўтотрактарнае перавозкі торфу з балота да чыгуначнай станцыі, што паскорыць хутчэйшую перакідку продукцыі на завод і перавозка будзе больш танная ў параўнаньні з гужавым транспортам.

У будучым мяркуецца на месцы выкапанага торфу разводзіць рыбную гаспадарку.

Р. Зямлянскі.

## Работа ЦБК за студзень—сакавік

У студзені—сакавіку месяцы ў ЦБК праведзена наступная работа:

1. Падведзены вынікі работы за 1931 год і канчаткова складзены плян работ на 1932 год.
2. Праведзена абсьледваньне краязнаўчых організацый Рэчыцкім, Талачынскім і Бешанковіцкім раёнах.
3. Зроблены даклады на настаўніцкіх конфэрэнцыях у Менску і Талачыне на тэму: „Політэхнізацыя школы і краязнаўства“.
4. Працаўнікі ЦБК прынялі ўдзел у рабоце Ўсебеларускае нарады музэйных працаўнікоў, дзе зроблены даклад—„Музэй і краязнаўчая работа“.
5. Зроблены даклад на паседжаньні сакратарыяту Менскага Гаркому КП(б)Б „аб стане краязнаўчай работы ў Менску і прыгарадным раёне“.
6. Укомплектаваны штат ЦБК двума новымі працаўнікамі.
7. Распрацаваны формы ўчоту краязнаўчае сеткі і яе работы і праз Дзяржплян дасланы ўсім раёнам для прадстаўленьня адпаведных вестак.
8. Пераапрацавана палажэньне аб раённым бюро краязнаўства, краязнаўчай ячэйцы, зацьверджана Прэзыдыумам БАН, надрукавана і даслана раённым краязнаўчым організацыям, а таксама надрукаваны членскія білеты для краязнаўчых організацый і дасланы на месцы.
9. Сумесна з Беларускім Саветам Бюро вынаходцаў напісана адносіна да ўсіх вынаходцаў аб удзеле у краязнаўчай рабоце і аб популярызацыі вынаходніцтва ў часопісе „Савецкая Краіна“ праз дасылку адпаведных корэспондэнцый.
10. Пры ЦБК організавана бюро дапамогі вынаходцам.
11. Сумесна з Белторфам распрацоўваецца паказаньне краязнаўчым організацыям аб іх удзеле ў вывучэньні торфу, а таксама сумесна з скураною сэкцыяй Інстытуту прамысловасьці распрацоўваецца паказаньне аб удзеле краязнаўчых організацый у вывучэньні дубіцеляў—16 п. дубу і елкі.
12. Да 3 бальшавіцкай вясны надрукаваны артыкул у № 1 „Савецкая Краіна“ „Аб задачах краязнаўчых організацый у гэтай важнай гаспадарчай політычнай компаніі“, даны пэўныя заданьні членам корэспондэнтам ЦБК аб напісаньні раду артыкулаў у часопіс „Савецкая Краіна“ аб ходзе падрыхтоўкі і правядзеньні вясновай сяўбы ў раёнах, колгасах і саўгасах і праз часо-

піс „Савецкая Краіна“ пачаты агляд масавай літаратуры да 3 бальшавіцкай вясны.

13. Працаўнікамі ЦБК напісана 7 артыкулаў для часопісу „Савецкая Краіна“ і 4 артыкулы ў газэты.

14. Выдана № 1 „Савецкай Краіны“, зданы ў друк № 2 і падрыхтаваны да друку № 3.

15. Працаўнікі ЦБК прымацаваны да пэўных раёнаў для выездаў на месцы па рэалізацыі пляну работы ЦБК і дапамогі мясцовым краязнаўчым організацыям у разгортваньні работы.

16. Зданы ў друк зборнік „Савецкае Краязнаўства на службу соцыялістычнаму будаўніцтву“ і падрыхтаваны да друку зборнік програм і інструкцый па краязнаўству.

17. Перададзены па радыё даклады: а) „Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і задачы краязнаўчых організацый“, б) „За актыўны ўдзел краязнаўчых організацый у пасеўкампаніі“.

## Работа ЦБК у 1931 г.

1931 год для ЦБК быў годам карэннай перабудовы ўсёй краязнаўчай работы ў БССР, пераводу гэтай работы на абслугоўваньне задач соцыялістычнага будаўніцтва. Асноўнымі задачамі, якія былі пастаўлены перад новым складам ЦБК, зьяўляліся: выкрыцьцё і рашучая барацьба з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам, вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай, і рознымі мясцовымі шовінізмамі, з рознымі буржуазнымі плынямі ў краязнаўстве; барацьба за пролетарскую ідэолёгію і марксысцка-ленінскую мэтодолёгію; за партыйнасьць у масавай дасьледчай рабоце; карэнная перабудова краязнаўчае сеткі—організацыя ячэек на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах; уцягненьне шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў і працоўнай інтэлігенцыі ў краязнаўчую работу; цесная ўвязка работы краязнаўчых організацый з партыйнымі, профсаюзнымі, савецкімі, комсамольскімі, гаспадарчымі і пляную чымі ўстановамі і організацыямі.

Выходзячы з гэтых асноўных задач, ЦБК і праводзіла ўсю сваю работу. ЦБК прымала актыўны ўдзел у рабоце брыгад, створаных катэдрай філёзофіі па праверцы друкаванай краязнаўчай продукцыі і выкрыцьцю контррэволюцыйнай нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі і мэтодолёгіі ў краязнаўстве, вялікадзяржаўніцкіх і наогул анты-ленінскіх установак у нацыянальным пытаньні. У выніку гэтай работы, якая вялася на працягу ўсяго году, у часопісе „Савецкая Краіна“, газэтах „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“ і іншых быў надрукаваны рад крытычных артыкулаў. ЦБК разам з раённымі выканаўчымі камітэтамі і мясцовымі організацыямі была праведзена работа па ачышчэньні краязнаўчых організацый ад усіх варожых і чужых элемэнтаў. У выніку праверкі складу краязнаўчых організацый былі выключаны з радоў членаў-корэспондэнтаў ЦБК: Ламака М., Пяцэвіч Р., Малешка С. і інш.

У мэтах раскрыцьця контррэволюцыйнае дзейнасьці нацдэмаў і наогул варожых элемэнтаў у галіне краязнаўства і популярызацыі задач савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас працаўнікі ЦБК выяжджалі ў Гомель, Віцебск і Магілеў, дзе на куставых нарадах Саюзу працасьветы рабілі даклады аб становішчы на краязнаўчым фронце і задачах савецкага краязнаўства. У Менску працаўнікамі ЦБК і навуковымі працаўнікамі БАН было зроблена 20 дакладаў на фабрыках, заводах, у прыгарадных колгасах, на сходах студэнцтва і інш.

Згодна дырэктывы ЦК КП(б)Б з 25—30 студзеня ЦБК была абвешчана „краязнаўчая пяцідзёнка“, якая павінна была мобілізаваць усю пролетарскую грамадзкасьць на карэнную перабудову краязнаўства і ўцягненьне ў краязнаўчую работу шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства і працоўнае інтэлігенцыі, а таксама мобілізаваць гэтыя масы на выкрыцьцё спадчыны беларускага контррэволюцыйнага нацдэмократызму ў краязнаўчай справе і рашучую барацьбу за разгортваньне савецкага краязнаўства. —

Да „краязнаўчай пяцідзёнкі“ была выдана брошура „За савецкае краязнаўства“, у якой выкрываўся контррэволюцыйны зьмест нацдэмаўскага краязнаўства і даны кіраўнічы інструкцыйны матар'ял па разгортваньню савецкага краязнаўства. Былі таксама надрукаваны і дасланы на раёны для заводаў, колгасаў, саўгасаў адпаведныя лёзунгі, плякаты і тэзісы для дакладчыкаў на беларускай і яўрэйскай мовах.

У цэнтральным і мясцовым пэрыодычным друку—газэтах: „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“, „Рабочий“, „Колгасьнік Беларусі“, „Чырвоная зьмена“, „Віцебскі пролетары“, „Чырвоная Полаччына“, „Палеская праўда“, і інш. было зьмешчана да 25 артыкулаў, прысьвечаных правядзеньню „краязнаўчай пяцідзёнкі“. Аднак, вынікі „краязнаўчай пяцідзёнкі“ атрыманы нязначныя. Толькі ў частцы раёнаў, як Клімавіцкі, Жыткавіцкі, Слуцкі, Старадароскі і інш., былі дасягнуты некаторыя зрухі ў справе разгортваньня савецкага краязнаўства, організаваны краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і пры некаторых прадпрыемствах і школах. У пераважнай-ж большасьці раёнаў амаль нічога ня было зроблена ў справе правядзеньня краязнаўчае пяцідзёнкі, з прычыны яўна опортуністычнай недаацэнкі ўсёй важнасьці разгортваньня масавай дасьледчай працы для соцыялістычнага будаўніцтва.

На працягу году працаўнікі ЦБК у мэтах інструктаваньня і мэтодычнай дапамогі выяжджалі ў 17 раёнаў, дзе былі організаваны раённыя бюро краязнаўства, аказана дапамога ў складаньні пляну работы, орга-

нізацыі дасьледчае работы і інш. У выніку ўсіх мерапрыемстваў к канцу 1931 г. намеціліся зрухі і ажыўленьне краязнаўчай работы ў 25 раёнах. Некаторыя раённыя бюро, як Віцебскае, Слуцкае, Уваравіцкае Буда-Кашалёўскае, Тураўскае, Жлобінскае і інш., ужо прыступілі да плянавае работы, вызначаны конкрэтныя тэмы дасьледчай работы, якія цесна зьвязаны з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва: вывучэньне мінэральных багацьцяў, экономікі раёнаў, прамысловасьці, колгаснага будаўніцтва, вывучэньне пытаньняў організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і інш.

У справе карэннай перабудовы краязнаўчай работы на месцы трэба было даць адпаведны інструкцыйна-програмны і мэтодычны матар'ял. Патрэбнасьць у гэтым адчувалася асабліва востра, бо тымі програмамі і інструкцыямі, якія былі выданы раней пры нацдэмаўскім кіраўніцтве, ні ў якім разе нельга было карыстацца; яны давалі шкодныя ўстаноўкі, зусім ня мелі на ўвазе вывучэньне актуальнейшых проблем соцыялістычнага будаўніцтва. Зусім ня было програм па вывучэньню прамысловасьці, соцыялістычнай жывёлагадоўлі, экономікі раёнаў і г. д. Працаўнікамі ЦБК і некаторымі раённымі організацыямі і навуковымі працаўнімі-краяведамі іншых дасьледчых устаноў было напісана і надрукавана 13 програм і інструкцый па вывучэньню актуальнейшых проблем соцыялістычнага будаўніцтва: па вывучэньню глеб, экономікі раёнаў, соцыялістычнай жывёлагадоўлі, прамысловасьці, колгасаў, рэвруху, выданы матар'ялы па вывучэньню грамадзянскай вайны, гісторыі заводаў і інш. Аднак, трэба адзначыць, што надрукаваныя програмы далёка не задавальняюць запатрабаваньняў краязнаўчых ячэек. Выданьне програмна-мэтодычнай літаратуры павінна быць узмоцнена.

У навукова-дасьледчай рабоце краязнаўчых організацый ёсьць ужо пэўны зрух у сэнсе ўключэньня краязнаўчых організацый у вывучэньне і распрацоўку актуальных задач соцыялістычнага будаўніцтва: вывучэньне прамысловасьці (5 артыкулаў), колгаснага будаўніцтва (22 арт.), разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі (6 арт.) і інш. Але-ж гэта толькі пачатак работы. Систэматычная плянавая дасьледчая работа ў краязнаўчых організацыях адсутнічала і якасьць дасьледчае краязнаўчае работы яшчэ досыць нізкая. На разгортваньне навукова-дасьледчай работы, на павышэньне яе якасьці ЦБК і ўсе краязнаўчыя організацыі павінны зьвярнуць самую вялікую ўвагу ў 1932 г. Гэта вымагаецца гаспадарчымі плянамі чацьвертага заключнага году і задачамі другой пяцігодкі.

У краязнаўчай рабоце надзвычайна вялікае значэньне мае актыўны ўдзел краязнаўчых організацый у правядзеньні палітычна-гападарчых кампаній. Працаўнікі ЦБК прымалі непасрэдны ўдзел у правядзеньні месячніку агляду соцыялістычнага вопыту ў сельскай гаспадарцы, правядзеньне другой бальшавіцкай вясны і інш., былі даны інструкцыйныя паказаньні аб актыўным удзеле краязнаўчых бюро і ячэек ва ўсіх важнейшых гаспадарча-політычных кампаніях. Аднак, з усё рашучасьцю трэба падкрэсьліць, што краязнаўчыя організацыі, як рэальная організаваная сіла, у гэтых кампаніях сябе не праявілі належным чынам, і ў гэтым заключаецца адна з прычын недаацэнкі з боку гаспадарчых устаноў і організацый значэньня краязнаўчай работы.

У мэтах падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў ЦБК быў намечаны рад мерапрыемстваў і між іншым організацыя курсаў-сэмінараў у Менску для рабочых. Гэта мерапрыемства, аднак, ня было ажыцьцёўлена з прычыны адсутнасьці належнае дапамогі з боку профсаюзных організацый і ў першую чаргу з боку Горпрофсавету. Падрыхтоўка пролетарскіх краязнаўчых кадраў і стварэньне шырокага краязнаўчага актыву з рабочых, колгасьнікаў, агрономаў, настаўніцтва навакол краязнаўчага бюро зьяўляецца аднэй з баявых задач у рабоце ўсіх краязнаўчых організацый, пачынаючы ад ЦБК і канчаючы ячэйкамі.

У галіне выдавецкай справы за 1931 г. выдана 12 нумароў часопісу „Савецкая Краіна", які выходзіў досыць рэгулярна. Праз часопіс „Савецкая Краіна" ішло накіраваньне ўсёй краязнаўчай справы і высьвятленьне яе стану на мясцох. На працягу году ў часопісе зьмешчаны матар'ялы: а) па організацыйна-мэтодычным пытаньням і зьместу савецкага краязнаўства—29 артыкулаў; б) програмы і інструкцыі—10; в) барацьба за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію ў навуцы—20; г) рэврух і гісторыя Беларусі—7; д) па пытаньням прамысловасьці—5; е) па рэконструкцыі сельскае гаспадаркі—22; ж) па вывучэньню раёнаў—4; з) па соцыялістычнай жывёлагадоўлі—6; і) па музэйнаму пытаньню — 4; к) па антырэлігійнаму — 3; л) па пытаньням кадраў—3; м) бібліографіі—11; н) і розных—15.

Апрача часопісу „Савецкая Краіна" выданы брошуры:

1) „За савецкае краязнаўства".
2) „Вывучай колгас (програма)—В. Серафімава.
3) „Як організаваць монографічнае вывучэньне раёнаў"—В. Самцэвіча.
4) „Зрухі і задачы санітарнага аздараўленьня вёскі ў сувязі з соцыялістычнай яе рэконструкцыяй"—д-ра Магілеўчыка.
5) Програмы па вывучэньню глеб Беларусі—П. Рагавы.
6) „Вывучай гісторыю грамадзянскай вайны".
7) „Вывучай гісторыю заводаў".
8) „Як організаваць вывучэньне фабрык і заводаў"—В. Самцэвіча.
9) „Экскурсія на завод" і інш.

У выдавецкай працы ЦБК і Масавага сэктару БАН меліся і паасобныя політычныя памылкі: надрукаваньне інструкцый па выву-

культуры і быту лесарубаў і плытаговаў, напісанай І. Сербавым, выданьне ў перакладзе брошуры В. Цімашова „Экономічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія“ і інш. Крытыка гэтых памылак дана ў часопісе „Савецкая Краіна“ № 11 і 12 за 1931 г.

Социялістычныя мэтоды работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва—ня былі разгорнуты ў краязнаўчых організацыях. ЦБК заключыла дагавор на спаборніцтва з ЦБК РСФСР (да якога пазьней далучыўся і Украінскі камітэт краязнаўства). Аднак, ЦБК не змагло дабіцца выкананьня ўсіх пунктаў вызначаных у дагаворы. Зараз праводзіцца праверка выкананьня соцдагавору, вынікі якой будуць паданы ў бліжэйшым нумары „Савецкае Краіны“. З раённых-жа організацый толькі Асіпавіцкае райбюро працавала мэтодамі соцспаборніцтва. Неразгортваньне соц. мэтодаў работы ў краязнаўчых оргазізацыях зьяўляецца аднэй з найгалоўнейшых прычын слабой работы ў краязнаўчых організацыях.

Асноўнымі недахопамі ў рабоце ЦБК за 1931 г. былі: а) незабясьпечанасьць ЦБК належным складам працаўнікоў; адрыў наяўнага складу працаўнікоў ад непасрэднай работы на розныя кампаніі і грамадзкую работу; адсутнасьць сталых хаця-б часткова вызваленых ад іншых абавязкаў працаўнікоў у раённым бюро і краязнаўчага актыву як пры ЦБК, так і пры раённых бюро краязнаўства; б) зусім недастатковыя тэмпы ў разгортваньні сеткі краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, колгасах, савгасах і слабасьць практычнай работы па організацыйнаму ўмацаваньню ячэек, падрыхтоўцы кадраў; в) недастатковы ўдзел краязнаўчых організацый і музэяў у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній; г) адсутнасьць плянавасьці ў дасьледчай рабоце большасьці краязнаўчых організацый і нявысокая продукцыйнасьць гэтае работы; д) адсутнасьць соцыялістычных мэтодаў работы ў краязнаўстве (за выключэньнем паасобных адзінкавых організацый).

Гэтае адставаньне краязнаўчае работы ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, ад усё ўзрастаючай актыўнасьці рабочых і працоўных мас ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва павінна быць ліквідавана ў бліжэйшыя месяцы 1932 г. Баявымі задачамі ў рабоце ўсіх краязнаўчых організацый павінны быць:

а) організацыйнае замацаваньне і ўзмацненьне работы існуючых краязнаўчых ячэек і павялічэньне росту краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах, савгасах, пры гаспадарчых установах, школах (асабліва пры ВНУ, тэхнікумах, ФЗС і ШКМ);

б) павялічэньне ролі краязнаўчых організацый у дасьледчай рабоце, у распрацоўцы актуальнейшых тэм соцыялістычнага будаўніцтва; экономічнае вывучэньне раёну, спэцыялізацыя колгасаў, вывучэньне сыравінных рэсурсаў, барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці і продукцыйнасьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі і г. д.;

в) актыўны ўдзел усіх краязнаўчых організацый у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній (трэцяя бальшавіцкая вясна, уборачная, хлебанарыхтоўкі і інш.);

г) хутчэйшая перабудова работы краязнаўчых музэяў і ўключэньне іх у актыўную барацьбу за пабудову соцыялізму;

д) барацьба за выкананьне прамфінпляну чацьвертага заключнага году пяцігодкі і актыўны ўдзел у складаньні плянаў другой пяцігодкі;

е) перабудова ўсёй краязнаўчай работы на аснове ажыцьцяўленьня 6 ўмоў тав. Сталіна і соцыялістычных мэтодаў работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Належныя вынікі ў краязнаўчай рабоце могуць быць дасягнуты толькі пры ўмове сапраўднай барацьбы ўсіх краязнаўчых організацый, як супроць самацёку ў краязнаўстве, недаацэнкі організацыйнага замацаваньня краязнаўчай сеткі, так і супроць пагоні толькі за колькасным ростам краязнаўчай сеткі без умацаваньня якасьці дасьледчай краязнаўчай работы. Усе краязнаўчыя організацыі павінны ўзмацніць клясавую пільнасьць і весьці бязьлітасную барацьбу з усімі варожымі плынямі ў краязнаўстве.

С. і К.

## Папраўка

У часопісу „Савецкая Краіна“ № 1 за студзень 1932 года на ст. 75 надрукаваны артыкул Т. А. Рэмізава *„Фэнолёгічныя назіраньні па БССР за 1932 год“*.

Трэба чытаць *„Фэнолёгічныя наглядаваньні па БССР за 1931 год“*.

Рэдакцыя.

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 499. Заказ № 791. Тыраж 1000 экз. 5 арк.

# Зьмест

Цана 50 к.

794

1964 г.

1932 год **ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА** 1932 год

# НА КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „САВЕЦКАЯ КРАІНА“

**Орган Масавага Сэктару БАН і Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

НА ГОД—4 руб., на 9 мес—3 р. 25 к. на 6 мес.—
2 р. 25 к., на 3 мес.—1 руб. 25 к., на 1 мес.—50 к.

**Цана асобнага нумару 50 кап.**

Падпіска прымаецца на пошце, у раённых кнігарнях, у раённых бюро краязнаўства.

**РЭДАКЦЫЯ**